**ДУЛІНА АД БАРАДУЛІНА.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/ Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.

Аўтар праекту, рэдактар
і ўкладальнік *Аляксандар Уліцёнак*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Аляксандра Макавік*
Набор *Вольга Курбатава*
Фота *Сяргей Шапран*



ISBN 0929849-06-X

# Вельмі паветраныя пацалункі

Шаноўныя чытачкі й іншыя маральна няўстойлівыя асобы!
Праявіце ўстойлівасьць і не чытайце ў гэтай кнізе старонкі *178—189*!
Дарагія бацькі непаўналетніх!
Хавайце гэтую кнігу ў недаступным для дзяцей месцы да дасягненьня паўналецьця!
Бедныя інтэрнэт-залежныя!
Не распаўсюджвайце ва ўсясьветным сеціве адно згаданыя дванаццаць старонак!
Паважаныя астатнія грамадзяне!
Не чытайце гэтыя старонкі ўголас у грамадзкім транспарце, са сцэны, падчас дажынак і іншых масавых гуляньняў!
Непадкупныя пракуроры й судзьдзі!
Не вырывайце вышэйзгаданыя старонкі з кантэксту й не судзіце сувора тых, хто ўсё ж будзе чытаць іх уголас!
Вельмішаноўныя чытачы старонак *5—254*!
Віншуем вас з новай сустрэчай са свабодным паэтам і паэтам свабоды!
Раней Рыгор Барадулін даваў «Свабодзе» сур'ёзныя інтэрвію, пасьля чытаў ля мікрафона мілагучныя вершы й пераклады, затым пачаў пісаць эсэ на грамадзка значныя (с. *160—177*) і агульначалавечыя тэмы (с. *178—189*). Але за вясной прыйшло лета 2004 году, і дзядзька Рыгор штодня стаў круціць дуліны ў эфіры старым і новым сябрам і знаёмцам, а пасьля агледзеўся й на адным дыханьні паслаў яшчэ паўсотні паветраных пацалункаў журналістам і слухачам «Свабоды». Мы былі аслупянелі й вось выдалі кнігу — а што рабіць? Паэты, як вядома, не даюць пацалункаў без узаемнай любові, у якой мы расьпісваемся — бяз дулі ў кішэні.

*Аляксандар Лукашук,*
*неаб'ектыўны пэрсанаж дуліны на с. 236*



*Каму маўчаць, а каму крычаць...*

# Лета з Барадулiным

**Дуліны ад 1 чэрвеня да 31 жніўня 2004**

## Міхаіл Ягораў

Дваццацігодзьдзе пачатку вайны. Трансьляцыя з паседжаньня ў Крамлі. Міхаіл Ягораў кажа: «Закрапілі мы знамя і ўвідзілі Бярлін на ладані...» Уразіла гаворка героя, і недзе закралася думка, а ці не зямляк ён раптам, ці не беларус. Празь нейкі час паехаў я ў Рудню, што на Смаленшчыне, да Міхаіла Ягорава. Не застаў. Ён паехаў у Віцебск, я сьледам. Застаў у віцебскім таварystве «Веды». Убачыўшы фотаапарат у Міхася Мінковіча, як адрэзаў:

— Запісвацца на магнітафон ня буду. Ня маю часу.

Прапануем перакусіць у буфэце гасьцініцы «Дзьвіна». Угаварылі. На стале «Горны дубняк». Наліваем, выпіваем. Герой пачынае хіліць галаву на буфэтны столік. А я пачынаю сваё: «Ну вы ўсё ж беларус?» Раптам Ягораў цьверазее і, лёгка ўстаўшы з-за стала, рапартуе: «Не, я рускі».

Пасьля ня помню ўжо якой пляшкі Міхаіл сказаў, што дзед быў беларус. Ды тут буфэт на абед зачынілі. Так «Горны дубняк» і не перамог героя. Мне заставалася толькі канстатаваць:



дуліна ад Барадуліна

*Хто зьведаў рызыкі й страху смак,*
*Баіцца нават уласнага норава.*
*І «Горны дубняк»*
*Не памог ніяк*
*Зрабіць Міхасём Міхаіла Ягорава...*

Станіслаў Шушкевіч у гісторыю навукі сваімі адкрыцьцямі ўвайшоў трывала й надоўга. А яшчэ трывалей і даўжэй увайшоў дасьведчаны вучоны, нашчадны інтэлігент у гісторыю закрыцьцём савецкай імпэрыі. Падпісаць прысуд імпэрыі зла наканавана было якраз сыну беларускага паэта, які адседзеў увесь тэрмін у сталінскіх лягерах. Шушкевіч, Краўчук, Ельцын — добры саюз, трывалы зьвяз трох народаў. Мяноўна гэты саюз, а не «единый, могучий» даў волю іншым народам, якіх табунна называлі адным паняцьцем — савецкі народ. Як з казкі тром асілкам, тром мужным сынам

## Станіслаў Шушкевіч

трох народаў трэба дзякаваць. Як там ва Ўкраіне ці ў Расеі дзячылі, гэта справа іхняя. А вось Станіслава Шушкевіча ўшанавалі як нідзе ў сьвеце. Прэзыдэнт асабіста ўпарадчыў пэнсію сьпікеру Вярхоўнага Савету. Яна не дацягвае да паўтара даляра. Станіславу Станіслававічу трэба рабіць платную апэрацыю на воку. Калі б разьлічвацца грашыма пэнсійнымі, трэба аддаць пэнсію за 40 гадоў. А колькі Бог дасьць гадоў, невядома. Такая пэнсія — помста рамантыку са шчодрай душой ад агрэсіўных настальгійцаў па Савецкім Саюзе. Васіль Быкаў у свой час папярэджваў Шушкевіча наконт камуністаў. Але ўзьнёслы рамантык быў упэўнены, што яны не ўваскрэснуць. І вось вынік. Гэта як гульня ў шахматы з вар'ятам. Пакуль будзеш абдумваць ход, а ён цябе дошкай па галаве. І ў мяне склаліся радкі:





*Лягчэй напэўна Гімалаі зрыць,*
*Чым навучыць —*
*І сьпікер ведаў гэта, —*
*На беларускай мове гаварыць*
*Таварышаў зь Вярхоўнага Савета.*
*Інтэлігент паверыў сам сабе,*
*Што масла згоды з бурбалак саб'е!*
*Ды зьбілі з тропу бурбалкі самога,*
*Не ўратавала сьпікерская тога.*
*Дасьведчана засьведчана вякамі —*
*Рамантык не дамовіцца з ваўкамі...*

Уладзімер Шахавец

У Маскве выходзіла адна зь першых анталёгіяў беларускае паэзіі. Твардоўскі, ня дужа ахвочы да перакладаў, пераклаў колькі вершаў маладога паэта. І выйшаў том. Але зь яго выпаў адзін вершатворца, бо ў біяграфічнай даведцы значылася, што аўтар пачаў пісаць прозу. Паэтам гэтым стаўся Ўладзімер Шахавец. Ён пасьля жартаваў, што з даведкай атрымалася амаль як у показцы: «Украў цыган кабылу, а жарабя пакінуў».
Уладзімер Шахавец працаваў і ў выдавецтве «Беларусь», а пасьля ў «Мастацкай літаратуры». Я часта казаў, што трэба казаць не «выдавецтва», а «шахавецтва». Нашая рэдакцыя выбраных і збору твораў разьмяшчалася ў двух пакоях. Адзіная, дзе загадчык ня быў членам партыі. І ў адным пакоі з загадчыкам сядзелі яшчэ двое нячленаў — Натальля Давыдзенка й я. Дык апантаная членша партыі на партсходах як не зь сябе вырывалася, заклікаючы да пільнасьці. Гэта беспартыйныя рэдактары намагаюцца выдаць





Сімяона Полацкага, дапушчаюць граматычныя і, што асабліва страшна, ідэйныя памылкі, шукаюць ісьціну на дне чаркі.
Матэматык па адукацыі Шахавец быў правобразам кампутара. Мне шалёна рабілася, як ён з сынамі рашаў задачы, множачы шасьцізначныя на сямізначныя лічбы. Неяк загуляў я й доўга не зьяўляўся на працу. Начальства патрабавала кары. І Шахавец прапанаваў зьняць зь мяне 20 адсоткаў прагрэсіўкі. І ў выніку атрымаў я за прагулы 80 адсоткаў прагрэсіўкі. Ну, вядома, дадому прынёс я мала адсоткаў. Мы любілі свайго загадчыка й называлі яго тата Шах.

*За што б ні браўся Шахавец,*
*Усё рабіў як клясны спэц.*
*Было ў натуры Шахаўца*
*Даводзіць справу да канца,*
*Рабіць як сьлед,*
*І заадно*
*У поўнай чарцы ўбачыць дно.*
*Усё, што выдаў тата Шах,*
*Ня сьпіць на сонных стэляжах.*

## Алесь Шатэрнік

Алесь Шатэрнік любіць тэхніку. У маладыя гады марыў пра вэлясыпэд. І вылепіў Леніна, прадаў і купіў матацыкл. Потым ужо, як пісалі нашыя палескія празаікі, узьбіўся на машыну. З машынай абыходзіўся па-сяброўску. Аднойчы ехаў на Нарач. Колы спусьцілі. А да вёскі бліжэйшай яшчэ трохі кілямэтраў. Ля дарогі стог саломы. Пайшоў, напхаў у колы саломы й такі даехаў да мэты.
У руках Алеся слухмянымі робяцца й бронза, і камень, і гліна. Помнікі, мэмарыяльныя дошкі, фігуры дзяўчат са звабнымі азадачкамі — багатая гаспадарка ў рупліўца. Часам, калі ў каго ўважліва ўглядаецца Шатэрнік, прыходзіць думка, ці не прыкідвае ён помнік ці мэмарыяльную дошку яшчэ жывому. А можа, нешта адчувае. Праўда, у гутарках ён вясёлы. Поўны жыцьця, поўны задумаў.





*Намерамі Алесь Шатэрнік*
*Радэну мудраму супернік.*
*Але адных намераў мала,*
*Каб Вечнасьць за свайго прымала.*

У Алеся час яшчэ ёсьць.

Сяргей Шапран пачаў друкавацца з шаснаццаці гадоў. І вясёла пачыналася журналісцкая дарога. Так у шматтыражцы заводу ВЭФ, што ў Рызе, надрукавана было ягонае гумарыстычнае апавяданьне. Але ўвесь гумар болей быў у тым, што зь дзьвюх старонак далі толькі першую. Згубілі, відаць, другую й не ўсьміхнуліся. Працаваў Шапран і ў «Знамени юности» (пакуль рэдактара Кацюшэнку адміністранцы не замянілі Гукоўскім), і ў «Имени». Апошні запіс у працоўнай кніжцы са штотыднёвіка «Бездельник». А цяпер Шапран працуе ў «Белорусской деловой газете». Сумавацъ не даводзіцца, бо ўлада так і глядзіць, каб закрыць незалежную газэту. Дарэчы, для «БДГ» Васіль Быкаў ахвотна даваў Сяргею Шапрану інтэрвію. У Сяргея добры альбом набярэцца фатаздымкаў Быкава. І апошнія кадры апостала нацыі зрабіў Сяргей.

Руплівы й няўседлівы Шапран стараецца пасьпець скрозь, напісаць сёньня, што будзе заўтра. Маладому сябру напісаў я радкі:

**Сяргей Шапран**





*Пяро і вока вострыя ў Сяргея.*
*Яго сама ідэя разумее.*
*Калі ты ў кадр*
*Патрапіў да Шапрана,*
*Пра нэкралёг уласны думаць рана.*

# Ганад Чарказян



Сам кон багаславіў Ганада Чарказяна быць ранішняй памяцьцю й вечаровым роздумам свайго народу. Быць курдзкім паэтам. Невыпадкова неяк падчас размовы Ганад інтэлігентна, але цьвёрда заўважыў: «За мной сорак мільёнаў». І невыносна цяжка насіць у трымтлівым сэрцы свой абражаны край, свой народ, матчыну мову. Здарылася так, што ў курдаў укралі іхнюю дзяржаўнасьць, а значыць, і свабоду. Васіль Быкаў, хто адным зь першых багаслаўляў кнігі паэзіі Ганада Чарказяна, прыводзіў курдаў як сумны прыклад таго, што робіцца з народам, у якога няма сваёй дзяржавы. Беларусь стала для курдзкага паэта гасьціннай хатай, у якой нарадзілася дачушка ад беларускай красуні, і нараджаюцца вершы, апавяданьні.

Вынайшаў Ганад і свой жанр у паэзіі — чаргаві. Па-курдзку гэта значыць «чатыры крокі». У чаргаві й сум, і роздум, і спадзеў, і ўсьмешка. Чаргаві — радня рубаі. Я пераклаў кнігу чаргаві й як бы рэцэнзію напісаў:



*Чарказян у сваіх чаргаві*
*З паняй мудрасьцю візаві.*
*Ды цікавіць мяне аж занадта,*
*Што сказаў бы Хаям пра Ганада?*

# Генадзь Цітовіч

Генадзь Цітовіч — нястомны шчырун, апякун беларускай народнай песьні, быў чалавекам вясёлым, адкрытым. І ўсё прасіў мяне напісаць на яго рэзкую, дужа рэзкую эпіграму. У задатак нават ручку з Парыжу прывёз мне. Генадзь Цітовіч кіраваў славутым хорам. Спачатку напісаў я як бы ад імя харыстак:

*Мы Цітовічавы дочкі,*
*Сумна ў нас праходзяць ночкі.*
*Родненькі Генадзь Іваныч*
*Хай часьцей прыходзіць нанач.*

Гэта не задаволіла ўтрапёнца. Тады яшчэ адну спробу зрабіў:

*Калісьці сябе аддаваў мэдыцыне,*
*Народны цяпер СССР.*
*Люблю ў мэдыцыне я*
*Сьпірытус віні,*
*А зь юнымі юны, як зьвер.*





Папрасіў запісаць. А бяседа наша вялася за пляшкай «Агеньчыку» — быў такі забойны напой, ад якога полымя гарэла, калі глынеш яго. Маэстра якраз рабіў апрацоўку народнай песьні «Я табун сьцерагу». Ад 50-градусовага «Агеньчыку» апрацоўшчык салавее, я нахабнею. І на рагу партытуры пішу:

*Я, ябун, сьцерагу*
*Маладых харыстак.*
*Хоць і сам не магу,*
*Але ганарысты.*

Калі ж назаўтра патэлефанаваў Генадзю Цітовічу дадому, звычайна ахвочы да размоваў мой старэйшы сябра як адсек у слухаўку: «Мыюся, брыюся, бягу ў ЦК».

# Аляксандар Твардоўскі





З маладых гадоў душа гарнулася да паэзіі Аляксандра Твардоўскага. Бо яна была ўпэўненай і цьвёрдай у сваім памкненьні данесьці да чытача праўду й любоў да жыцьця.
Паэзія Твардоўскага родная прозе Быкава. Твардоўскі высока цаніў творчасьць Быкава, ён адным зь першых падтрымаў нашага прарока, надрукаваўшы яго ў «Новом мире».
Твардоўскі пачуваў сябе беларусам. Гэта ён, выходзячы з ЦК, дзе яго спрабавалі зламіць, любіў паўтараць: «Как говорят у нас, белорусов, пережили лето горячее, переживём и говно собачее».
Мова Твардоўскага дыхае беларушчынай, яна сілкавалася крывіцкімі каранямі. І мне думаецца:

*Блізкі кожнаму з маленства*
*Наш спаконны край смаленскі.*
*Сам Твардоўскі не ў нагрузку*
*Мог пісаць па-беларуску*
*І агніста, й вальнакрыла.*
*Проста часу не хапіла...*

# Валянцін Тарас

Зь юных гадоў партызаніў, потым стараўся на ніве журналістыкі. Паэт, празаік, дакумэнталіст, перакладчык. Гэта Валянцін Тарас. Зь ім ніколі ня сумна. Ён увесь, як сьвяточны шчупак, нафаршыраваны хохмамі, падколамі, пад'ялдычкамі. Стараўся не акцэнтавацца на чорным у жыцьці, бо чарнаты было ўкоптур. Натуральны гумар і трымаў яго, і дагэтуль трымае.

Паехаў Валянцін да сястры ў Польшчу. Яшчэ ў тую Польшчу, якая не сьпяшалася будаваць сацыялізм па маскоўскіх праектах. Засеў у ліфце. Сядзеў з паўдня да вечара, пакуль сястра не прыйшла з працы. А жыхары ішлі ды пыталіся: «Цо пан тутай робі?» І толькі. Калі сястра адчыніла ліфт, бо ведала ягоны нораў, Валянцін загарачыўся, чаму яму ніхто не паспрыяў. На гэта сястра коратка кінула: «Таке людзі». І цяпер яшчэ, калі Тарас ня хоча сябе заводзіць з-за нейкае крыўды ці абразы, толькі й заключае: «Таке людзі». А тады ж яго называлі панам, а не таварышам.

У Тараса яшчэ ёсьць талент паказваць тых, пра каго распавядае, у асобах. Акторскі талент.

Шмат мы пісалі адзін аднаму эпіграмаў, прысьвячэньняў. А прыгадаліся гэтыя радкі:





*Як юны партызан,*
*Рухавы Тарас.*
*Ягонае сягоньня — значыць зараз.*
*А зараз — непазьбежнае сягоньня.*
*Мычаць паціху вобразы ў загоне.*
*Перакладзе ён клясыка любога —*
*Ці Маркеса,*
*А ці сябе самога.*

## Міхась Стральцоў

Вырай беларускіх паэтаў і празаікаў пачатку 1960-х гадоў шчасьлівы быў тым, што ў ім зь першага прылёту быў Міхась Стральцоў, які меў абсалютны літаратурны густ. Сказаць пра яго — талент — будзе правільна, асоба — таксама. Але, бадай, слова «зьява» больш акрэсьліць маштабы Міхася Стральцова. Ён даў інтэлектуальны пачатак сучаснай яму прозе, пачуцьцёвую глыбіню эсэістыцы, шырыню й гарызонтнасьць крытыцы, акварэльнасьць і адухоўленасьць паэзіі ад клясычнага радка да вэрлібра.

Стральцова расьцягвалі, разьбіралі, як той Акропаль турысты, сябры, знаёмыя, проста выпадкоўцы, каму хацелася быць сваім чалавекам у літаратурным працэсе. Міхась перапісаў тоны раманаў, аповесьцяў, кніг крытыкі й саветызаваных нарысаў, працуючы ў рэдакцыях газэт і часопісаў. Але ён ня быў забранзавелым, ня быў схімнікам. Любіў жыцьцё ва ўсіх праявах. І чарку браў, не баючыся забаронных пастановаў партыі камуністаў. І прыгажуняў заўважаў сваім замроеным позіркам. Як цяпер чую ягоны голас, калі ён на маладуху ў целе казаў ласкава: «Цялуха». Трэба было бачыць задуменна скептычны позірк Міхася, калі ён узгадваў выпінанцаў, якія са скуры вылупліваліся, каб быць заўважанымі цэкоўскімі пастухамі. У Стральцова быў своеасаблівы, чыста беларускі гумар, пераплецены зь лірычнасьцю, як суровая нітка з ваўнянаю.

Міхась задумаў быў напісаць новую рэч. У часопісах анансавалася: «Конь гуляў па волі». Радок зь вясёлай бяседнай песьні. Бо Міхась Стральцоў любіў волю, не цярпеў ні хамута, ні цугляў, якімі яго хацеў ацішыць рэжым.

Высока цаніў Міхася Стральцова Васіль Быкаў. Алесь Адамовіч уночы пісаў прадмову да аднатомніка Міхася Стральцова, бо раніцай ляцеў у Амэрыку са сваім фільмам «Ідзі й глядзі». Аднатомнік выходзіў, калі ўжо ня стала Міхася. Ня стала чыста фізычна. А ў духоўным жыцьці нацыі застаўся Міхась Стральцоў.

Сябру свайму неацэннаму пісаў я ў свой час:

*За Гамэра спрачалася сем гарадоў,*
*Тры сэкцыі —*
*За Міхася Стральцова:*
*Празаік Стральцоў,*
*Лірык Стральцоў,*
*Крытык Стральцоў?*
*За Вечнасьцю слова!*

Слова ў Вечнасьці канкрэтнае і ўзважанае.

# Кнутс

Кнутс Скуеніекс заставаўся незалежным латыскім паэтам у самыя змрочныя часіны саветызму. І сваімі думкамі, і сваімі творамі, і нават выглядам сваім падкрэсьліваў сваю павагу да самастойнасьці сваёй краіны, сваёй мовы, сьцьвярджаў самаіснасьць творцы.

Сумаваў па дассавечанай Латвіі. І, бывала, зь вясёлай хітрынкай распавядаў пра парасткі культу пры розных рэжымах. Да прыкладу, даваенная Латвія брала мяса-малочны ўхіл гаспадаркі. Адпаведна зьяўляліся лёзунгі. Быў і такі: «У цялятах наша будучыня». А подпіс — геніяльны правадыр, доктар Карліс Ульманіс. Вядома, ня сам Ульманіс падпісваў лёзунг, а падхалімы. Тым самым нармальную думку зьвялі да ўсьмешкі. У любыя часіны памкненьне самапрызнаных правадыркоў да прыжыцьцёвай неўміручасьці выклікае сьмех, які сканчаецца сьлязьмі.





# Скуеніекс

Кнутс Скуеніекс бываў частым і жаданым госьцем Беларусі й як сябра і прыхільнік беларушчыны, і як прэзыдэнт Латыскага ПЭН-цэнтру. Абменьваліся мы й кнігамі й лістамі. Былі ў мяне й такія радкі ў гонар высокага сябра:

*Железный Кнут*
*Был часто гнут,*
*Но никогда чтоб сломан.*
*Любезный Кнут*
*Был членом плут,*
*Но никогда чтоб словом.*

Нішто не зламіла, не сагнула сапраўднага паэта, цьвёрдага латыша.

Прыйшла новая, таленавітая, дасьведчаная зьмена. І ўзяла на свае плечы нялёгкую ношку абароны роднага слова. І шчырэе, каб слова нашае вясёлкава зазіхцела, далёка пачулася, загучала, памаладзела. Адзін з гэтае зьмены — Міхась Скобла. Мне ня трэба ўзгадваць вясёлы выпадак. Бо заўсёды вясёла й сонечна ад сустрэчы зь Міхасём. Прысьвячаў яму я й сур'ёзныя, як мне здавалася самому, радкі, і жартаўлівыя. А ў дзень народзінаў у першым годзе трэцяга тысячагодзьдзя хацеў, каб ён паблажліва ўсьміхнуўся ад імяніннай хуткамоўкі:

*І спаткаўся з кобрай Скобла,*
*І спытаў,*
*Ці ў шкуры цёпла.*
*Кобра Скоблу не сказала,*
*Вяла джала паказала.*
*Ведала, якія ў Скоблы*
*Словаў лютасныя сьцёблы...*





## Міхась Скобла

Рыгор Сітніца ўмее працаваць і пэндзлем, і пяром, і яшчэ чымсьці. Палотны калярытныя, нацыянальныя. Вершы ўзрушаныя, ранішнія. Завіхаецца Сітніца як пэдагог. Сумаваць не даводзіцца. Не даюць. Любіць вандраваць. А значыць, любіць і прыгоды. Вясёла давялося ў Грэцыі, калі адстаў ад параходу. Па сушы спрабаваў дагнаць на таксі. Потым у небе самалётам.

Нясумна было й сустракаць пасылку ад цешчы з Гомелю. Праспаў раніцай сустрэць цягнік, і калі цягнік ужо з Баранавічаў ехаў зноў на Гомель, улагодзіў правадніцу. Аддалі перадачу — падняць немагчыма. Ледзь давалок дамоў, а там кнігі, бэстсэлеры. Нядоўга хапіла дарыць сябрам, калі прыходзіў у госьці. Дый цешчыны падарункі праз два дні адгукнуліся.

Галоўнае, што Рыгор Сітніца не адстаў ад свайго параходу ў творчасьці. І пасылку ад Музы не праспаў, у час атрымаў. Маладзейшаму сябру й суседу знайшліся ў мяне радкі:

*Бягуць парнакапытніцы*
*Ў загон хутчэй да Сітніцы.*
*А ён малюе пад ахвоту*
*Партрэт псыхалягічны плоту,*
*Каб да яго ў любую буру*
*Надзейна прысланіць натуру.*





## Рыгор Сітніца

Платы Сітніца малюе трывалыя, яны вытрымаюць любую сьпіну.

## Арві Сійг

*Жыць з вачыма блакітнымі*
*і ня горбіцца*
*хочацца*
*нават дыму*
*але дамаходзтва*
*ужо з маленства*
*прывучае яго*
*вывівацца струменьчыкамі.*

Гэта радкі верша зь нізкі «З адведзінаў Беларусі» таленавіта самабытнага эстонскага паэта Арві Сійга. Нізка пісалася на пачатку 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Эстонскі сябра ня горбіўся ні думкай, ні ўчынкам, чаго й нам жадаў, нават дыму нашаму. Нават знакі прыпынку адкінуў, каб яны не заціскалі вольнае слова ў нейкія казённыя рамкі.
У Беларусі паэта ўразіла спакойная краса нашай прыроды, нечым блізкай да эстонскае. Уразіла й абыякавасьць як не бальшыні да роднай мовы, да роднай культуры. У лісьце Арві Сійг пісаў мне:





«Адначасова, як бачыш, дасылаю табе свае вершы, навеяныя наведаньнем тваёй Радзімы. Спачатку мне здалося, што яны будуць канкрэтныя, ды дзе там — на паперу яны клаліся агульналюдзкімі. Дый мой пункт позірку й манера пісьма зьмяніліся...»
Мы звыклі было да абавязковых паездачных вітальна-замілавальных вершаў пра той край, які наведаў паэт. А эстонскі паэт даў прыклад, даў урок, як па-свойму трэба бачыць, думаць, пісаць. Не пра заводы, не пра калгасы пісаў Арві Сійг. А так акрэсьліў месца народзінаў радкоў:

*Недзе ў краі*
*зьніклых журавін*
*і самотнага жураўля.*

І разважае, заўважае:

*вакно — гэта ж дзьверы сьвятла*
*вогнішча нібыта перасаджанае сэрца*

Перакладаючы вольныя вершы вальнадумнага паэта, я ўсё-ткі зарыфмаваў свае радкі, прысьвечаныя сябру:

*Па вятрах, аблоках, па траве*
*Вучыць слова Арві Сійг ласкава,*
*Як і сам, хадзіць на галаве.*
*На сваіх дваіх кульгае слава.*
*Славе рупіць хоць крыху разьвеяцца.*
*Не дагоніць Сійга,*
*Дык сагрэецца.*

Цэлую бібліятэку ці, як у нас казалі, мех з торбачкай пераклаў Васіль Сёмуха. Усясьветныя клясыкі загаварылі па-беларуску. Пры саветах быў падазронай асобай, акружанай асаблівай увагай адпаведных органаў (вядома, не палавых). Ведаў шмат моваў, а не хацеў разумець адной, на якой яго хілілі дапамагаць выкрываць ворагаў. Сябраваў з ідэйна хісткімі элемэнтамі. І таму нават клясыка мінулых стагодзьдзяў у перакладах Сёмухі пахла антысаветызмам. Што ні рабіла выдавецтва, каб ня выдаць «Фаўста» Гётэ. І памер вялікі, і грошай няма, і заказныя рэцэнзэнты капалі глыбока й мелі заўвагі, якіх і самі не разумелі. Але так трэба было.

Сёмуха пайшоў на пад'ялдычваньне — пераклаў лірыку Карла Маркса, а не «Капітал». Відаць, і яго грэў анэкдот. У габрэйскай сям'і сын пытаецца ў маці, хто такі Карл Маркс. Маці адказвае — эканаміст. Сын дапытваецца далей: «Як наша цёця Сара?» Маці ўдакладняе: «Борачка, наша цёця Сара старшы эканаміст». Больш часу ў перакладчыка пайшло на барацьбу з паслушнікамі бальшавіцкага рэжыму, на чаканьне, на спробы абхітрыць пільных пастухоў, чым на сам пераклад. Але ён не здаваўся, не апускаў пяро й перамог.





Амаль не друкуюць Васіля Сёмуху й пры цяперашняй уладзе. Выйшла два выданьні — адно ў Амэрыцы, другое ў Польшчы. Праўда, выручае інтэрнэт. Але ўсё на замежных сайтах. А беларускага сайту ў Васіля няма. Ды ён усьміхаецца: «Хай нічога ня плацяць, але нічога зь мяне не бяруць». Беларускі варыянт аптымізму. Свайму даўняму сябру пісаў я й сур'ёзныя прысьвячэньні, і вясёлыя. Напісалася й такое:

*З палескаю цягавітасьцю,*
*Да сябе ня маючы літасьці,*
*Варочае Сёмуха*
*На рацэ разнамоўя крыгі.*
*На ўсё хапае*
*Дасьведчанай панавітасьці —*
*Ад лірыкі Карла Маркса*
*Да Вечнай Кнігі.*

Хай яшчэ доўга хапае. Бо тога на ўсё хапае, каго не хапае зайздрасьць сьляпая.

## Васіль Сёмуха

# Рыгор Рэлес

Рыгор Рэлес — апошні габрэйскі паэт, які піша на ідыш. Чалавек ён мудры й вясёлы. Бо толькі гумар бадай што трымае яго. Калісьці ў Віцебску, як малады журналіст, часта сустракаўся Рэлес з Пэнам — настаўнікам Шагала. Нейк Пэн расхвалявана заўважыў пра свайго вучня:

— Я яго вучыў, вучыў, а ён малюе чорт ведае што.

— І сапраўды мазьня, — захацеў падтрымаць старога майстра Рэлес. Ды Пэн адразу ўзарваўся:

— Ня ўздумай так казаць!

Рэлес не здаваўся:

— У яго людзі й каровы лётаюць.

Пэн працягваў:

— Ты пішаш, як усе. У цябе ў вершах людзі могуць лётаць?

— Могуць. Гэта ж у вершах, — пасьмялеў малады паэт.

— Дык вось у Шагала яны лётаюць на палотнах. Вуха да гэтага прывыкла, а вока не прывыкла й ніколі не прывыкне, — скончыў гаворку Пэн.

Рыгор Рэлес — жывая энцыкляпэдыя габрэйскай культуры, літаратуры, габрэйскага жыцьця. Энцыкляпэдыя й вясёлая, і сумная, як і само жыцьцё.

Калі ў траўні 2003 году віншаваў я Рыгора Рэлеса зь дзевяностагодзьдзем і пажадаў яму сто год, мяне пасьля паправілі. Габрэям жадаюць сто дваццаць год. Тады я ўдакладніў пажаданьне радкамі:





*Ад куфра мудрасьці годна*
*Рэлес трымае ключы.*
*Як і мудрасьць,*
*Надзея ані старэе,*
*Што да стодваццацігодзьдзя ягонага*
*Нарастуць чытачы —*
*Успомняць, нарэшце,*
*Мову сваю габрэі.*

# Уладзімер Пузыня

І стралец, і лавец, і на дудцы йгрэц. Гэта пра Ўладзімера Пузыню ў даўніну складзена послаўка. Уладзімер можа зрабіць любое музычнае прычындальле. Умее іграць на ўсім, што толькі гук у сабе трымае. У маэстра заўсягды пры сабе жалейка. Маладой вясной давялося мне ляжаць у лякарні. І аднойчы ў нашую палату пасялілі Пузыню. Яшчэ не ўладкаваўшыся, выняў з кішэні жалейку — і ўзьняў настрой усім хворым.

А было й такое. Адчынялася выстава мастакоў супольні «Пагоня». Пузыня на адкрыцьці іграў на сурме. Потым выйшаў з мастацкага салёну й на ўвесь праспэкт пусьціў голас сурмы. А гэта якраз насупраць будынку, зь якога пры камуністах была Сібір відаць. Нарабіў перапалоху супрацоўнікам. А яшчэ таксісты дый іншыя кіроўцы пачалі сыгналіць. Людзі спыняюцца й пытаюцца: «Няўжо ўжо?..» Вясёламу заклінальніку зыкаў Пузыню й радкі з усьмешкай:





*Маэстра гоніць прэч нуду.*
*З зануды выхітрыць дуду.*
*З былых цэкоўскіх дундукоў*
*Наробіць для чарцей смыкоў.*
*Усё пяе ў руках Пузыні.*
*Зь ім род крывіцкі не загіне.*
*Бо без музыкі, без дуды*
*І думкі ходзяць не туды!*

Пятро

## Прыходзька

Утрапёны паэт, закончаны лірык Пятро Прыходзька ваяваў, быў палітруком роты, ваенным журналістам. Натура шчырая, адкрытая. З Прыходзькам здараліся вясёлыя гісторыі. Не крыўдаваў ён, калі ў застольлі яго называлі паўлітруком. Паехала група беларускіх паэтаў выступаць у калгасы. Толькі закончылася вайна. Маладыя ўдовы, маладыя дзяўчаты ласа паглядалі на статнага й дужага Прыходзьку, на мужчыну, што называецца, кроў з каньяком. А ён пачынае чытаць:

*І кожны вечар на спатканьне*
*Хаджу да шэрых да бяроз...*

Ня вытрывала дзябёлая ўдава, салодка пацягнулася дый перабіла лірыка: «Прыйшоў бы ты нанач да мяне, болей бы толку было». Вечар лірыкі павярнуўся на вечар гумару.





Быў гумар і такі. Толькі разьвянчалі культ асобы Сталіна. Група паэтаў выступае па тэлебачаньні з нагоды Дня перамогі. Прыходзька ўпэўнена чытае свой каронны верш:

*Дзе прайшлі салдаты, Сталіна сыны...*

Спахопліваецца й папраўляе сябе: Леніна сыны. Партыі сыны... Ідуць дадому. Па дарозе Прыходзька пытаецца: «Што мне цяпер будзе?» Мудры й зьедлівы Навум Кісьлік спакойна адказвае: «Расстраляюць!»
Зь Пятром Прыходзькам даводзілася й мне працаваць у выдавецтве, езьдзіць выступаць. Заўсёды ён быў шчырым і непасрэдным. Яму й напісаў я такое:

*Хай крытыкі затупяць пёркі,*
*Нястомна хрыпнучы ў заклёнах,*
*Бадзёрага палітрука*
*Не адцягнуць ім ад радка, —*
*І ўдзень Прыходзька бачыць зоркі*
*На каньяку і на пагонах...*

## Піліп Пестрак

Піліп Пестрак — зацяты рэвалюцыянэр, усё жыцьцё змагаўся з ворагамі й наяўнымі, і ўяўнымі. Некалькі разоў і падоўгу сядзеў у турмах панскай Польшчы, бо не цярпелася зрабіць Заходнюю Беларусь савецкай. Кажуць, калі ў 1939 годзе вызвалілі Пестрака з турмы ў Горадні й далі партыйную пасаду й кватэру, ён усё яшчэ хадзіў начаваць у сваю камэру. Мабыць, падсілкавацца рэвалюцыйным духам. Празаік, паэт, публіцыст да канца дзён супроць нечага выступаў. Нават прозьвішча сваё змусіў пісаць насупор граматыцы. У пачатковых клясах вядома, што «е» перад націскам пераходзіць у «я», а рэвалюцыянэр-падпольшчык чытаўся Пястрак, а пісаўся Пестрак. На польскі лад. А наогул Пестрак быў чулы й непасрэдны, вясёлы й дасьведчаны.

Дагэтуль мне чуецца ягонае «*псс*» як выказ і згоды й нязгоды адначасна. У самы адказны час пабудовы камунізму склікаў Машэраў ідэалягічную нараду на тэму «Марксізм-ленінізм у дзеяньні». Зразумела, пісьменьнікаў-спадручных партыі было багата. Нарада вялася ў будынку ЦК камсамолу. Наверсе трыбуна, а ўнізе буфэт. І добрая буфэтчыца цётка Маша пастаралася, каб каньяку было ўволю. А каньяк — гэта ўлюбёны напой пралетарыяту, які ён п'е вуснамі сваіх найлепшых прадстаўнікоў. І пасьля перапынкаў, як з падпольля, выходзілі ў залю цёпленькія выступоўцы. Аб'яўляюць Пестрака. Першая фраза: «Марксізм-ленінізм — гэта ня тое, каб выпіць дзьве пляшкі каньяку й цёпла пагутарыць...» Зь вечна перапалоханага парторга Кулакоўскага валіць пара. Паўза. І далей Пестрак з дыктарскай яснасьцю працягвае, што марксізм-ленінізмператварае ўвесь сьвет. Парторг і прэзыдыюм супакойліва выдыхаюць заглынутае паветра трывогі. У тыя часы раман Піліпа Пестрака «Сустрэнемся на барыкадах» быў візытоўкай аўтара. Змагаўся рэвалюцыянэр і на барыкадах іншага ладу:

*Абы ў ідэйных ня ўвязнуць звадах,*
*Мець шчокі колеру кумача,*
*Сустрэцца рашуча на барыкадах,*
*Дзе пляшкі пасталі плячо да пляча.*

## Алесь Пашкевіч

Алесь Пашкевіч самы малады з усіх ранейшых старшыняў Саюзу беларускіх пісьменьнікаў. І адпаведна яму весялей за ўсіх. Дом літаратара забрала адміністрацыя. І для ўсяго невялічкага апарату Саюзу адшчодрана два пакойчыкі. Пісьменьнікі фактычна кватаранты ў сваім доме. Пра штодзённы ціск зьверху й казаць не даводзіцца. Шукаюць любыя зачэпкі, каб прымяніць меры. Надта ж ужо замінае Саюз пісьменьнікаў цяперашняй уладзе будаваць так і недабудаванае камуністамі сьветлае заўтра. Яно й ня дзіва — па-беларуску гавораць, ведаюць, хто яны, гэтыя пісьменьнікі. І даводзіцца Алесю Пашкевічу зь сябрамі працаваць па-беларуску — шчыра, аддана, зь верай, што будзе й на нашай вуліцы сьвята. Можа невыпадкова ён Пашкевіч, як і Элаіза, нашая вястунка беларускай вясны паэтка Цётка.

Маладому й парыўнаму Алесю Пашкевічу й такія радкі падтрымкі:





*Лезь, Алесь, на Алімпавы ўзроўні,*

*Як у неба цыган па драбінах.*

*На пасадзе патрэбна здароўе,*

*Каб застацца пасьля ва ўспамінах,*

*Каб было ня страшна ані*

*Жыць бяз тытулу старшыні...*

Зянон Паўлоўскі зрабіў шмат партрэтаў дзеячоў нашае культуры. Але яшчэ доўга пасьля зьмяшчэньня галоўнага ка́та пасьляваеннай Беларусі любіў мастак пахваліцца ў п'янай кампаніі фатаздымкам, дзе ён быў зафіксаваны для вечнасьці з сабакам Цанавы. Бо для партрэта Цанава даў толькі свой кіцель, у якім пазіраваў ад'ютант шэфа КДБ.

Зянон Паўлоўскі

У мастакоў самым пэўным заробкам было майстэрства здабыць заказ на маляваньне партрэта якогасьці члена палітбюро. Партрэты гэтыя прымусова несьлі студэнты й заслужаныя рабочыя на дэманстрацыі. І зьнячэўку Паўлоўскаму прываліла нарэшце шчасьце — аж чатыры партрэты членаў. Пасьля замочкі шчасьця намаляваў хутка. Ды выявілася, што ня ў тых памерах, якія вызначаны ў самой Маскве. Пачаў зьмяншаць, адпаведна павялічваючы дозу падагрэву. Застольле гуло за поўнач. Грук у дзьверы. Дзяжурны лейтэнант міліцыі з двума сэржантамі. Заклік да спакою. Позірк лейтэнанта спыняецца на партрэтах. А на іх — у кожнага чатыры вокі, чатыры вухі, два раты, два насы. І ўсе, як у мыльнай пене, ад бялілаў.

— А гэта хто? — ашалелым голасам перапытаўся лейтэнант.

— Члены палітбюро! — амаль цьвёрдым голасам горда адказаў Паўлоўскі.

Лейтэнанту здалося, што ён сьніць жудасны, недазволены сон.

— Прабачце... — ужо лейтэнант ап'янела сказаў і зьнік, як пісалі клясыкі, у цемрыве ночы.

А я прачытаў потым Паўлоўскаму за вэрмутам «у палосачку» радкі:





*З шалёнай сілай рука мастака.*
*Ня дрогне яна,*
*Каб у момант кароткі*
*Падвоіць членам бюро ЦК*
*Напятыя вушы й луджоныя глоткі.*

## Пімен

Трэба пісаць, пакуль пішацца, піць, пакуль п'ецца, кахаць, пакуль кахаецца, — на практыцы быў пераканаμы самы лірычны, самы бунтоўны, самы востры на слова паэт Пімен Панчанка. Любіў вясёлыя сяброўскія кампаніі, дзе казаў, не азіраючыся, усё, што хвалявала, усё, што думаў пра каго.
Калі рэдагаваў часопіс «Маладосць», даваў дарогу крамольным творам Васіля Быкава. У Панчанкі была алергія на прыстасаванцаў, на казённых патрыётаў, на чынавенства. З усьмешкай паўтараў: «Не шанцуе нам на правадыроў».
Любіў вандраваць. Адзін са зборнікаў іменаваўся «Кніга вандраваньняў і любові». У ваколсьветным круізе зарыфмаваў беглае ўражаньне: «Баабаб, баабаб, я ахвоч да чорных баб». Гэта падабалася спадарожнікам.
Панчанка быў беларусам наскрозь. І калі не пісаў у арміі па-расейску, у вайсковай насьценнай газэце выйшаў лісток, дзе шаржырavana быў намаляваны Панчанка. Паэт ляжыць на канапе, адвярнуўшыся да сьцяны, а ўнізе подпіс:

*Дайте водки и закуски,*
*Напишу стихи по-русски.*





Да апошняга радка вёў вайну зь бюракратамі, не шкадуючы сябе. І былі ў мяне такія радкі:

*Безабаронны рыцар,*
*Зьняўшы латы,*
*Ён пратае ўсю погань, як і пратаў.*
*Б'е Пімен перунамі бюракратаў,*
*Ды вершаў не чытаюць бюракраты.*

Затое ўважліва чыталі нясхібнага паэта ідэйныя пастухі з ЦК і Галоўліту.

## Панчанка

Ён невылечна хворы Беларусьсю. Гэткі дыягназ паставіў Васіль Быкаў Зянону Пазьняку.

Тонкі лірык, натуральны крывіцкі інтэлігент, ён пайшоў чорнарабочым да ісьціны, да свабоды. Яго папракаюць, што ён нягнуткі ў палітыцы. Але гісторыя паказала, што з гнуткіх лягчэй за ўсё пугі віць, каб імі заганяць у хлявы таталітарызму ды самаўладзьдзя. Яму ніколі не даруюць спадкаемцы Берыі Курапатаў. У Зянона Пазьняка ўзаемнасьць з камуністамі ў нянавісьці. Камуністы яго на дух не трываюць. Даходзіць да анэкдотаў. Лектарка чытае лекцыю вэтэранам і выкрывае Пазьняка як фашыста, як паліцая. Нехта з рэшткамі клёку падае слабы голас, што Пазьняк жа 1944 году нараджэньня. Лектарцы гэта не аргумэнт. Удакладняе: «Пазьняк з калыскі пальцам паказваў, каго трэба вешаць».

Пісаў я спадару Зянону Пазьняку прадмову да кнігі паэзіі «Глёрыя Патрыя», пісаў прысьвячэньні, пісалася й такое:

*Да ўлады Пазьняк не хадзіў у залёты,*
*Ён скібу сабе выбіраў што чарсьцьвей.*
*Шкадуе, што ўсе асушылі балоты —*
*Куды ж камуністаў пасласць да чарцей?*

## Зянон Пазьняк



дуліна ад Барадуліна

## Уладзімер Някляеў





Уладзімер Някляеў прыйшоў у літаратуру парыўна, але не надрыўна, з парогу адразу на кут, але без пакут. Яго адразу заўважылі й запаважалі. Быў рэдактарам часопісаў, старшынёй Саюзу пісьменьнікаў. Тонкі лірык, ён мог праняць чытачак ня толькі да нырак. Посьпех Уладзімер меў і мае ня толькі ў чытачак.
Натура вольная ня любіць ніякага ўціску, ніякіх гвалтаў над талентам. Па лініі Міжнароднага ПЭН-клюбу падаўся ў Фінляндыю, туды, дзе быў наш Васіль Вялікі. Там пішуцца ў яго й вершы, і паэмы. Нават сэкс-раманчык у выгнаньні напісаў разнаплянавы спэцыяліст. Ці ўспамінаў хапіла, ці асьвяжаў матэрыял, толькі аўтару вядома. А мне закарцела напісаць майму залатому даўняму сябру:

*Было ў Някляева заўсёды*
*Канкрэтнай звыш канца лагоды.*
*Як малады разбудзіць клопат,*
*Пытаньне ранішняе ўстане,*
*Ня толькі кіраўнічы вопыт*
*Раманчыкам амурным стане.*
*Падаўся працаўнік да фінаў —*
*І там залёты не пакінуў.*

Уладзіслаў Нядзьведзкі быў паэтам лірычным, але зьедлівая ўсьмешка падсьвядома глядзела на казённы патас пабудовы сьветлага заўтра ў адной асобна ўзятай краіне. Настаўнічаў, працаваў на тэлебачаньні, у рэдакцыях, у выдавецтве, пісаў рэпартажы з новабудоўляў. І мяноўна падсьвядома пісаліся ў паэта радкі як перасьмех казённага патасу:

*Яшчэ адна цаля,*
*Яшчэ два вяршкі.*
*Прыйшлі і пасцалі*
*Ў начныя гаршкі.*

## Уладзіслаў Нядзьведзкі





Хай сабе й пасьля поўнай чаркі, але Ўладзіслаў пайшоў было на рызыкоўны торг. У Лагойску стаялі два бюсты — Сталіну й Марксу. Пасьля ХХ зьезду камуністаў бюст Сталіна зьнялі. І Маркс застаўся стаяць самотны, а побач пуставаў п’едэстал. У вясёлай кампаніі Ўладзіслаў спытаўся, ці ёсьць у каго бюст якогасьці камуністычнага ідала. Яму прапанавалі зноў-такі Сталіна. Узяўшы ў кручкаватыя пальцы аловак, пакупец пабарабаніў па гіпсавай галаве бацькі народаў і адмовіўся купляць. «Пуставаты», — заключыў п’янаваты гешэфтовец.

Толькі гумар і ратаваў у тыя часіны ўсіх, хто думаў і бачыў.

Сябру свайму пісаў я ў застольлі:

*Са згодаю нязгодны Ўладзіслаў*
*Пад добрай чаркай*
*Мулка ўладзе слаў.*
*Да д’ябла пасылаў начальства сьмела,*
*Пакуль дубровай галава шумела.*
*Але калі й шумець пераставала,*
*Як рыба, зьедлівасьць нераставала.*

## Марына Наталіч

Калі была маленькая, бывала, дапытвалася ў маці:
— Мама, я нарадзілася на Далёкім Усходзе, тата ў вёсцы, а ты на Волзе. Як жа мы разам усе сабраліся?
Допыт гэты вяла паэтка Марына Наталіч. Цяпер яна прыжылася ў Беларусі, як яблынька тая, здалёку прывезеная садоўнікам, што завецца лёсам. Піша вершы, прозу. І на расейскай мове, і на беларускай. Дарэчы, пісала й верш на Свабоду. Васіль Быкаў, прачытаўшы прозу Марыны, заўважыў, што ёй трэба пісаць па-беларуску. Расіянка так вывучыла беларускую мову, асабліва граматыку, што часьцяком даводзіцца мне пытацца ў Марыны, як правільна напісаць тое ці іншае, ці правільна пабудаваная фраза.





Горы беларускіх кніг адрэдагавала Марына Наталіч, багата пераклала паэзіі й прозы. І самакепліва жартуе: «На мне, як на сабаку, можна правяраць граматыку». Праўда, тут у яе хіб зь беларускай мовай. Бо сабака ў нас мужчынскага роду, а ў жаночым родзе, хай мая добрая прыяцелька не пакрыўдзіцца, будзе — сучка. Жарты жартамі, а Марына Наталіч, як пішуць у газэтах, яркі прыклад, а правільней сказаць, колкі папрок пашпартным беларусам, якія на роднай мове двух словаў зьвязаць нармальна ня могуць. Ім лягчэй на дземянцееўцы завяраць сураз-моўцу ў сваёй чэснасьці. Ды не пра іх гамонка.

*Марына пасылае мары на*
*Радзіму незабытых успамінаў.*
*У Беларусі, як свая, яна,*
*Куды паэтку хітры лёс закінуў.*
*Марына*
*Талент свой не марынуе,*
*Аж Муза*
*Посьпех да яе раўнуе.*
*Ня толькі ў працы*
*Для душы аддушына.*
*Марына зьбеларушана нязмушана.*

Малады смакаваў я марачнае віно, і не адно. Цяпер на схіле смакую толькі Марачкінава палатно, і зноў-такі не адно. Палотны Марачкіна, калі глядзіш на іх, і сумуюць, і жартуюць, і хітра падміргваюць, ківаючы пальцам на ўсіх уладахопаў. Яны жывыя. Бо сам маэстра няўседны ў пошуках, у змаганьні, але ўстойлівы ў сваіх перакананьнях. Ён увесь у вандроўках. Адно не зусім акрэсьлена: мастак вандруе ўсьлед за сваімі творамі, ці творы вандруюць за ім? Як бы там ні было, ім ня сумна й не самотна. А вандруюць мастак і творы па ўсім сьвеце.

Было неяк вёз свае палотны Аляксей у Нямеччыну. На мытні чарга. Падышоў мытнік да машыны,

## Аляксей Марачкін

на багажніку ўвязаны карціны. Пытае, адкуль карціны. Мастак адказвае: «З Трацякоўкі». Мытнік дасьведчана заўважае: «Па рамах бачу, што не з Трацякоўкі». У кожнага свой позірк на твор мастацтва. Аляксей Марачкін працуе не на рамы, а на душу. А яшчэ Аляксей умее ўгаварыць слова — і вершы самі просяцца на волю.

Усё рухаецца, усё зьмяняецца. І калі ў свой час Аляксея жартам называлі дойч-Марачкін, бо шмат працаў ягоных купляла Нямеччына, дык зь пераходам на эўра новы эпітэт да маэстра на падыходзе. Хай будзе эўра-Марачкін. Так болей маштабна.

А да мяне такія радкі Аляксею прыйшлі:



дуліна ад Барадуліна

*Хай хмары валяцца,*
*Хай град, хай гром,*
*І пэндзлем утрапёным, і пяром*
*Шчыруе Марачкін сабе ня ў шкоду.*
*Цяжэе кайстра майстра*
*Год ад году.*
*Правеіць час набытак Аляксея —*
*Дзе зерні ісьціны,*
*А дзе пасеі.*

## Хаім Мальцінскі

Хаім Мальцінскі да канца дзён заставаўся габрэйскім паэтам, пісаў на ідыш, калі бальшыня габрэйскіх пісьменьнікаў добраахвотна-прымусова забылася сваю мову. Гумар і задзірыстасьць трымалі яго ў цяжкія хвіліны. Малады Мальцінскі прынёс у БелАПП (Беларуская асацыяцыя пралетарскіх пісьменьнікаў) ката зь белымі лапамі й заявіў: «Ніякі вы ўсе не БелАПП, вось сапраўдны белап». І пасадзіў ката на стол старшыні.





Ваяваў. Пры штурме Бэрліна быў цяжка паранены ў нагу й застаўся інвалідам. У 1948 годзе арыштаваны ў Бірабіджане за спробу прадаць Далёкі Ўсход ад Уладзівастоку да Чыты амэрыканцам. І парторг батальёну Мальцінскі як ня месяц начаваў на парашы ў турме. Габрэй, ды яшчэ без нагі, ня мог знайсьці сабе месца на савецкіх нарах. Ордэны Айчыннай вайны 1-й і 2-й ступені, Чырвонай Зоркі, мэдалі не давалі права на камфортны начлег. Калі наважыўся ў 1970-х гадах паехаць да дзяцей у Ізраіль, мусіў падаць заяву аб выхадзе з шэрагаў кампартыі. У Саюзе пісьменьнікаў на сходзе камуністы ня выключылі аднагалосна. Падалі справу ў райкам, бо без выключэньня з партыі Мальцінскі ня мог паехаць у Ізраіль. У райкаме таксама ўгаворвалі: як гэта франтавік, ардэнаносец хоча ў варожы сьвет. Усё-такі ўгаварыў — выключылі. Зайшоўся Мальцінскі да Навума Кісьліка й спытаўся, ці мае ён што выпіць. Кульнуў кілішак і выдыхнуў: «Мір із геворэн грынг», што значыць — мне зрабілася лёгка.

Я шмат перакладаў Мальцінскага, Хаім быў частым госьцем у мяне дома ў Менску і ў Вушачы ў маёй мамы. Жартавалі мы, бывала: «Як прыходзіць дзядзька Хаім, сустракаем дружным хаем». Гэтыя радкі пісаліся на ад'езд Хаіма Мальцінскага:

*Быў камуністам верным дзядзька Хаім,*
*Канкрэтна трызьніў абяцаным раем.*
*Зьнявечаны прыйшоў дамоў з вайны*
*Пра камунізм дасьніць спакойна сны.*
*Ды ў роднай партыі суровы гнеў,*
*Яна ані даруе ашуканцам.*
*На мыліцах адступнік не пасьпеў*
*Прадаць Далёкі Ўсход амэрыканцам.*

А мог бы й за добрыя грошы. Ды партыю не ашукаеш, яна пільная сваімі органамі.

## Андрэй Макаёнак

Андрэй Макаёнак быў самым касавым беларускім савецкім драматургам. Камэдыі ягоныя ставіліся на незьлічоных сцэнах тэатраў савецкай імпэрыі. Гэта «Выбачайце, калі ласка!», «Лявоніха на арбіце», «Трыбунал» і іншыя. Палітрук у арміі, прапагандыст, камсамольскі й партыйны работнік, выпускнік рэспубліканскай партыйнай школы добра ведаў і натуральнае жыцьцё, і жыцьцё намэнклятуры, і апаратчыкаў. Быў дзёрзкім і незалежным. Любіў кампаніі, застольлі, любіў пачаставаць і нас, маладзейшых, і, вядома, пустакішэнных. Пра Макаёнка казалі, што ён пацее грашыма. І часта мы з Караткевічам бегалі да Андрэя Макаёнка, калі, што называецца, трубы гарэлі.





І было так. Перахапілі мы ў шчодрага старэйшага таварыша трохі грошай. І адразу, як кажуць у Вушачы, грошы пайшлі да раскошы. Мала. Мы зноў да Макаёнка. А ён кажа, што надакучыла яму ў ашчадную касу хадзіць. І засталіся мы з Уладзімерам з носам. А недапіты, як недабіты. І таму прыйшлі мне ў галаву радкі:

*І паваліцца славы казённы тын,*
*І разьвеецца пыл грашавітай раскошы.*
*Макаёнак запомніцца толькі тым,*
*Што ў яго пазычаў Караткевіч грошы.*

Ну, гэта пад недапахмеленую руку. А так кожны па-свойму вяльможны. Усім хопіць месца пад коўдраю славы. Яна ж засьцілаецца штораз па-новаму.

# Яўген Ляцюк

Шчасьлівы лёс зьвёў мяне з выдатным украінскім паэтам Яўгенам Леццюком. Парыўны, адкрыты, дасьціпны. Распавёў мне Яўген вясёлы выпадак у так званыя застойныя часіны. Як ён троху зварухнуў застой. У Яўгена быў верш, які пачаў хадзіць у сьпісах. І надарылася нагода выступіць у школе КДБ, паэтаў каля паўтара дзясятка было. Яўгену далі слова трэцяму. Вырашыў прачытаць верш, каб дакладна запісалі. І пачаў:

*Я так не знаю сам себе,*
*Як знають хлопці з КДБ —*
*Мої біографи невтомні.*





Болей нідзе ня чуў ён такіх воплескаў. Астатніх паэтаў, якія чыталі вершы пра партыю, пра Леніна ўжо ня чулі. Сапсаваў кайф аднапёрцам. А я Яўгену зарыфмаваў сваё захапленьне ім:

*Яўген трымае той бязьмен,*
*Што ўзважвае і плён, і тлен,*
*І здрайцаў, і сумленьнікаў,*
*І д'яблавых пляменьнікаў.*
*Ніхто ня бачыў Леццюка*
*Ля КДБ ці ля ЦК.*

І не дачакаюцца.

## Алекс Лягума

Праходзіла дэкада савецкай літаратуры ў Азэрбайджане. З размахам, пампэзна. Літаратурнае шоў. Чыталіся вершы, гучалі віншаваньні. Аркестры, кветкі, багатыя застольлі, багатасловыя тосты. Аўдыторыя болей вачыма ўспрымала выступоўцаў. Усіх не зьлічыць, не запомніць. Паколькі дэкада была ўсесаюзная, дык гучала ня толькі расейская мова, а й нацыянальныя мовы для калярыту. Каб надаць маштабнасьць дэкадзе, запрошаныя былі майстры пяра зь іншых краінаў, у асноўным савецкай арыентацыі. Замежным гасьцям даваліся перакладчыцы маладыя, звабныя. Яны перакладалі, дый іх можна было, так бы мовіць, перакладаць адпаведным чынам. Разгублены застаўся паэт з Афрыкі Алекс Лягума. Ён закончыў Літінстытут у Маскве і, зразумела, расейскую мову ведаў. А мне напісалася:

*Расейская мова —*
*Збліжэньня аснова.*
*Расейская мова —*
*Вялікая сіла.*
*А ў сьпёку здалёку*
*Дыхнула зімова*
*І жарсьці трапічнай*
*Агонь прыгасіла.*





Алекс Лягума паслухаўся парады Маякоўскага:

*Да будь я и негром преклонных годов,*
*и то без унынья и лени*
*я русский бы выучил только за то,*
*что им разговаривал Ленин.*

Маладому паэту з Афрыкі расейская мова не дала заняцца маладой справай.

# Ігар Лучанок

Да зьдзіву шматгранны талент у Ігара Лучанка. І на выдатныя песьні, і на пасады, і на ўзнагароды й званьні. Як піянэр, заўсёды гатовы. Пра рухавасьць і зухаватасьць Лучанка пісаў я ў свой час:

*Не, Лучанок ня меў ляноты,*
*Усё, што мог, паклаў на ноты.*
*Адзін заняў пасады ўсе*
*І бранзавее пакрысе.*

Была камісія ў стварэньні, ці дакладней кажучы, дзеля зацьвярджэньня гімну Беларусі. Прапаноўвалася ці «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», ці «Магутны Божа». Як ні намагаліся мы, кіраўнікі камісіі адхілілі абедзьве прапановы. Я разумею, чаму. Сьвярбела самім напісаць. Хоць гімн павінен быць выпрабаваны часам, мець сваю біяграфію, а не пісацца пад чарговую ўладу.

Думка мая пацьвердзілася, калі аднойчы Лучанок патэлефанаваў мне й сказаў, што музыка гімну ў яго гатова. Я толькі дадаў, што ведаю, чые словы. Размова была кароткая.





Ігару Лучанку пісаў я шмат вітаньняў, было й такое:

*Кіпіць натхненьне ў чыгунку.*
*Вядзецца гаспадарка плянава,*
*І пішуць тэксты Лучанку*
*Усе —*
*Ад Лукшы да Лук’янава.*
*Смакуе менскую прапіску,*
*А песьню чуе па-расійску.*

І за псэўданімам нельга чалавеку схавацца ад сваёй існасьці. Бывае, што мяноўна псэўданім існасьць гэтую падкрэсьлена раскрывае.

# Радзіслаў

Паэт Радзіслаў Лапушын, нашчадны мянчук, жыве цяпер у Амэрыцы ў Чыкага. Яшчэ вучыцца па лініі філялёгіі й дае прыватныя ўрокі расейскай мовы. Расейская мова нялёгка даецца амэрыканцам. Асабліва сэнс не заўсягды даходзіць, бо іншае мысьленьне й жыцьцёвы ўклад. Так трыццаціпяцігадовы вучань-халасьцяк ня мог зразумець, у чым соль выразу «Не хачу вучыцца, а хачу жаніцца». У амэрыканцаў жаніцьба — высокая адказнасьць. Яна бадай што найважнейшая й найсур'ёзьнейшая справа. Дык вось вучань гэты думаў, думаў, а пасьля заўсьміхаўся: «А, я зразумеў. Гэта значыць, не хачу вучыцца, а хачу трахацца». Амэрыканец наведаў Расею, і яго навучылі гэтаму слову. Магчыма, на практыцы. Яшчэ цяжэй давялося б Радзіславу данесьці сэнс такога афарызму: «Моется тот, кому лень чесаться». Гэта ўжо з вобласьці мэнталітэту.
А сам Радзіслаў Лапушын, бывае, блытае ангельскія словы. Замест падноса (*tray*) просіць сьмецьце (*trash*). У кітайскім рэстаране замест відэльца (*fork*) папрасіў люгашку (*frog*), а яму адказалі, што люгашак ня робяць.
Штогод прыяжджае Радзіслаў у Менск, каб не забыцца свайго, каб наталіцца карэннасьцю. Пасьля нашых сустрэчаў і расповедаў Радзіслава прыйшлі да мяне радкі:





# Лапушын

*У мовы кожнай*

*Канкрэтныя ўмовы.*

*І каб да сэнсу дапасьці,*

*Мусіш*

*На смак і на прысмак*

*Праверыць словы,*

*Пакуль язык не прыкусіш.*

*Ці ў ціхім Менску,*

*Ці ў тлумным Чыкага*

*Шануе слова*

*Увагу й павагу.*

Няўседлівы, дапытлівы, брыклівы, не маўклівы, але не крыклівы, малады гадамі й вобразамі. Гэта Глеб Лабадзенка. Заўсягды на лініі агню бачнага й нябачнага. Новая зьмена беларускай інтэлігенцыі. Навучаўся ў нашым пакутным Беларускім ліцэі й навучыўся добраму. Ён і паэт, і журналіст, і фотакарэспандэнт. Шмат езьдзіць і паўсюль пасьпявае. З адведзінаў Вільні прывёз мне драўлянага салаўя — адпуджваць, адганяць чарцей, у сэнсе камуністаў. Сёлета па тэставай сыстэме прайшоў на аддзяленьне журналістыкі Белдзяржунівэрсытэту. Калі паведаміў пра гэта маці, яна пахваліла сына й сказала, што грошы, якія зьбіраліся для вучобы ў платнай ВНУ, можна пусьціць на рамонт кватэры. Глеб ужо з маладых гадоў, як бачым, дапамагае бацькам весьці гаспадарку. А мне радасна, што на маіх вачох расьце сапраўдны беларус, творца. Маладзюткаму сябру й гэтыя мае радкі надзеі й перасьцярогі:





*Глеб!*
*Не звыкай да хвалеб.*
*Паэзія — хітры склеп,*
*Дзе льга заблудзіцца*
*І зроку, й кроку*
*Безь ліхтара незаспанага клёку.*
*Характар капрызны ў глыб.*
*Сьмялей іх варочай, Глеб.*
*Сягай і ў вышыні, і ўглыб.*
*Пільнуйся крывіцкіх глеб!*

**Глеб Лабадзенка**

Патэнтаваны доктар, зельнік, нашчадны крывіцкі вядзьмар Пётра Кухарскі верыць у крывіцкае слова, у нашыя зёлкі. Бо ўсе лекі з аптэкі, заснаваныя на хіміі, ня лечаць, а калечаць. Гэта спадар Пётра, сам урач, кажа: урачы існуюць для таго, каб падоўжыць пакуты хворага. Абураецца, што ганяюцца за пігулкамі з замежнай травы, а на свае травы ўвагі не зьвяртаюць. Увесь сьвет цягнецца да натуральнага. А мы ўсе яшчэ ў палоне хіміі.

Вядзьмар любіць вострае слова, вясёлы жарт, нават крута пасолены. Па-лекарску няшчадна ўсьміхаецца: ня мучаецца той, хто памёр, мучаюцца тыя, хто засталіся. Нікога ён не баіцца, апрача дантыстаў. Лекар лекара баіцца, аж пуляты страх траіцца. Сябру свайму й паратоўцу пісаў шмат, у тым ліку й такое:







*Заўсёды ў вядзьмара Пятра*
*Ёсьць чым дапасьці да нутра,*
*Ня толькі зёлкавым напоем,*
*Але й вясёлым даўгастоем.*
*Вада ў рацэ,*
*А ў лесе дровы,*
*І лекар мусіць быць здаровы.*

# Аркадзь Куляшоў

Аркадзь Куляшоў нарадзіўся клясыкам. Ён давёў беларускі верш да клясычнае дасканаласьці. Заглыблены ў сябе паэт не любіў трыбуньнічаць, акторнічаць, красавацца ў прэзыдыюмах. Прыкуты да слова вязень паэзіі працаваў да самазабыцьця. Маладая зьмена кідае паэту прасавецкія вершы. Ён напісаў верш «Камуністы», але так, што запомніўся. Бо нічога ня ўмеў рабіць абы-як, па прынцыпу — абы з рук, а на ногі само зваліцца. А іншыя на пуды важылі вершы пра партыю, пра камуністаў, а ніводзін не запомніўся нікому. Аркадзь Куляшоў як бы раз адбыў прымусовую працу, каб болей да яе не вяртацца. Дарэчы, у «Балядзе пра камсамольскі білет» ёсьць падспудная антысаветчына: «жыць застанесься, жыцьцё даражэй». І куляшоўская паэма «Хамуціюс» пра Кастуся Каліноўскага будзіла сьвядомасьць.

Аркадзь Куляшоў ня гнаўся за пасадамі. І любіў вясёла распавесьці пра Паўла Кавалёва, спакойнага чалавека, якога пісьменьнікам зрабіла сыстэма. Гэта Кавалёў шчыра прызнаўся: «Працаваць мне ўжо цяжка, але міністрам бы яшчэ пабыў». Куляшову заўсягды працавалася, а вось міністрам пабыць не хацелася ніколі.





*У клясыку, як куля, йшоў,*
*І славай быў прызнаны рана.*
*Прамерыў шлях да акіяна*
*Ад «Грознай пушчы» Куляшоў.*
*Чыноў не заўважаў знарок,*
*Бо ўпэўненасьць была ў Аркадзя, —*
*Як на патэльні піражок,*
*Паэт сьпячэцца на пасадзе.*

Засталася лірыка Аркадзя Куляшова, паэмы, пераклады. А ад шмат якіх паэтаў, абвешчаных пасадамі, і напаміну не засталося. Кожнаму сваё — каму вуда, каму пугаўё.

## Кандрат Крапіва

Усе званьні, узнагароды, прэміі, якія толькі былі ў камуністаў, Кандрат Крапіва атрымаў. Драматург, сатырык, публіцыст, вучоны. Ня буду пералічваць п'есы. Байкі былі ў школьных праграмах, у іх ганьбаваў Крапіва ўсё, што перашкаджала пабудове камунізму. З публіцыстыкі прывяду толькі загаловак артыкулу 1937 году: «Варожыя пляны разьбіты». Як вучоны славуты тлумачэньнем геніяльнай працы Сталіна «Марксізм і пытаньні мовазнаўства». Адно з дасьледаваньняў так і называлася — «Працы І.В.Сталіна ў галіне мовазнаўства і задачы беларускай савецкай літаратуры». Асабліва пастараўся Крапіва ў слоўніках, зрасейваючы мову. Быў сатырык Крапіва й лірыкам, адны назовы вершаў гавораць пра тонкі лірызм: «Радзіме і правадыру» (1938), «Таварышу Сталіну» (1939), «Падзяка Сталіну» (1940), «Песьня пра Сталіна» (1946).
Казалі, што ў свой час Панамарэнка паклікаў адданых партыі творцаў пяра й паведаміў, што ёсьць магчымасьць некалькіх пісьменьнікаў вярнуць са сталінскіх курортаў. І тады прагучаў голас сатырыка Крапівы: «Як сядзелі, няхай так і сядзяць». І Панамарэнка змоўк. Канкрэтны гумар, ад якога патыхала холадам, як і ад самога Кандрата Крапівы. Яму й склаліся радкі з адпаведным настроем:





*Быў камуністам з галавы да ног.*
*І сталіністам з ног да галавы.*
*І на расейскі лад, як толькі мог,*
*Гнуў мову,*
*Засукаўшы рукавы.*
*Крывіцкі дух трымаўся ледзь жывы*
*У слоўніку Кандрата Крапівы.*

І вытрымаў. І выжыў. І жыве.

# Барыс Кіт

Думка шчырага беларуса ўзьняла ў бясконцасьць касьмічную ракету. Барыс Кіт вынайшаў формулу ракетнага паліва. Жывучы ў замежжы, не забыўся найвыдатнейшы вучоны роднай мовы, не пазбыўся каранёў сваіх крывіцкіх. Я шчасьлівы, што завочна знаёмы з Барысам Кітом. Пазнаёміў нас сам Васіль Быкаў. У Нямеччыне Кіт быў Васілёвым спагадцам, суразмоўцам, аднадумцам. Аж да сораму не цярпіцца мне паганарыцца, што Барыс Кіт пахваліў маю інтуіцыю, мне сказаў пра гэта Васіль Быкаў. Як роднага, гучаў мне голас Кіта. Голас глыбінна-крывіцкі, які трэба слухаць душою. І вось на нядаўняй прэзэнтацыі кнігі «Быкаў на Свабодзе» зноў пачуў я родны голас. Пісаў я верш Барысу Кіту сур'ёзны. Але захацелася паслаць вясёлыя радкі вялікаму беларусу:





*Як ні сягне высока птах,*
*Ляцеціме ў гняздо наніз.*
*Зямля стаіць на трох кітах.*
*Адзін з кітоў —*
*Спадар Барыс.*

Уладзімер Караткевіч. Гэта дзіця з вачыма празарліўца. Непасрэдны, натуральны, не прыдуманы самім сабой, ён быў на «ты» з гісторыяй. Ён адчуваў глыбокія карані свайго роду, карані крывічоў. Ён маліўся за Беларусь. Ачышчаў абраз Беларусі ад паклёпаў, ад зьнявагаў, ад пылу й куродыму чужакоў. Уладзімер Караткевіч пачуваў сябе панавіта. Фантазія ў сьветлага анёла нацыі была незацугляная.

Аднойчы пасьля добрага застольля Ўладзімер паведаміў мне: «А заснавальнік роду Раманавых Іван Кабыла быў конюхам у майго дзеда». Ня дужа слухмяным языком я заўважыў, што ў 1913 годзе было трохсотгодзьдзе дому Раманавых. Сябра ня стаў слухаць мой сумнеў і ўдакладніў: «Калі ня ў дзеда, дык у прадзеда. А, наогул, гісторыі ты ня ведаеш». У апошнім довадзе была праўда. Мне нічога не заставалася, як запрэгчы рыфму:





## Уладзімер Караткевіч

*Гарластыя ў нас ёсьць хвалевічы,*
*Налезла ў літпаны шпаны.*
*Але цягацца з Караткевічам*
*Ва ўсіх кароткія штаны!*

## Алесь Камоцкі

Слава — непрадказальная пані. Сама выбірае сваіх пакloньнікаў, ці, калі можна так сказаць, прыслаўнікаў. Яна йдзе ўперадзе, даючы шанец, вядома, ня ўсім дагнаць яе.
Алесь Камоцкі бард, паэт, філёзаф па адукацыі, не нахабна, але ўпэўнена кідае вока на славу, і яна адчувае гэта.
Недзе ў канцы 80-х гадоў цяпер ужо мінулага стагодзьдзя паехаў Алесь у Польшчу. Як барда яго ўжо тут ведалі, але жыўцом ня бачылі. На вакзале сустрэў Камоцкага ягоны сябра Багдан Сіманенка — мажны, фактурны, лічы як два Алесі. Ён узяўся паднесьці бардаву гітару. І ўсе прымалі Багдана за Алеся. Багдан і пачуваўся Алесем, хіба што аўтограф не даваў. І толькі калі на сцэну ўзышоў Камоцкі, зразумелі, хто ёсьць хто.
Камоцкі аддаў даніну Бахусу, і цяпер з моцных напояў у яго адна гарбата. Таму аднойчы Васіль Быкаў зь цёплай усьмешкай казаў: «Добры чалавек Алесь Камоцкі. Але калі б ён яшчэ піў, яму б цаны не было». Гэта жарт. А наогул Васіль Быкаў любіў слухаць Алеся. Мне голас Алеся гучыць пакрывіцку і ўзьнёсла й родна. Пісаў я для пранікнёнага барда й рамансы, і псальмы, і такія ўсьмешыстыя радкі:





*Слава — разьвядзёнка маладая,*
*Любіць прыставаць да маладых,*
*Асабліва да капрызных тых,*
*Хто яе нібы не заўважае.*
*Толькі ані ўдзень, ані ўначы*
*Ад яе Алесю не ўцячы.*
*Слава ведае,*
*Чаго ён варт —*
*І шляхетны, і прыкольны бард.*

Кася скончыла гістарычны факультэт і падалася ў асьпірантуру. Ні кандыдатам, ні доктарам гістарычнае навукі ня стала. На шляху да вяршыняў навуковых званьняў узьнік Алесь. І Кася прапела асьпірантуру й сваю кандыдацкую. І так сьпеліся Кася й Алесь, што сталі жонкай і мужам. Кася падарыла Алесю дачку, а ён даў ёй сваё прозьвішча. Лірычны бартэр. Кася Камоцкая рашуча рушыла ў рок-музыку. Усе тытулы, якія толькі былі ў беларускім року, дасталіся Касі Камоцкай. Да шляхетнага прозьвішча вельмі ўжо дапасаваўся тытул Касі — рок-князёўна. Алесь недарэмна называе Касю Валянцінай Церашковай беларускага року. Доўга разам сьпявалі Кася й Алесь. Але цяпер кожны пяе самастойна. І трэба прызнаць, болей чым прыстойна — выдатна. Згадваецца беларуская народная песьня: «Раней мы кахаліся, як ластаўкі ў стрэсе». Страха крывіцкае песьні ахінае іх, засланяе ад халодных вятроў недаверу й зайздрасьці.

З Алесем Камоцкім у мяне творчае супрацоўніцтва. А Касі мае радкі прыязьні:

## Кася Камоцкая





*Перад канцэртамі Камоцкай Касі*
*Чарга вульканіла ў білетнай касе.*
*Вучыла Кася*
*Беларускі рок*
*Рабіць ўпэўнена свой першы крок.*

І навучыла. Бо настаўніца таленавітая!

## Каміл Камал

Мастак, скульптар, філёзаф Каміл Камал працуе штодзённа плённа. Цікава, што даслоўна «Каміл Камал» перакладаецца як «дасканалая дасканаласьць». І гэта дакладна. Каміл меней за ўсё думае пра славу, бо любіць справу. Творца — чалавек вясёлы. І зь ім бываюць вясёлыя здарэньні.

Да прыкладу. Два гады працаваў над 3,5-мэтровай скульптурай «Дрэва жыцьця» з бронзы. Сёлетняй вясной адбылося адкрыцьцё фантана ў раёне Трактарнага заводу. Выступалі ўсе, а скульптару слова даць забыліся.

Быў выпадак, калі рабілася сумесная выстава некалькіх мастакоў. Каміл ня змог прыйсьці на адкрыцьцё. Празь дзень прыйшоў, а ягоныя пяць працаў сябры схавалі ў шафу. Няйначай баяліся, што іх могуць украсьці наведвальнікі. Гэтак высока зацанілі. Майстру, а па-ўсходняму ўстоду, напісаліся ў мяне сяброўскія радкі:



дуліна ад Барадуліна

*У спадчыну ад гордых скал*
*Характар атрымаў Камал.*
*Як трэба,*
*Можа ўстод Каміл*
*Плячом падперці небасхіл.*
*Ён так задуман,*
*Каб хапала*
*На ўсё няўрымсьніка Камала.*

І хапае!

Сам малады, быў бацькам маладых паэтаў у 50–60 гадах таго стагодзьдзя Іван Калесьнік, літкансультант газэты «Чырвоная змена». І сам вучыўся пісаць, і нас вучыў. Да страты рэальнасьці закаханы ў паэзію Іван шчыра радаваўся кожнаму новаму пачаткоўцу, падахвочваў яго, падліваў алей у кволую лямпадку намераў. Шумна і ўзьнёсла праходзілі паседжаньні літаб'яднаньня пры «Чырвонцы», якія часьцяком працягваліся ў кавярні. Болей сподзеву, чымся наяўнасьці, было ў папеўцы:

*Нас не дагоніш на трохтонцы.*
*Сухімі выйдзем мы з вады.*
*І мы ў «Чырвонцы» куем чырвонцы,*
*Паўсотні цягнем са «Звязды».*

І ў шасьцідзясятых гадах усё яшчэ сядзеў у нас страх, па спадчыне перайшоўшы ад ацалелых бацькоў. Замочваем мы з Іванам нейкую публікацыю ў рэстаране «Нёман». Раптам





узбліск асьвятляе зьвечарэлы змрок. Іван падхопліваецца й спалохана бяжыць да афіцыянткі: «Хто нас фатаграфуе?» Тая спакойна ўсьміхаецца: «Гэта трамвай дугой бліснуў...»

Пра Івана Калесьніка складаліся ў мяне й такія радкі:

*Ён ад паэтычнай працы*
*Насядзеў мазоль на срацы.*
*Закапцеў, нібы чалесьнік,*
*Дарагі Іван Калесьнік.*

Працаваў паэт у традыцыйнай манеры. Таму і ўсьміхнуліся вясёла радкі:

*Калесьнік радасны, як дзіця.*
*Абед сьвяточны заказвае жонцы*
*Да дваццацігодзьдзя з дня адкрыцьця*
*Рыфмы сонца — бясконца.*

## Іван Калесьнік

## Сяргей Законьнікаў

Занудa. Маладзіцы звычайна сьмяюцца, што яму прасьцей даць, чым слухаць яго. Але зануды бываюць рознага разьліву.

Мой зямляк, як у нас кажуць, вушацкі малец Сяргей Законьнікаў — шчымлівы лірык і палкі публіцыст. Калі працаваў рэдактарам часопісу «Полымя», таксама занудам зваўся супрацоўнікамі. Дужа ўедліва чытаў усе матэрыялы ў нумар. Быў такі вясёлы выпадак. У друк падрыхтавалі аповесьць Аляксея Карпюка. Чыталі ўсе, ад намесьніка рэдактара, сакратара, стыліста, карэктараў, але ніхто не заўважыў, што адзін з герояў аповесьці ўтапіўся ў моры, а праз трыццаць старонак усплыў і жыў да канца твору.

Вонкава летуценны, замроены паэт мае востры засяроджаны позірк. Ён бачыць усе хібы калхознага сацыялізму. Навылёт бачыць прадажнікаў, запабежнікаў. Папрацаваўшы ў свой час у ЦК, на дух не выносіць намэнклятуру ўсіх колераў. Сам ня сьпіць у шапку ды ім не дае. Гэтыя радкі пра трапяткога і, як у нас казалі дома, ядкага на зуб паэта:





*І ў ЦК працаваў —*
*Чалавекам застаўся.*
*З ходу кінулі ў «Полымя» —*
*І не згарэў.*
*Да Законьнікава*
*Не прыстала лухта ўся.*
*Цемя не перагрэў*
*Звышідэйны сугрэў.*

«Полымя» загартавала так, што й тапельцаў вылоўліваў.

У тым стагодзьдзі запыталіся ў мяне падчас аднае сустрэчы студэнты, як гляджу я на творчасьць Аляксея Дударава. Тады яшчэ толькі пачынаўся Аляксей як драматург. Адказаў я, што па касавых зборах дагоніць ён Андрэя Макаёнка, а час пакажа астатняе. І маё прадказаньне ў асноўным спраўдзілася. Цяпер слова за часам. Ня ведаю, як лічыць сябе Аляксей — скончаным клясыкам ці яшчэ не дарэшты ўбранзавелым. Але часам распавядае пра сябе з хітраватай усьмешкай.
Паплылі яны сябрынай на двух маторных чоўнах па Нёмане. Недзе на паўдарозе матор аднаго чоўна заглух. Сябры прысталі да берагу, каб здабыць нейкія запчасткі, а Аляксею даручылі веславаць і валачыць за сабой сапсуты човен. Ды Нёман так панёс чоўны, што вясьляр выпусьціў вёслы. Нёман зрабіў дугу й вынес чоўны на тое месца, зь якога адплывалі. Рыбак убачыў чаўнара й гукае: «Дык гэта ж драматург Дудараў!» Аляксей зьдзівіўся, адкуль яго спазнаў рыбак. Гэта ж рыбак рыбака бачыць здалёк, але не драматурга. Потым выявілася, што сябры наказалі рыбаку, што будзе плысьці драматург Дудараў. Слава можа быць і сур'ёзнай, і вясёлай да кеплівасьці. А Дудараў ня сьпіць у шапку, рупіцца, каб слава ставілася да яго на поўным сур'ёзе.





*Убачыў трэшчыну на дне застою,*
*І быў абляўрэачаны за тое.*
*Ды, пэўна, ўцямна стала Аляксею,*
*Што з часам п'еса вострая тупее.*
*І свой тэатар стварыў на лад вайсковы.*
*А ў ім, вядома, ён не шараговы.*

## Аляксей Дудараў

Літасьць ленінска-сталінскага рэжыму прадугледжвала замену сьмяротнае кары на 25 гадоў зьняволеньня. Уладзімер Дубоўка — зорка першай велічыні на небасхіле паэзіі 1920-х гадоў — адгрукаў, як некалі казалі, ад званка да званка каля 27 гадоў, не па карце вывучаючы самыя глухія й самыя аддаленыя вуглы «единой и неделимой» савецкай імпэрыі. Трэба аддаць належнае нюху чэкістаў — ведалі, дзе сапраўдны талент, дзе патэнцыйны геній нацыі, вынішчалі самых лепшых.
Гэта інтэлектуалу, інтэлігенту бальшавікі даверылі працу ў тайзе. Вось толькі некалькі ўрыўкаў з апавяданьняў. «Жыў на Далёкім Усходзе. Траляваў з тайгі бярвеньне на тартак...» «На адной сядзібе мы з жонкаю выкарчавалі больш сотні пнёў...» І пасьля рэабілітацыі ў Менск не вярнуўся, бо жывыя былі тыя, хто пісаў даносы, ілжэсьведчыў.
Да гэтага часу ніякавата пачуваю сябе, калі ў 1964 годзе ўдзельнікам нарады маладых наведаўся я да Ўладзімера Дубоўкі ў ягоную маскоўскую кватэру ў Чаромушках. Малады, упэўнены, што вяртаньня да старога ня будзе, грунтоўна падпіты, нёс я несусьвеціцу, крытыкаваў і старыя, і новыя парадкі, сыстэму. Сьмелы, як заяц. Шаноўны паэт неахвотна падтрымліваў мяне, як цяпер разумею, па інэрцыі, баючыся правакацыі. Запомнілася мне, што гаспадар на выпадак падслухоўваньня запінаў разэткі галёшамі. Ды, бачачы, што й гарэлка мяне ня тушыць, падараваў мне рэдкаснае выданьне — двухтомнік Клюева. Хадзіла легенда, што паэт прывёз з сабою сталярскі рыштунак. На магчымае будучае.





Уладзімер Дубоўка да гэтага часу фактычна не рэабілітаваны. У свой час у выдавецтве «Мастацкая літаратура» я папрасіў супрацоўніка Нацыянальнай бібліятэкі падрыхтаваць чатырохтомнік паэта. І дасюль глуха. Як са зборам твораў Васіля Быкава. Сумнаватай лірыкай патыхаюць мае радкі:

*Вятрыска з Радзімы журбу прывязе.*
*Паблісквае маладзіцкова падкоўка.*
*Будуе хату сабе ў тайзе*
*Беларускі Авідый — Дубоўка.*
*Надзея з гадоў маладосьці йдзе.*
*Завея грэецца ў барадзе.*

## Уладзімер Дубоўка

# Іван

# Драч

Пасьля так званай хрушчоўскай адлігі пачалі прабівацца праз усё яшчэ сьцюдзёны сьнег рэжыму сьмелыя пралескі паэзіі. Украінскі паэт Іван Драч з гэтай вясновай зьмены. Віртуёз радка, парыўны лірык, публіцыст у самым адказным значэньні гэтага слова, Іван быў далёка чуваць. Будзіў ад сну, заклікаў задумацца, адчуць сябе гаспадарамі на сваёй зямлі. Вельмі натуральна ў лірычныя й заклічныя вершы ўплятаўся ўкраінскі гумар, украінская кеплівая ўсьмешка. Іван Драч — верны сябра Беларусі. Моцна сябраваў з Алесем Адамовічам, перакладаў беларускую паэзію, пісаў пра Беларусь. Я ў свой час пераклаў кнігу лірыкі Івана Драча «Мэлёдыя каліны». Абменьваліся мы з Іванам і кнігамі, і лістамі, і экспромтамі. І на ўсесаюзным зьезьдзе пісьменьнікаў у 1981 годзе, напаўвуха слухаючы доўгія выступы й грунтоўныя ўказаньні, мы перапісваліся. Я атрымаў такое:





*Дорогий мій Грицю-брате,*
*Все з нас можуть драти й брати,*
*Та братерства не візьмуть.*
*Ось в чім суть!*
*Це наша суть!*
*Москва, Кремль. Іван Драч*

І я паслаў адказ:

*Дарагі мой пане Йване!*
*Літжыцьцё, як паляваньне:*
*Мы палюем на радкі,*
*А на нас палююць тыя*
*Безаблічныя дзядзькі,*
*Пільныя з часін Батыя.*
*Сутнасьць,*
*Пане Йване, ў тым,*
*Што яны сплывуць, як дым.*
*Наша праўда застанецца.*
*Сталь куецца, ды ня гнецца!*

І нядаўна прыяжджаў у Беларусь Іван Драч падтрымаць, падзяліцца й радасьцю, і смуткам. Нас, як кажуць вушацкія людзі, ні вада не размые, ні сьвіньня не разрые.

## Вадзім Грудзько

Асноўная ягоная прафэсія — праца. Афіцыйна працаваў у газэтах, у БелТА. Закончаны жыцьцялюб у студэнцкія гады і ў манахах пахадзіў. А было так. Паехаў Вадзім Грудзько на практыку на Байкал. Пасялілі ў інтэрнаце геалягічнага факультэту Іркуцкага ўнівэрсытэту. Па вечарах практыкант запальваў у сваім пакойчыку сьвечку, заварваў кубак гарбаты й пісаў нарысы ды рэпартажы. Трэба дадаць, што на летні час адпускаў як не да паяса бараду. Сядзіць аднойчы Вадзім за працай і чуе няпэўныя крокі, адварочваецца, а на яго глядзіць студэнт. Вадзім басавіта й пытаецца: «Што цябе прывяло да мяне, сын мой?» Адпаведна праз колькі хвілін прыбегла дзясяткі два студэнтаў глядзець на манаха. Такім вось манахам пабыў Грудзько.
Аб'ехаў сьвет з прысьветкам, але ўсе ягоныя захапленьні перамаглі краявіды беларускага краю. Толькі што выйшаў незвычайны том фотапаэзіі. Мяноўна паэзіі. Бо альбом «Край» Вадзіма Грудзька трэба чытаць, а ня проста глядзець. Думка й пачуцьцё перапляліся ў незвычайнай кнізе. Паўтараю: яна называецца «Край».



дуліна ад Барадуліна

*Бярэцца Грудзько*
*Як ня ў зáгрудкі з плёнам.*
*У працы ён звык*
*Быць канкрэтна шалёным.*
*Фартуна за нос не занадта вадзіла,*
*Стамілася хітрыкі строіць старая.*
*І перамагла працалюба Вадзіма*
*Краса натуральная роднага Краю.*

# Анатоль Грачанікаў



дуліна ад Барадуліна

Анатоль Грачанікаў. Паэт, актывіст, кіраўнік, шчыры сябра. На ўсё хапала яго. Высокі, скалапрофільны, няўрымсьлівы. Да яго цягнуліся, хінуліся асабліва дзяўчаты. Працаваў у апараце Саюзу пісьменьнікаў, на камсамольскіх пасадах. У дзявочай аўдыторыі пасьля Грачанікава выступаць было цяжкавата.

Быў Анатоль Грачанікаў і рэдактарам часопісу «Маладосць». Тады й склаліся ў мяне радкі:

*Як рэдактар «Маладосці»*
*Маладое мае штосьці,*
*Што «Грыбной парой» у лесе*
*Адпаведнай рыфмай лезе.*

Адзін са зборнікаў паэзіі Грачанікава меў назоў «Грыбная пара».

А калі Анатоля прызначылі рэдактарам часопісу «Вясёлка», я віншаваў яго такімі радкамі:

*Грачанікаў з канкрэтных дзеячоў*
*Усіх на аглаблю бярэ даўгую.*
*Ён нарабіў спачатку чытачоў,*
*Цяпер для іх часопіс рэдагуе.*

І добра рэдагаваў. І добра рэагаваў на віншаваньне.

Акадэмік. За савецкім часам гэтае званьне пісьменьнікам давялося ў асноўным за вернасьць партыі і ўраду. Згадваецца, як ужо ў перабудовачны пэрыяд праходзілі дні расейскай літаратуры ў Беларусі. Намесьнік старшыні Савету міністраў Сьняжкова знаёміць маскоўскіх гасьцей з нашымі тытулавікамі: «Акадэмік Навуменка». І Ўладзімер Кастроў з ходу: «Что такое академик? Старый хрен на куче денег». Гэта да слова прыйшлося. А ўзгадаць мне хочацца акадэміка Пятра Глебку.

Са школы запомніліся сваёй незразумеласьцю радкі зь верша Глебкі пра клятву Сталіна над труной Леніна: «Падымі мяне, сіла класа, над галовамі паўшых ніц». Гэта кшталту: і зноў акула імпэрыялізму разяўляе сваю кракадзілаву пашчу.

Яшчэ да прыезду майго ў Менск чуў ад мамы й ад местачкоўцаў: «А гэны вылез з машыны перад рэстаранам, чырвоны, як бурак. А плашч увесь як цяляты пажавалі. Няўжо так прапіўся, што людзкага плашча сабе купіць ня мог?» Глебка назначаўся было дэпутатам ад нашае акругі. І плашч быў амэрыканскі. Міністар замежных справаў БССР Кісялёў любіў браць з сабой Глебку, бо той мог начамі сядзець, гуляючы ў карты, за адпаведнай дозай капіталістычнага галавабойнага напою.

Верны партыі камуністаў быў акадэмік Глебка. Калі ў выдавецтве рыхтавалі да друку ягоны дзёньнік, там было шчырае абурэньне, што моладзь заражана нацыяналізмам. Адно ўсё-такі мне падабалася ў Глебкі, гэта бездакорнае вымаўленьне. І такія мае радкі акадэміку:





*Партыя брала пад уцепленае крыло*
*Таго,*
*Хто ейнае ўзносіў найменьне.*
*Хоць з адкрыцьцямі навуковымі*
*Пусьцела кубла,*
*Затое ў акадэміка Глебкі было*
*Правільнае прамаўленьне.*

І на тым дзякуй!

**Пятро Глебка**

# Георгі Вылчаў

Зь сямідзясятых гадоў мінулага стагодзьдзя бываў у мяне дома і ў Менску і ў Вушачы баўгарскі паэт і эсэіст Георгі Вылчаў. Кажу «мінулага стагодзьдзя», а самому неяк ніякавата, нібыта два стагодзьдзі жыву. Дый яно сапраўды дагэтуль жыву ў тым стагодзьдзі, дакладней, тым стагодзьдзем. Бо яно было маладое. А таму болей вясёлае.
Дык вось пра Георгія Вылчава ўзгадка. Ён напісаў кнігу пра Беларусь, у прыватнасьці, паэму пра Вушаччыну. Мне давялося перакладаць і паэму й вершы.
Безумоўна, ня толькі мы пісалі й перакладалі вершы, але й прымалі ўдзел у спаборніцтве баўгарскіх і беларускіх напояў ад каньяку, віна да самагонкі й бражкі. Падчас аднаго такога спаборніцтва вучылі Георгія сьпяваць беларускія народныя песьні. Адна ў яго атрымлівалася пацешна. Гэта «Капаў, капаў крынічаньку». І гучала так:





*Ой, жал непамалу,*
*Любіў дзеўчыну змалу,*
*Любіў ды ня ўзяў.*
*Ой, жал, жал.*

Яно й праўда, мяккі знак тут лішні, калі моцнае жаданьне.
І зарыфмаваў я гэтае выкананьне:

*Госьць баўгарскі ведаў з маладосьці,*
*Цьвёрдасьць*
*Мае ў пэўнай справе смак.*
*Як і ў рэзалюцыі, ў міласьці*
*На канцы ня трэба мяккі знак.*

З гадамі прыходжу да старой ісьціны: канец цьвёрды дае рэкорды.

## Анатоль Вялюгін





Анатоль Вялюгін — легендарны сваімі прыгодамі, асабліва пасьля шчырай размовы з Бахусам, быў майстра ўзрушанага й гранёнага радка. Каля двух дзесяцігодзьдзяў узначальваў аддзел паэзіі часопісу «Полымя». Гэта ён быў апекуном цэлага выраю беларускіх паэтаў ад Караткевіча да Някляева. Адкрываў таленавітых паэтак. Гэта, намякаючы на Веру Вярбу, казалі, што ёсьць песьня «А ў Толі Вярба».

Тут хочацца прыгадаць, што Ўладзімер Караткевіч паслаў было свае вершы Кандрату Крапіве, які параіў не займацца паэзіяй, а біць камяні.

Анатоля Вялюгіна паважалі ўсе. А ён адно ўсьміхаўся: «На мне, як на сабаку, правяраюць паэзію».

З сур'ёзнай ацэнкай творчасьці майстра вязалася й такая ўсьмешка:

*Як дуб, ён і дужы, і стойкі.*
*Ня кожнаму цісьне руку.*
*І ўсе паэтэсы, як сойкі,*
*На ніжнім сядзелі суку...*

Да сваёй салаўінай песьні Зьміцер Вайцюшкевіч ня йшоў, а ляцеў апантана і ўпэўнена. Спачатку йграў у гурце «Палац». Але не ў натуры Зьміцера камусьці падыграваць, ён любіць быць самаісным — такім, як ёсьць. Зь Веранікай стварыў гурт «Крыві». Ды ўрэшце стаўся самім сабою. Сам піша песьні, сам выконвае, а дапамагае пану Зьміцеру «WZ orkiestra». Добры розгалас меў альбом «Паравіны году» на словы Алеся Камоцкага.

Бард з бардам паразумеліся.

Думкі ў Зьміцера разьбягаюцца ад словаў і мэлёдыяў, а вочы ад натхняльніц. Нават быў такі вясёлы выпадак. Сабралася бяседа: сем дзяўчат, сем хлапцоў, а ўсе хлопцы Зьміцеры. Тут ужо дзяўчаты разгубіліся, якога Зьміцера клікаць на болей кантактную бяседу.

## Зьміцер Вайцюшкевіч





Да Зьміцера цяжка дазваніцца па звычайным тэлефоне — заўсягды ў паезьдзінах зь неразлучнай песьняй. Паклоньніцы адлоўліваюць скрытнага й няўлоўнага хіба па мабільных тэлефонах. Гэта ўжо іхні клопат. Напісаў Вайцюшкевіч колькі песьняў і на мае словы. А я маэстру прыдумаў вітаньне:

*Ён у трубы роспачы ня трубіць,*
*У душы надзею перахоўвае.*
*Зьміцер любіць смачна*
*прыгалубіць*
*Песьню*
*І паклоньніцу чарговую,*
*Не з вадою чару асушыць,*
*Каб пажар хаценьня*
*прытушыць.*

Няхай гарыць гэны пажар, няхай ня хрыпне голас Зьміцера, няхай хапае яго на ўсіх і на ўсё!

Зь яго самога можна рабіць графічныя партрэты й каралёў, і гетманаў, і пасьпяховых заляцанцаў. Адны выкрунтасістыя вусы не пакінуць у спакоі ні паненку, ні пані. Настальгічна шляхетны мастак на ўсе рукі спэц. Уладзімер Вішнеўскі вядомы далёка ў сьвеце сваімі графічнымі палотнамі, на якіх жыве наша славутая даўніна, волаты крывіцкага духу. Уладзімер Вішнеўскі — шляхетны беларус ад парыўнай думкі да кончыкаў вусаў.
Сёлета як дацэнт катэдры графікі Беларускай мастацкай акадэміі павёз ён студэнтаў на практыку ў Горадню. І паспрабаваў сваю ўладу над каменем. У майстэрню прывёз шэсьць каменных выяваў. А ў аўтобусе ў Горадні за тое, што размаўляў па-беларуску, кантралёршай быў аблаены бэнээфаўцам. Уладзімер адказаў, што ён належыць да гэтага руху, але чымся крычаць на БНФ, лепей наладзіць графік руху аўтобусаў. «У мяне, — сказаў Уладзімер, — графік на ўсё, і ён працуе спраўна».
Уладзімеру Вішнеўскаму ніякія ідэалягічныя кантралёры ня змогуць перашкодзіць бачыць беларускую гісторыю незалежна.





*Панавіты, вусавіты графік*
*Мае на штодзень*
*Канкрэтны графік —*
*І калі пяром араць лісты,*
*І калі паненкамі натхняцца.*
*Поўная прывабнай пекнаты*
*І пад сонцам,*
*І пад поўняй праца.*
*Пан Вішнеўскі,*
*Падкруціўшы вус,*
*Ведае, дзе саладзейшы кус.*

Яно чым маладзей, тым саладзей.

**Уладзімер Вішнеўскі**

# Андрэй Вазьнясенскі





Віртуёз, жанглёр, вытанчаны майстра паэзіі Андрэй Вазьнясенскі спарадзіў безьліч пераймальнікаў, прыхільнікаў, захапленцаў. Любіў Беларусь, быў частым госьцем у нас. Я пераклаў зборнік ягонай паэзіі. Трэба было бачыць і чуць, як ён чытаў сябе па-беларуску. З багавейнасьцю ставіўся да Васіля Быкава. Васіль цаніў паэзію Андрэя. Звычайна для настрою я чытаў Андрэю вушацкую дзіцячую цьвялілку:

*Андрэй, не дурэй,*
*Не дзяры сарочкі.*
*Ня ты праў,*
*Ня ты ткаў —*
*Хадорыны дочкі.*

А больш сур'ёзна пісаў свайму сябру:

*Усіх прываблівае німб,*
*Трымценьне весьці рэй.*
*Як гуны, валяць на Алімп,*
*Ды ля дзьвярэй*
*Стаіць Андрэй.*
*У Вазьнясенскага ключы,*
*Ня ўсіх пускае,*
*Хоць крычы!*

Рэй у паэзіі Андрэй вёў годна й нясквапна.

Рыгор Бярозкін быў адменным крытыкам, паэтам, перакладчыкам. Да слова Бярозкіна прыслухоўваліся, ягонага слова баяліся. Востры на язык крытык даваў трапныя характарыстыкі, як этыкеткі на моцныя напоі клеіў. Двойчы сядзеў у сталінскіх лягерах. Але з гумарам нідзе не раставаўся.

Аднаго паэта празваў Хрыстапор Калун. Альбо казаў: «Пэўным крытыкам уяўляецца, што паэт-трыбун і сьпіць у трыбуне». Як бы пераказваў твор папулярнага пісьменьніка, на поўным сур'ёзе: «Раманіст, узяўшы сэрца ў далонь, як гранату, заплюшчвае вочы й кідаецца на дзот, а адтуль куры фур-фур-фур...»

Пра партызанскую герoіку распавяданьне нібыта Рыгора Няхая: «Сяджу ў стозе сена. Вакол немцы. Выпіць хочацца, а ў кішэні ні рубля...» Ні кроку не ступаў Рыгор Бярозкін безь вясёлага слова.

Аднаго нэрвовага паэта й перакладчыка ён назваў «спалоханы рэвалюцыянэр».

Як самыя грунтоўныя й дасьведчаныя засталіся кнігі крытыкі Рыгора Бярозкіна. Шмат паэтаў і празаікаў удзячна помняць Бярозкіна, бо ён іх заўважыў і падтрымаў.

Да мяне прыйшлі такія радкі:

*Наўзгатове сьвежыя розгі на*
*Марнатраўцаў паперы ў Бярозкіна.*
*Балабонаў з псэўдаамбонаў*
*У хлявы гоніць сын Саламонаў.*

Добры такі статак загнаў.



дуліна ад Барадуліна

Рыгор Бярозкін

Лукаш Бэндэ. Руплівец у даносах, паклёпах, ад нараджэньня меў прозьвішча Бонда. Гэта, як мне чуецца, штосьці кшталту кадкі, бочкі. А захацелася мэтанакіраванага прозьвішча — і стаў Бонда Бэндам. Абрэвіятура ад «Бей национал-демократов», карацей, нацдэмаў.
І калі я перакладаў «Ветрык, вей!» Яна Райніса, у слоўніку ўбачыў слова «bende» — у латыскае мове ў яго яго адно значэньне: «кат». Сапраўды, Бог шэльму меціць.
Памятаецца, як у выдавецтва «Мастацкая літаратура», дзе я працаваў малады й парыўны, рана-рана зайшоў нехта й назваўся Бэндэ. Як цень 1937 году, мяне скаланула. У рэдакцыі яшчэ нікога не было. І пакой здаўся мне цэляй, так званай адзіночкай. Прыйшоўшы ў сябе, я напісаў:





*— Die Stunde ist zu Ende,*
*Ня ўсё зрабіў, што мог, —*
*Сказаў са злосьцю Бэндэ,*
*І лёг у лёх...*

Лукаш Бэндэ

## Генадзь Быкаў

Прафсаюзы — школа камунізму. Пад гэты лёзунг мы, маладыя франдысты, некалі нават танчылі. А, наогул, за савецкім часам лёзунг сур'ёзна абстаўляўся. Ды з гэтае школы, як з таго раю, ня выйшла нічагутанькі.

Генадзь Быкаў узначальвае Свабодны прафсаюз Беларусі. Хоць прафсаюзы вольныя, яны, як і іхні лідэр, ня вольныя ад перасьледу й ціску зьверху. Афіцыйным уладам свабодныя прафсаюзы не па нутры.

Але Генадзь Быкаў чалавек з гумарам. І каб паказаць, што выконвае загады ўлады, даў тэлеграму Лукашэнку пра тое, што свае трынаццаць сотак пад Менскам засеяў жытам. Ураджай скасілі косамі й зжалі сярпамі, снапы абмалацілі цапамі. Прэзыдэнт можа пераканацца, калі прыедзе. Праўда, дабрацца да плянтацыі льга толькі на кані ці на вэлясыпэдзе. На самалёце нельга, узьлётная паласа вузенькая.

Генадзь Быкаў пасьпявае зрабіць шмат. Яму й прысьвяціў я ўсьмешлівыя радкі:





*І як бы хто яго*
*За што ні тузаў,*
*Ён Быкава з кірунку не саб'е.*
*Генадзь нікога*
*З Вольных прафсаюзаў*
*Ня дасьць ніколі ў крыўду...*
*Ні сябе.*

Аўрэл Бусуёк — вядомы малдаўскі паэт — з вышыні свайго росту глядзеў на савецкую рэчаіснасьць. Казаў, што думаў, а думаў ён сьмела. І ніяк ня мог уцяміць беларускі паэт Міхась Калачынскі, чаго рагатала ўсё застольле. Трапіў Калачынскі ў Малдову з чарговай абменнай пісьменьніцкай дэлегацыяй. І, вядома, пацяклі вінныя ды каньячныя рэкі. І пачынаў Калачынскі тосты свае перадмовай адной і той жа: «Калі я вызваляў Малдавію...» Слухалі гаспадары госьця, слухалі, ды ўрэшце Бусуёк запытаўся: «Гэта вы па сваёй ініцыятыве, ці вас нехта прасіў пра гэта?» Застольле й засьмяялася, наколькі дазваляў этыкет і норма ідэйная. А Калачынскі, вярнуўшыся дадому, яшчэ колькі часу дапытваўся: «І чаго яны сьмяяліся?»
Аўрэл Бусуёк меў незвычайны посьпех у чытачак і асабліва ў глядачак. Але аднойчы, не саромеюся прызнацца, я, п'янюткі й нязграбны, перамог алендэлёністага Аўрэла.
Дэкада савецкай літаратуры ў Азэрбайджане. Выступы, сустрэчы, застольлі. Перад заканчэньнем дэкады ўрадавы банкет. Сярод удзельніц урачыстасьцяў вылучалася паэтка з Таджыкістану, такая пэрсіянка зь песьняў. Адразу ўзгадваліся радкі «и за борт её бросает в набежавшую волну». Пакуль Аўрэл красаваўся перад усім застольлем, мы выйшлі з чараўніцай у цёмную й цёплую ноч, як у казку. Потым я напісаў узгадку:





*Неўтаймаваны Бусуёк,*
*Шаноўнейшы Аўрэле,*
*Суема кожны свой суёк,*
*Пакуль не астарэлі.*
*Бо зь вялымі суйкамі*
*Мы самі ўжо ня самі.*

**Аўрэл Бусуёк**

# Іван

Сёлета ў сьнежні яму стукне 77. А ў маладыя гады любілі мы віно «Тры сямёркі». Яно было й даступнае сваёй цаной, і вясёла забірала, як казла за рогі. Даўні сябар мой Іван Бурсаў цяпер зрэдчас тэлефануе з Масквы. Пачую голас — і маладзею душой, бо ў маладосьць вяртаюся. Бурсаў, Караткевіч, Кляўко, Нядзьведзкі — дружная сябрына. Лёгка й пісалася, і выпівалася, і закусвалася. Іван шмат перакладаў беларускай паэзіі на расейскую мову. Толькі асобнымі кнігамі ў ягоных перакладах выйшлі Бураўкін, Караткевіч, Зуёнак, Цьвірка, Лось. Маіх некалькі зборнікаў пераклаў Іван. Гэта Еўдакія Лось распавядала Бурсаву пра сваю разгубленасьць. На прыёме ў польскім консульстве запрасіў Еўдакію на танец гэдээраўскі консул. Танчыла й думала, што сказаць па-нямецку. Ды ўсе словы вылецелі з галавы, толькі помнілася «хэндэ хох», што значыць — рукі ўгору. І ўвесь танец правагалася, сказаць ці не.
Не адна Лось ласа паглядала на Івана Бурсава. Паклоньніц ён называў непрыземлена — «птички». Чародамі віліся птушачкі каля лірыка, перакладчыка, казачніка. Вершы для дзяцей, казкі выходзілі шалёнымі накладамі й разыходзіліся імгненна, як у казцы. Лірыка нараджала чытачоў казак, загадак і дасьціпных пацешак з хітрынкай, з усьмешкай.



дуліна ад Барадуліна

У застольлі мы называлі Івана старэйшым братам, бо ў Савецкім Саюзе расеец, які яшчэ пад стол пехатой хадзіў, быў старэйшым братам, а любы стогадовы дзед іншае нацыянальнасьці быў малодшым братам. Хоць у Івана Цярэнцевіча (мы казалі Цярэшкавіча) маці была беларуска, дый сам сябе ён лічыў беларусам. Але калі выпадала Івану чарга йсьці ў краму па вогненную ваду, мы лёзунгавалі:

*Идёт по правильному курсу*
*Наш старший брат весёлый Бурсов.*

А болей сур'ёзна казаў я багатаму на ласку сябру свайму:

*Хоть сильна, как смерть, любовь,*
*Но сильней привычка.*
*Ваня,*
*Веточку готовь —*
*Прилетает птичка!*

І дзіцячыя чытачы расьлі. Цяпер ужо яны дарослыя.

Бурсаў

# Генадзь Бураўкін

Генадзь Бураўкін — знакавая фігура ў беларускай справе. Утрапёны, апантаны крывіч. Полацкая зямля дала яму й клёк, і трапяткое сэрца, якое баліць за беларушчыну. У нас на Вушаччыне пра такіх казалі: у кіпячонай вадзе купаны. Вострае пяро, аналітычнасьць і маштабнасьць мысьленьня ў Генадзя Бураўкіна зайздросныя. Любіць гумар і ўмее на ўсім скаку падкаваць Пэгаса. Ня ён гнаўся за пасадамі, а пасады бралі Генадзя аблогай. Ад Менску да Нью-Ёрку прайшоў шлях кіраўніка. Там, дзе быў Бураўкін, была Беларусь, беларуская мова. Пра свайго сябра й земляка я са студэнцкіх гадоў пісаў і ўзьнёсла, і падкавырыста. А як бы на падсумоўку, скла́ліся ў мяне радкі:

*Хай здрайцы шыюцца ў кусты,*
*Бураўкін з мужнасьцю на «ты».*
*Ня браў удзел у дробных звадах,*
*Ня гнаўся за ласейшым кусам.*
*На ўсіх вышыністых пасадах*
*Ён заставаўся беларусам.*

Генадзь рыфмуецца са словам «гнаць». І ён гоніць нечысьць, набрыдзь, пошасьць з нашай сьвятой зямлі.

## Янка

У маладыя гады любіў я езьдзіць да мамы са сваімі сябрамі, пералік прозьвішчаў зойме добрую старонку. Згадаю выбарачна. Васіль Быкаў і Генадзь Бураўкін, Іван Бурсаў і Барыс Забораў, баўгарскі паэт Стэфан Паптонеў і Сымон Блатун. А Ўладзімер Караткевіч ехаў са мной да мамы, як дамоў, і часта. Аднойчы паехалі мы ўтрох: Янка Брыль, Уладзімер Караткевіч і, вядома, я. Хадзілі па ваколіцах, па барах, адведвалі вушацкія азёры. Каля Ваўчэнскага возера, каб выйсьці на звонкую баравіну, трэба было перайсьці рэчку Крывуху па таплявіне. У Янкі Брыля і ў мяне былі гумовыя боты, а Ўладзімер Караткевіч ішоў у туфлях. І давялося Брылю пераносіць па зыбаўцы фальстафаватага Караткевіча.





## Брыль

А ён, добра падбахушаны, зь ніколі не пагаслай цыгарэцінай у зубах, разгойдваючыся, як у сядле, з аршанска-ўэльскай іроніяй цікавіўся: «Янка, ці ня цяжка табе?» — і зьнізу чуў адказ канкрэтны: «Замаўчы, а то скіну». Я толькі ў думках канстатаваў:

*Аж дрыжыць чаратовая грыва,*
*Ўсьмешкай сьвеціцца лісьце ў расе.*
*На плячох манумэнтных цярпліва*
*Помнік будучы помнік нясе.*

Паступова сябры мае робяцца помнікамі, а для мяне яны жывыя...

Пятрусь Броўка быў сынам свайго часу. Але не такім адыёзна савецкім, як яго часам успамінаюць. Любіў жарт, вясёлыя размовы, сам сябе, як помнік, не насіў.
На адным зь пісьменьніцкіх зьездаў у Маскве ўрадавы прыём прыпаў на 25 чэрвеня — дзень нараджэньня Броўкі. Зь сярэдзіны застольля Броўка выйшаў. Пайшоў і я праводзіць земляка, якому «штодня з-пад Вушачы званілі крыніцы». Ідзем па крамлёўскім двары, а пісьменьнік і кажа:
— З усіх цароў люблю Пётру. І не таму, што цёзка. Гэта ж ён пасылаў Меньшыкаву запіску: «Пришли Катьку, страшно еть хочется».



Пятрусь Броўка



Мяккім голасам заўважаю:
— А нам здавалася, што вашае пакаленьне толькі кароткі курс ведала.
— І гэта ведала, — успамінна ўсьміхаецца мой суразмоўца.
У цягніку на Менск усьміхаліся радкі:

*А цёзка Броўкаў, Пётра першы,*
*Як ён, не налягаў на вершы.*
*Ды моц мужчынская ня ўся*
*На рыфмы йшла і ў Петруся.*
*Свае ўва ўсе вякі разьлікі —*
*Зь вялікім хто, а хто вялікі...*

## Сымон Блатун

Сымон Блатун як чалавек, як паэт быў асобай, у жыцьці самабытнай зьявай. У ім спалучалася прыгажосьць унутраная з прыгажосьцю юнака, маладога мужчыны. Лежачы на студэнцкіх ложках, мы перакідваліся экспромтамі, вясёлымі эпітафіямі. Сымон чытаў эпітафію сабе: ён кінуў піць, таму што сьпіць; альбо мне, перафразуючы Сяргея Ясеніна:

*Як сьмерць рукой мяне кране*
*І сьвету белага ня ўбачу,*
*Ня стаўце помнік толькі мне,*
*Ня стаўце помнік мне ў Вушачы.*





Маладым здавалася, што жыцьцё бясконцае. Пасьля ўнівэрсытэту працаваў Сымон у газэце «Звязда». Супрацоўнікаў газэты называлі мы зьвязьдзюкамі. І казаў Сымон, як рэдактар пасылаў яго па інтэрвію да старшыні Вярхоўнага Савету Казлова, цёзкі Чапаева. Генэральная лінія партыі была кукурузная. І таму на ўрадавым лецішчы і ўезд, і выезд, і нават клюмбы пад безыдэйныя кветкі былі ў кукурузе. Прыняў карэспандэнта Васіль Іванавіч у цяністай альтанцы, пачаставаў бярозавікам з журавінамі. Дазволіў напісаць за яго ўсё, што патрабаваў орган ЦК КПБ. Смакаваў бярозавік ды ўсё журыўся, што засталося некалькі бачэнкаў, прысланых з Палесься народнаму абранцу, і, відаць, да новых бярозавых сьлёзаў не дацягне. Напісаў Сымон інтэрвію, павёз на візу. Тая ж альтанка, той жа бярозавічак.

— Ну дык што я там напісаў? — пацікавіўся цёзка Чапаева.

Сымон пачаў чытаць гранкі. Спыніў, спытаў, дзе расьпісацца. Расьпісаўся. На разьвітаньне зноў пабедаваў, пажурыўся, што ня хопіць улюбёнага напою да новага. Быў Сымон Блатун і тонкім лірыкам, і ўедлівым сатырыкам.

Пісаў я сябру свайму й вершы, і прадмовы да зборнікаў. Пісаў як бы застольныя словы:

*Твой кожны верш,*
*Замроены Сымон,*
*Навеяны вандроўнымі вятрамі,*
*Мацнейшы за палескі самагон —*
*Бязроднікаў да памяці вяртае,*
*Чытачак зводзіць з памяці,*
*Яны*
*Хмялеюць ад салодкае маны.*

## Лявон Баршчэўскі

Размаўляе на сямі, чытае на дваццаці мовах. Пытаньне ў красворд Беларушчыны. Яшчэ дадатак да пытаньня — прэзыдэнт Беларускага ПЭН-цэнтру, вучоны, перакладчык, адзін з заснавальнікаў БНФ. Праўда, са словам «прэзыдэнт» трэба быць асьцярожным. Ва ўсім сьвеце на чале ПЭН-цэнтраў прэзыдэнты, а ў нас зь нядаўняга часу ён старшыня — на калхозны лад. Але ня буду адцягваць увагу заўвагай. Сам запоўню літарамі квадрацік красворду — і атрымаецца «Баршчэўскі». А каб ня блытаць з клясыкам XVIII стагодзьдзя Янам, удакладню — Лявон. Празь вякі пераемнік Францыска Скарыны, карэнны палачанін у клопатах ня толькі па вушы, але й па макаўку галавы. Гумар і самаўсьмешка ратуюць Лявона ад перанапругі.





У 1992 годзе вазілі навучэнцаў Беларускага ліцэю, дзе Баршчэўскі быў прарэктарам, у Гданьск. Пасяліліся ў Кашубах. Жыхары й пытаюцца, адкуль малады вырай. Тлумачаць, што зь Беларусі. «А цо то за край?» — дапытваюцца цікаўныя. Тады Баршчэўскі зусім сур'ёзна даводзіць, што на мяжы стаіць 1400 танкаў, а ў Кабыльніках флёт. І Беларусь у любы момант здольная акупаваць Польшчу. І шмат хто паверыў і праццяўся павагай да новага, незнаёмага дагэтуль краю.

Са страхавітай пашанай гляджу я заўсягды на Лявона Баршчэўскага, бо сам на некалькіх мовах разумею, але, як той сабака, сказаць нічога не магу. Сваё захапленьне паспрабаваў я выказаць радкамі:

*Як свой,*
*На ўсіх мацерыках Лявон,*
*Ды тэарэтык і заступнік волі,*
*На мове ніякой ня можа ён*
*Са здрайцамі дамовіцца ніколі.*

Юры Багушэвіч быў аўтарам аповесьці «Дрэва дружбы», якая час ад часу перавыдавалася. Працаваў сакратаром у Саюзе пісьменьнікаў. Але найболей бліскуча раскрыўся талент Юрыя Канстанцінавіча ў арганізацыі застольляў, у сяброўскіх бяседах. Арлінапрофільны, станісты, са шляхетнымі манерамі літаратар ня мог зьлічыць свае перамогі на амурных франтах. І адпаведна ўспамінаў ваенныя баталіі кшталту: ...у Эльзы пантофлік гайдаецца на кончыку пальца нагі... Не хапіла сьпірту... У тайзе ён з дамай, яна яму галінкай адганяе камароў з таго месца, адкуль ногі растуць...

Было, што мы з Уладзімерам Караткевічам два месяцы сядзелі ў лесе ў Доме творчасьці «Каралішчавічы». Месяц з намі адпачываў ад працы ў Саюзе пісьменьнікаў і Юры Багушэвіч. Паколькі ён





# Юры Багушэвіч

ночы праводзіў недзе на ацалелых хутарах, дый днём рэдка сутыкаўся ў сваім вялікім — хоць ваўкоў ганяй — пакоі, мы з Валодзем прывучалі сучку Джэры спаць на падушцы Багушэвіча. Пры гэтым накрывалі яе коўдрай.

Пра Юрыя Багушэвіча хадзілі вясёлыя легенды. Яму былі ў мяне радкі:

*На моры жарсьці ўзьвесьці дамбы*  
*Найлепш за ўсё зь пяшчотных дам бы*  
*Хацеў незацугляны Юры,*  
*Каб адпачыць маглі Амуры,*  
*Якія лёталі над ім,*  
*Штоноч ствараючы інтым.*  
*Даводзілася Юрыю*  
*За ўсё плаціць натураю.*

І плаціў спраўна. Канкрэтнае каханьне ці літаратурны твор пра яго, каму што даспадобы.

## Леў Ашанін

Дні беларускай літаратуры ў Расеі. Вялікая група беларускіх пісьменьнікаў і маскоўскіх. Нашую дэлегацыю ўзначальвае Пятрусь Броўка. На ўсіх сустрэчах саліруе Леў Ашанін. Тады ў модзе была песьня на ягоныя словы «Как у нас во дворе». І адпаведна скрозь яна выконвалася. І так яна ўелася мне, што пасьля застольля на грунтоўным падпітку я засьпяваў:

*Как у нас во дворе*
*Есть кобель в конуре,*
*Всех других кобелей*
*И белей, и милей.*
*Я гляжу под хвост,*
*До чего ж он прост.*
*Но я всё гляжу,*
*Глаз не отвожу,*
*Тра-та-та.*





Ашанін пабег да Броўкі — адашліце назад Барадуліна, ён хаміць. А да гэтай песьні яшчэ й нашую трохі падправіў:

*А Леў Ашанін хлопае вушамі,*
*Ой, не аддай мяне, маць...*

Броўка па-зямляцку памахаў мне пальцам і параіў ня чубіцца з ганарыстымі маскоўцамі...

Як вясельле без жаніха — Купалаўскі тэатар без Генадзя Аўсяньнікава. Пры саветах былі дазволеныя беларусы. Цяпер зьявіліся й прафэсійныя й этнаграфічныя беларусы. Генадзь быў і застаецца натуральным прыродным беларусам.
Маладыя любілі мы перакінуцца экспромтнымі пад'ялдычкамі. Генадзь пісаў мне ў нататнік:

*Рыгор паэт*
*І сябар мой,*
*Ды сам і жарты*
*З барадой.*

Я адказваў:

*Трухой ад сяньніка*
*Напханая ў Аўсяньніка-*
*ва*
*Галава.*

Генадзь лічыць, што ўсё жыцьцё ягонае ад нараджэньня складаецца зь недарэчных здарэньняў, са сьмешных выпадкаў. А мне здаецца, што Аўсяньнікаў, як аўсяны сноп, падперазаны перавяслам гумару, самаіроніі. Бо калі дужа сур'ёзна глядзець на ўсё, што навакол дзеецца, можна пазелянець ад суму, як медны таз.
Просіць калега заказаць яму акуляры перад спэктаклем, Генадзь заказвае адну шыбінку на -3, а другую на +3. У акулярні дзівяцца, а ён адказвае, што гэта ў актора незвычайная роля.
Едуць з Аўцюкоў, са сьвята беларускага гумару. У Калінкавічах чакае вячэра ў рэстарацыі. Гумарыстаў ахоўвае міліцыя й амон. Аўсяньнікаў вырашае не вячэраць з гумарыстамі, бо гумарам сыты





пад завязку. Ідзе ў Калінкавічах на вакзал. Аб'яўляюць цягнік Калінкавічы—Пінск. Перагумаронаму Генадзю чуецца: Калінкавічы—Мінск. Ідзе да касы. Набывае білет. Сядае ў цягнік. Едуць, едуць, чуе, што нейкая гаворка ня менская. Пытаецца, ці хутка Менск. Яму адказваюць, што цягнік ідзе ў Пінск. Людзі едуць на базар. Раяць яму перасесьці ў Жабінцы на цягнік зь Берасьця, які й давязе да Менску. Пакуль так вандраваў, жонцы патэлефанавалі з Калінкавічаў: ці ёсьць у мужа татуіроўка на руцэ? Бо знойдзены труп мужчыны з татуіроўкай. Такі Генадзь Аўсяньнікаў тыповы беларус, што да яго падобны кожны, ня штучна выведзены, натуральны беларус. І покуль жонка ўдакладняла прыкметы мужа, на парозе ўзьнік фальстафаваты шляхціц — жывы й вясёлы.
Генадзь Аўсяньнікаў спрытна малюе шаржы, піша эпіграмы. У мяне для даўняга сябра гумарыста, які на рэдкасьць тонка адчувае лірыку, такія радкі:

*Не даядаў чужых кусанікаў,*
*Сам пачынаў свой каравай.*
*Магнату Бахусу Аўсяньнікаў*
*Казаў шляхетна:*
*— Налівай!*
*Прывык на сцэне і ў жыцьці*
*Сваёй сьцяжынаю ісьці.*

І йдзе роўна, і ня глухне ад авацыяў. Ідзе, усьміхаючыся сам сабе. З Генадзем ня сумна й сябрам, і яму самому.

**Генадзь Аўсяньнікаў**

## Генадзь Асташонак

Генадзь Асташонак — самавіты майстра з творчае суполкі «Коўня», дзе ствараюцца творы, якім суджана перажыць вякі. Мастацкае аздабленьне мэталу патрабуе натхненьня й працы. Яго нязгаснасьць агонь спадручным у майстра. Разцу спакорыцца й самы далікатны мэтал, і самы цьвёрдахарактарны. Ад заручальнага пярсьцёнка да залатога ланцуга на шыю ўпірлівай чараўніцы, ад дзіды да кальчугі — усё могуць чарадзейныя рукі гаспадара плёну.

Сьціплаўсьмешлівы Генадзь вясёлы ў душы. Сьмяюцца аздобы ягоныя. Колькі ні бачыў шчыруна, ён заўсягды за працай. Некалі мама мая казала, галоўнае, каб праца не паняла верх над табой. І Генадзь дужаецца з працай, хто каго.

З малечых гадоў узгадвае, як ён заблудзіўся ў бульбе й заснуў. Бо з торбачкай на плячы дапамагаў бацькам выбіраць ураджай. Тады ўжо хацела яго ашукаць праца. Але не ашукала.





Марна спрабуе й цяпер. Хацеў падужаць Генадзя й Бахус. Палілі лазьню. Выгналі самагонку. Любая цётка Вера й наліла пляменьнічку ў слоіку на дне. Нагнуў малы беларус нацыянальны напой — абдало ўсяго нейкай парай, аж сьлёзы з вачэй пасыпаліся. Закашляўся й ледзь прахныкаў: «Ня буду піць дымнае малако!» І цяпер ня дужа гоніцца за малачком з-пад шалёнай кароўкі. Вынік агню болей падабаецца Генадзю. Ён вяртае даўніну ў сёньняшні дзень, а сёньняшні дзень пасылае да капрызнай даўніны ў сваты.

*Генадзю каб што*
*Абхітрыць даўніну.*
*Ён можа,*
*Развагу даверыўшы часу,*
*Кальчугу перакаваць Перуну*
*І паднавіць падковы Пэгасу.*

І расьце чарга ў «Коўню» да Генадзя Асташонка.

## Алесь Асіпенка

Алесь Асіпенка быў пісьменьнікам з партызанска-камсамольскага прызыву. Рэдагаваў і газэту «Чырвоная змена», і часопіс «Маладосць». Свой партызанскі й камсамоліста-кіраўнічы досьвед скарыстоўваў сумленна, наколькі гэта льга было ў тагачасьсі. А ўсё, пра што нельга было напісаць шчыра, стараўся распавесьці, як бы скінуць цяжар з душы. І партызаншчына глядзелася як чорна-белая хроніка, а не як пафарбаванае кіно.

Бярэзьнік. Возера. Малады партызан толькі вярнуўся з заданьня, яшчэ не зусім умеючы, голіцца тупаватай брытвай. Прыляцела самалётам карэспандэнтка з «Камсамольскай праўды». Інтэрвіюе ляснога салдата.

— Колькі ты немцаў забіў?

— Тры.





Камісар, які стаіць неадступна тут жа, амаль крычыць:

— Ня тры, а трыццаць тры!

Герой нясьмела ўдакладняе:

— Усё-ткі тры.

Камісар як не выскоквае зь сябе:

— Табе што, фрыцаў шкада? — І да карэспандэнткі:

— Пішы пяцьдзясят.

Пра шмат якія подзьвігі народных мсьціўцаў такога ж пляну казаў Алесь Асіпенка. Шкада, што сам не напісаў пра ўсё, што ведаў, што мулялася яму. Ці таму, што час не прыйшоў, ці таму, што сам пісьменьнік ня мог вырвацца са свайго часу, які трымаў яго.

Згадваю апошнія сустрэчы. У выдавецтве выходзіць збор твораў Алеся Асіпенкі. Шчасьлівы аўтар нясе чарговы том. І ўсё-ткі шкадуе: «Калі б сакратаром ЦК быў Аксёнаў, ён бы, як таварыш па рабоце ў камсамоле, даў бы мне не чатыры, а пяць тамоў...» Нейкае перагуканьне: ня тры, а трыццаць тры, не чатыры, а пяць!

*Хапіла наслухацца Асіпенку*
*Патрыятычна-лірычнага енку,*
*На подзьвігі гэткія наглядзецца,*
*Калі не было куды*
*Страху падзецца.*
*Рэдактар стараўся,*
*Каб у «Маладосці»*
*Былі маладыя як частыя госьці.*

Дзякуй яму за гэта!

Калі б раптам ажылі героі з нашае крывіцкай гісторыі й пачалі распавядаць, што, як і калі дзеялася, дык за ўдакладненьнямі ім давялося б зьвяртацца да Уладзімера Арлова. Ён памятае, што яны забыліся. Часам здаецца, што наша гісторыя даручыла спадару Арлову ўспомніць тое, што выбівалі з памяці крывічоў русіфікатары ды камуністы. Летась Уладзімер адсьвяткаваў паўвекавы юбілей, а пасьпеў рупілівец паварочаць глыбы як не дваццаці вякоў. Гістарычныя падзеі, факты, даты заўсягды зь ім. Ляжыць нядаўна Арлоў на апэрацыйным стале пад белай прасьцінаю і ўзгадвае, што Фрунзэ зарэзалі сталінскія эскулапы на апэрацыйным стале. Падыходзіць хірург з лазэрным нажом і нечакана пытаецца: «Спадар Арлоў, скажыце, як усё-такі пішацца слова «змаганьне» — зь мяккім знакам ці безь яго?» Уладзімер тлумачыць, што бязь мяккага знаку — гэта падгон пад расейшчыну, а сам сабе думае, што калі ня вернецца з наркозу, дык на тым сьвеце будзе цешыць сябе, што справа, за якую змагаўся колькі Бог сілы даваў, не прапала марна.





Трэба мець з трывалых дошак паліцы, каб яны вытрымалі ўсе кнігі, якія напісаў і выдаў Уладзімер Арлоў. Карэннаму крывічу, палачаніну маё суседзкае вушацкае слова зьдзіўленьня.

*Ня ловіць мух арол,*
*Арлоў ня любіць крошак.*
*Браць — дык на поўны кошык,*
*Хай дзівяцца наўкол.*
*Каб здані не лякаў,*
*Гісторыя Арлова*
*Цярэбіць за рукаў:*
*— А дзе мая галова?..*

**Уладзімер Арлоў**

## Анатоль Анікейчык

Скульптар Анатоль Анікейчык быў сынам свайго часу, а мастак, як вядома, паднявольны часу, які раўніва сочыць за мастаком, каб не працаваў на іншы час, бо час будучы забываецца на час мінулы. І працаваў Анатоль і на свой час. Гэта ягоныя леніны яшчэ й цяпер паказваюць дарогу ў сьветлае заўтра, ягоны бэтоннаглыбісты партызан вырываецца з блякады на Вушаччыне. І ўсё-ткі працаваў маэстра на іншы час, на будучы час. Гэта ягоныя выявы прарока нашага Адраджэньня Янкі Купалы ў Араў-парку ў Нью-Ёрку, у Менску, у Ляўках сьцьвярджаюць веліч беларускага духу, душы беларускае. Сам Анатоль глядзеўся стодам, які ажыў.

Клалі вока на самавітага скульптара й партдамы. Кацярына Фурцава, міністар культуры савецкай імпэрыі, узяла з сабой Анікейчыка на Кубу й дужа раўнавала, калі ён ласа паглядаў на спэцыяльна





выведзены гатунак супэрпрыгажуняў-кубінак. Выступаў Фідэль. Гарачыня. Духата. Ледзь было памкнуўся Анатоль палезьці ў кішэню, каб дастаць насоўку, як у поміг вока адзін зь целаахоўнікаў Фідэля схапіўся за кабуру. Анатоль адразу папрасіў перакладчыцу сказаць, што ён асабісты целаахоўнік Фурцавай. Як свайму калегу белазуба заўсьміхаўся рэвалюцыйна-пільны кубінец. Там жа гожы беларус, якога можна было экспартаваць хоць куды на паляпшэньне пароды, вучыў былую расейскую ткачыху, а тады міністра культуры, як піць усе тосты й не п’янець.

Вітаў у застольных тостах і я Анатоля, як сябра свайго дасьціпнага й кеплівага, прысьвячаў яму й сур’ёзныя радкі, і такія, як некалі жартавалі, з усьмешкай на паўгубы:

*Анатоль бяз пыхі мэнтарскай*
*Долы, горы, паркі, сквэрыкі*
*Засяляе манумэнтамі*
*Ад Вушачы да Амэрыкі.*
*— О’кэй, маэстра Анікей! —*
*Даходзяць дамы да гістэрыкі...*

Чынгіз Айтматаў. Выдатны пісьменьнік, чыімі кнігамі зачытваліся. Творы Чынгіза Айтматава перакладаліся на шмат якія мовы. Праўда, у часіны савецкай імпэрыі выбітныя творцы мелі эпітэт «савецкі». І да прыкладу, «выдатны кіргіскі пісьменьнік» у тыя часіны — ацэнка меншая, чымся «савецкі». Для савецкага пісьменьніка няважна было, піша ён на роднай мове, ці адразу на расейскай. Хадзіла нават такая ўсьмешка. Выдавалі парасейску як ня збор твораў аднаго ўсходняга савецкага клясыка. Зьвяралі пераклады з арыгіналамі. Не маглі дашукацца арыгіналаў дзясятку паэмаў і сотні вершаў. Калі спыталіся ў сына, дзе арыгіналы, той адказаў: «Напэўна, бацька нешта распавядаў перакладчыку». І студэнты на радзіме пыталіся ў свайго славутага земляка, ці будуць ягоныя творы па-кіргіску.



Падчас аднае дэкады ў мяне склаліся радкі:

*— Чтоб депутатом в чёрном авто*
*ездить среди делегатов,*
*я русский выучил только за то, —*
*промолвил Чингиз Айтматов.*

Вядома, Чынгізу Айтматову гэтую як бы эпіграму я не прачытаў. Ня быў я ў прэзыдыюмных эшалёнах дэлегацыяў ніколі. Усьміхнуўся, што завецца, сам сабе ў рукаў.

Заір Азгур, не шкадуючы сябе, працаваў і працаваў. Скульптар, дасьціпны суразмоўца, цікавы мэмуарыст. У майстэрню ягоную было шчасьцем зайсьці. Як у музэй. Аж сам маэстра здаваўся жывым манумэнтам. Мне прыйшлі было радкі:

*Ад успамінаў пацяжэла кайстра.*
*Ды не зважае на гады свае,*
*Ідзе —*
*І помнікі вітаюць майстра.*
*А ён між іх сябе не пазнае.*

Пра ягоныя працы хадзілі й вясёлыя анэкдоты. Так турысты з Каўказу дзівіліся: «У Менску мы ўпершыню ўбачылі Леніна сядзячага. І такі ён сумны-сумны. Ці ня каецца, што заварыў кашу». Гэта пра помнік Якубу Коласу перад Камароўкай. У Заіра Азгура была цяга да партыйных ідалаў.





*Азгур першы блізка ўбачыў мэту,*

*І стараўся шчыра дабрадзей*

*Ідаламі партыі плянэту*

*Засяліць замест жывых людзей.*

*Ідалам лягчэй зь цяжкой задачай —*

*Дабудуюць камунізм, няйначай.*

Неяк сумнавата Васіль Быкаў зазначыў: «Азгур нарадзіўся камуністам, а памёр габрэем». У майстра хапала натхненьня на ўсіх. Лепшыя творы будуць яшчэ доўга жыць і жыць...

## Кахін Абілаў

«Бог стварыў чалавека, а ўсё астатняе зрабіў чалавек», — любіць паўтараць Кахін Абілаў, будаўнік, жыцьцялюб, гасьцялюб. Хапае будаўнікам клопату, каб дарабляць тое, што нарабіў чалавек, далёка адхіліўшыся ад задумы Ўсявышняга. Кахін можа дапамагчы дому, у якога страха паехала, замяніць яе новай. Дый ня толькі дому. Кахін будуе трывала й натхнёна, будуе Беларусь, якая сталася яму роднай. Сын гордага й старажытнага народу, чыя мова бярэ свае карані ад Авэсты, добра разумее нашыя пакуты. Талышы ня маюць магчымасьці разьвіваць сваю культуру, сваю мову. На сваёй зямлі яны як тыя кватаранты. Пра іх ня чуе сьвет. І ня дзіва, што ў адной нашай паважанай газэце, якая йдзе на замежжа, замест «талышы» набралі «талашы». У нас на слыху болей дзед Талаш. І тым болей кранулі мяне вершы дванаццацігадовага Кахінавага сына Ідрака. Яны на беларускай мове. Працытую колькі радкоў:

*Вамі,*
*Беларускія патрыёты,*
*Ганарымся мы,*
*Сэрцам адданыя Вам*
*Талышы.*





Талышы зь вялікай літары напісаў беларускамоўны талыскі паэт. І калі Кахін запытаўся ў сына, чаму ён піша па-беларуску, Ідрак адказаў, што Беларусь яму родная.
Кахін Абілаў падтрымлівае азэрбайджанскае зямляцтва, спрыяў выхаду беларускамоўных кніг курдзкага паэта й празаіка Ганада Чарказяна, арганізоўваў выставы выдатнага мастака Каміла Камала, ён бескарысьліва дапамагае культурнаму разьвіцьцю двух народаў, беларускага й талыскага. Нават арганізаваў Кахін фэстываль танцаў жывата, дзе беларускія красуні зрабіліся ўсходнімі чараўніцамі й паланілі гледачоў рухамі, набліжанымі да канкрэтыкі. Кахін любіць паэзію й думкі, і цела. Яму мае радкі адпаведна:

*Сваю зямлю часова арандуем.*
*Мы ў гэтым сьвеце ўсе будаўнікі.*
*А ўсё сябе ніяк не дабудуем,*
*Хоць кпіць з саміх сябе*
*Нам не з рукі.*
*Абы былі пясок, цэмэнт і гліна,*
*А дырэктывы й лёзунгі —*
*Лухта!*
*Хвалюе скалаглыбага Кахіна*
*І лірыка, і танец жывата.*
*Жыцьцё ён п'е*
*З паўнюткага каўша.*
*У талыша сьпякотная душа.*



Карлас Шэрман

# Вясёлыя эсэ

## для XXI стагодзьдзя

**Як беларусы паганства пільнуюцца, гасьцей прымаюць і ў госьці ходзяць, адпачываюць, ракаў ловяць, сэксам займаюцца**

# Як беларусы паганства пільнуюцца

Бог адзін, а канфэсіі — гэта болей прафэсіі. Паганства шанавала прыроду, лічыла ўсё жывым — і валун, і траву, і паветра, і ваду. Паганства пакланялася Тварбе Божай. Шмат якія паганскія багі ў хрысьціянстве сталі сьвятымі зь іншымі імёнамі. Да прыкладу, той самы Пярун-залатавус стаў Ільлём, які разьяжджае на вазку й пускае вогненныя стрэлы.

Паганства мае свае нацыянальныя асаблівасьці ў кожнага народу. Крывічы бадай што болей за ўсіх суседзяў захавалі паганскія карані, зь якіх цягнуцца ў вышыню даўніны й спрадвечча адметныя дрэвы й побыту, і сьветаўспрыманьня.





Кожную хату ахоўвае Хатнік. Трэба ведаць ягонае ймя, але не вымаўляць услых.

На страху трэба насіць Цмоку яечню, каб Цмок ня ўгневаўся й не пусьціў гасподу дымам. У падпеччы жыве вуж, яго частуюць малаком.

Як пра добрых знаёмцаў кажуць пра Ярылу, Жыценя, Вададыха, Лесуна, Жыжу. Да нашых дзён, каб малы не абпёк палец аб агонь, папярэджваюць: жыжа — кусь. З марозу заходзячы ў хату прыгаворваюць: зьмёрз, як зюзя. А Зюзя — гэта галоўны мароз, у яго яшчэ дванаццаць братоў — Прагун, Траскун, Скварун, Пабягун, Цягун, Дрыгун, Крахкатун, Зьвягун, Маўчун, Казытун, Крутун, Шчыпун. І кожны па-свойму марозіць.

Трасца мае таксама дванаццаць сясьцёр — Трасавіца, Агнявіца, Зябавіца, Гнятавіца, Кархавіца, Глухавіца, Ламавіца, Пухлявіца, Жаўтавіца, Старгавіца, Глядавіца, Невідуха.

У адной асобе Кон, ад яго ўжо ідзе Скон. За сталом гаспадараць Ядун і Жор. Кажуць: напаў такі Ядун, што наесьціся не магу, ем і ем. Як нападзе Жор, сабаку б, здаецца, зжор.

Спрадвечныя сваім паганствам Дзяды. Гатавалася куцьця, гатаваліся клёцкі з душамі: сьценкі — клёцкі з дранай бульбы, а душа — з кручанага мяса ці, па-сучаснаму кажучы, з фаршу. Даўгія клёцкі зваліся сарокамі. У сароку ўторквалі душу з кавалачка сала. Некалькі сарок былі бяз душаў, а ў адной — срэбная манэтка. Трэба было ўгадаць, у якой сароцы манэтка гэтая.

Да гэтага часу чую мамін голас. Сядаем усёй сям'ёй за стол. Мама пачынае запрашаць:

*Мароз, мароз, хадзі да нас куцьцю есьці!*
*І ты, грамок, на голы лес не грымі,*
*пачостку прымі!*
*І вы, Дзядочкі, хадзіце і з сабой*
*непамянёных вядзіце!*

Стол і ў буднія дні быў сьвяточны. Пільнаваліся паганскіх прыкметаў. Нельга ў шапцы сядзець за сталом — цешча глухая будзе. Зьмятаеш стол на рог — гаспадарку на клін зьвядзеш. Нельга стол сьціраць, калі за ім сядзяць — будуць людзі заціраць. Зьляцеў нож са стала — мужчына сьпяшаецца, лыжка зьляцела — маладзіца. (Дарэчы, нельга было наліваць праз нож — піць адрэжа.) Калі хто здрыгануўся за сталом, воўк недзе ў лесе на ягоны сьлед наступіў.

Кот мыецца — госьці будуць. Кату яшчэ прыгаворваюць, падахвочваюць:

*Заўхом рудá, ў чарапочку вада.*
*Заўхом рудá, ў чарапочку вада.*

У Чысты Чэцьвер мыюцца да ўсходу сонца людзі, а крумкач сваіх дзяцей у крыніцы купае таксама да ўсходу сонца.

Віншавалі сваіх і суседзяў праз крысо кажуха, каб быў багаты й касматы. (Касматаму цяплей было некалі й пасьля.) Галаруч не віншавалі.

Чыста паганскае пажаданьне: будзь здарова, як карова, і багата, як зямля, і пладавіта, як сьвіньня. Маладзіцы нацяжкý жадалі нарадзіць, як пукнуць.





Здаецца, нядаўна было. Выган каровы першы раз на пашу. Дапамагаў маме шкрэблам вычэсваць нашую Лысоню. Каб у схудалай за зіму каровы вароны не выскубвалі кузлакі поўсьці сабе на гнёзды. Да ўсходу сонца мама брала з крыніцы ваду, абмыць карове рогі й вымя. Лілі ваду праз шкляну — ад уроцаў. На Юр’я на дзеньніку ў варотах пасьцілалі дзедаў пояс, клалі два яйкі, іконку (кшчонае паганства). Карова выходзіла з хлява, пераходзіла пояс.

Ці яшчэ паганскі рытуал. Парасятка як прыносілі з базару, цёрлі аб печ, каб таўсты, як печ, быў; цёрлі аб заслонку, каб сала было, як заслонка; кармілі з патэльні, каб сьвіньня была гладкая, як патэльня; абносілі вакол ножкі стала, каб ад дому сьвіньня не адыходзілася. І ўсё гэтак і ставалася. Цяперашняе сала зусім тога смаку ня мае.

І ў нашыя дні, калі зельнік зь вядзьмарскім веданьнем свае справы зьбірае зёлкі, перш чым сарваць якую, просіць у яе дазволу ўзяць яе й кажа, для чаго яна трэба й каму дапаможа.

Гэта камуністы й прыроду жывой не прызнавалі, і людзей за людзей ня мелі. Усёдазвол.

*Меняет движение рек,*
*Высокие горы сдвигает*
*Советский простой человек.*

Паназьмянялі рух рэчак, панассоўвалі горы, пасушылі балоты, павысекалі пушчы. Няма прытулку ні Вадзянікам, ні Лесунам. І цягнецца вынішчэньне ўсяго жывога. Нават валунам не даюць

расьці. Уздоўж яшчэ лясных дарог валуны пафарбалі зь лёзунгамі: беражыце прыроду! Гэта ж не велікодныя яйкі. А калі прыняць валуны за велікодныя яйкі — іх трэба біць аб каменныя ілбы чыноўнікаў. Іх бы саміх пафарбаваць і дадаць лёзунгі: сьцеражыцеся бязмозглага чынавенства! Але цягам часу й пушчы абрастуць, і рэчанькі будуць поўныя, зь берагамі роўныя. Паганскія багі не пададуцца ў выгнаньне. Яны любяць крывічоў і заступяцца за іх.

*І калі змушае лёс вагацца,*
*Дык трымаюцца за ўласны тын*
*Беларусы —*
*Кшчоныя паганцы,*
*Самаісныя, як пан буршытын.*



## Як беларусы гасьцей прымаюць і ў госьці ходзяць

«Госьці ў хату — сьвіньні рады», — жартуюць крывічы. Гэта значыць, што ўсяго будзе да адвалу. Для гасьцей крывічы нічога не шкадавалі. Не на чорны дзень, а для гасьцей заўсягды нешта прыпасалася. Нездарма ж кажуць: дай Бог гасьця, а каля гасьця й я.

Госьць у хату — Бог у хату. Мяноўна Бог пасылае гасьцей, каб праверыць на шчырую шчодрасьць гаспадара. Госьць заўсягды жаданы, заўсягды чаканы. Гэта нашыя ўсходнія суседзі пабойваюцца гасьцей, ці ад скупасьці, ці ад небагатасьці, гэта іхняя прымаўка: *незваный гость хуже татарина.* Здавалася б, чым замінаюць татары, у якіх нашыя

ўсходнія суседзі й прозьвішчы пабралі й звычаі, нават славутая шапка Манамаха — цюрскага паходжаньня.

Госьцю ўсё лепшае. Госьцю — гусьцё, радабоць сабе. Гаспадар радуецца, калі панаедзе гасьцей з усіх валасьцей. Для гасьцей пякуць яечню ў калена. Гасьцей кормяць як на ўбой. Кормяць так, каб госьць шкадаваў: душачка б прымала, ды скурачкі мала. За сталом у госьця лыжка гнецца, нос сьмяецца, душа радуецца. Крывічы разумеюць, што ўсе мы госьці на гэтым сьвеце.

За сталом хмурых і сярдзітых няма. Жарты, сьмелае пакепліваньне, песьні.

— Чым жа вас частаваць? — пытаецца гаспадар.

— Чым вароты падпіраць, — адказваюць задзірыста госьці.

Стол аж ломіцца ад страў, ад прысмакаў, а гаспадыня ў песьні пытаецца:

*А чым жа вас частаваць,*
*А чым жа вас вельмаваць?*
*Качан капусты на лясе,*
*Верабеечка ў страсе.*

Вераб'ёў, праўда, у Кітаі ядуць. Толькі не ў крывічоў.

Госьці йдуць у перапевы:

*Дзень добры таму,*
*Хто ў гэтым даму!*
*Гаспадынечка, журавіначка,*
*Гаспадарочак, дому паночак.*





*А мы госьцікі нехаджалыя,*
*Нехаджалыя, небывалыя.*
*Ня часта ходзім,*
*Ня многа просім:*
*Кварту гарэлкі,*
*Сыр на талеркі.*

Не забываюцца сказаць добрыя словы й пра чарку:

*Ой, чарачка, сакатуха,*
*Ня йдзі міма,*
*А йдзі ў бруха.*
*З кілішэчка цячэць,*
*Каля сэрца пячэць.*

Эпітэтаў для чаркі не шкадавалі самых пяшчотных:

*Ой, чарачка каточак,*
*Пакаціся ў раточак,*
*Ня стуча, ня груча,*
*Па костачках шчакача.*

Гасьцей увесь час трэба было прымушаць, запрашаць піць і есьці, каб потым, крый Бог, не сказалі: піць-есьці было, толькі прымусаў не было. Ці: на стале ўсяго было, толькі прынукі не было. Трэба было піць, пакуль галава трымалася на плячох, бо душа, казалі, меру знаіць. Калі госьць куляў чарку, яму пад руку прыгаворвалі: мёдам на душу, мёдам на душу, па́такай! Каб лепей пілося. Спачатку трэ-

ба было выпіць у красу, потым каб дома не журыліся. Адхадную пілі на пужку, каб пуга добра каня падганяла. Адыходзячы, госьці жадалі: каб у вас было ня сьпіта, ня зьета!

Невыпадкова добрая, уежджаная дарога называлася гасьцінцам. З гасьцей малым везьлі гасьцінцы ў хусьцінцы.

У госьці ішлі й ехалі таксама не з пустымі рукамі. Альбо хто з прыносам, а хто зь першым носам. Звычайна госьці дарылі гаспадарам падарункі. Жартам казалі, каб госьці ня селі косьцю.

Гасьцяваньне — гэта паразуменьне душаў, абмен радасьцю, каб скруха сабе галаву скруціла.

Гасьцяваньне — і сьвята, і праца. Злосьці ня ходзяць у госьці. Ягамосьці госьці — шчыруны весялосьці.



## Як беларусы адпачываюць

Традыцыйна ў крывічоў слова «адпачынак» у цяперашнім значэньні мала ўжывалася й напоўнена было цьмяным сэнсам. Адпачынак мелі пасэзонна прылады працы — плуг, нарог, сявалка, каса, серп, рыдлёўка, сіта, рэшата. Амаль не адпачывалі хіба што сякера, гэбель ды пазьней самагонны апарат.

Сумнаватым гумарам патыхала ад самасуцешлівых спагадаў: яшчэ наляжымся там, адпачнём на тым сьвеце.

Адпачынкам льга называць толькі сьвяты, на якіх верніцкая душа зь нябёсамі гутарку вяла.

Пры камуністах было ўведзена не як паняцьце, а як сумна-вясёлая рэальнасьць — актыўны адпа-

чынак. Пасьля такога адпачынку трэба было сапраўды адпачываць. Актыўны адпачынак — гэта чарка й скварка (калі здаралася наскрэбсьці на закусь). Нездарма назаўтра ці ў канаве ці ў цьверазілаўцы шкадавалі ўдарнікі працоўных будняў: выпіў болей, чымся мог, але меней, чымся хацеў...

Змагаліся за дасягненьні ўсе — і працоўнае сялянства, і гнілая інтэлігенцыя. (Можа, яна гнілой была, што слаба прасьпіртавалася.) Пра магільшчыка капіталу — рабочую клясу — казалі, затаіўшы дыханьне: яна адпачывала ў камуністычных брыгадах. Пяялася ж: у камуністычнай брыгадзе з намі Ленін наперадзе... Дарэчы, я так і не зразумеў сэнсу радкоў бадзёрыстай песьні: «Трудовые будни — праздники у нас». У сьвята звычайна не працуюць, нават і ў савецкае. А былі ж пачыны працаваць у дзьве зьмены. Якое ж трэба тады было здароўе мець, каб вытрымаць.

Хадзіў такі пушчаны ворагамі савецкай улады анэкдот. Дваццаць нейкі зьезд КПСС. З трыбуны генэральны сакратар заклікае працаваць у дзьве зьмены, каб выканаць і абавязкова перавыканаць праграму роднай камуністычнай. Падымаецца адзін дэлегат і дае клятву працаваць у тры зьмены. Шквал авацыі. Потым журналіст падбягае да пачыншчыка з пытаньнем, кім ён працуе, і чуе: дырэктарам крэматорыю.

Традыцыі магільшчык капіталу шануе і ў XXI стагодзьдзі: праца, як пахмяліцца, самая цяжкая. У ход ідзе ўсё, што гарыць. Бо над душой стаіць паганскі бог — Калатун. (У музыкаў гэта проста — трэмалэ.) Ударнікам актыўнага адпачынку на заводах оптыкі, дзе на праціраньне станкоў даецца тэхнічны сьпірт, лягчэй хоць на адзін дзень. Сьпірт, выдадзены на некалькі месяцаў, выпіваюць адразу ж, а на станкі дыхаюць і праціраюць цьвярозай анучкай. (Здараецца, што й станок убакі водзіць.) У ход ідзе й бакілітавы ляк для змазкі трансфарматараў. Рэдзіва разьмешваюць палкаю, ляк бярэцца за палку, а сьпірт застаецца. Яго пераганяюць, і ён ідзе на працяг актыўнага адпачынку.

Па вясёлыя да смутку прыклады далёка хадзіць ня трэба. На адным гіганце індустрыі на калядных канікулах адпачывалі разнастайна, з выдумкай, з рацпрапановамі. Пайшлі, адпаведна падмацаваўшы сьвяточны настрой, сябры падзівіцца на прэзыдэнцкую ёлку насупраць так званага саркафагу. (У нас цяпер усё прэзыдэнцкае — і ёлкі, і палкі.) Моладзь, не ахопленая новакамсамолам, пачала кідаць пэтарды. Адна й трапіла пад ногі адпачыванцу — і адарвала яму геніталіі.

(Спачуваю небараку, а ў галаве вушацкая дзіцячая цьвялілка:

*Бегаў зайчык каля рэчкі,*
*Пагубляў свае яечкі.*
*Шарыў, шарыў — не знайшоў.*
*Як заплакаў ды пайшоў...)*

А дзіцячая цьвялілка пацягнула дарослую папеўку:

*Выхадзіла пані Яні,*
*Танцавала танцы.*

*Цалавала пані Яні*
*Пану Яну ў яйцы.*

Зайчык, можа, наступнай вясной і знайшоў яечкі. А вось пані ня будзе куды цалаваць пацярпеламу.

Другая пэтарда сябруку ў вока — і як на нітачцы вока матлялася.

Рабочы, ласы на халадзец, купіў вепручыную галаву й падаўся на лецішча, каб згатаваць з галавізны закусь. З суседам узяў, як трэба, і на галаву забыўся, ня толькі на вепручыную. Назаўтра раніцай прачынаецца працаўнік у канаве каля дарогі, а на яго глядзяць нейчыя злыя вочы. Прадраў свае — дзік. Нябога ў крык, і ўцякаць ад дзіка. З разгону ў сасну — сасна цэлая, а зубы ня вытрымалі.

А яшчэ адзін ударнік адпачывальнае працы цёпленькі дайшоў-такі дадому. Жонкі ў хаце няма. Трэба своечасова хавацца. Быў летуценьнік дужа ценькі й залез пад канапу. І сьніцца, што ён ляжыць у труне. Расплюшчыў вочы — сапраўды націснуты вечкам труны. У гвалт. Зьбегся як ня ўвесь пад'езд. Пакуль зразумелі, адкуль лямант, мінула багата часу, бо й самі паратоўцы яшчэ былі вясёлыя. Ледзьве выцягнулі жывога.

У цэху стаіць прыкуты паравоз, які кіпяціць ваду, наганяе пару. (Можа, якраз той, пра які сьпявалі некалі камуністы «Наш паровоз, вперёд лети, в коммуне остановка». І прыпынак ягоны ў калгасным сацыялізьме.) Да машыніста падыходзіць адпачыванец, дае 15 тысячаў: «Завязі дамоў!» Дома захаканы просіць жонку: «Скінь зь мяне Андрэя».





Жонка не разумее, што просіць каханы муж. А той з жалем канстатуе: «Значыць, мянты забралі...» Гэта ён яшчэ болей вясёлага сябрука нёс на плячох... Можа, у думках.

Трэба гэтак адпачываць, каб далёка было чуваць! Хай ведаюць нашых!

# Як беларусы ракаў ловяць

Рак. Крывічы болей кажуць «арак». І ласунак, і прынада для воднага паляваньня.

Рак у вадзе пад карчамі ў вірах, у беражыстых норах.

Рак у небе — сузор’е.

Рак на стале, рак у гараскопах.

Абмінуць яго ніяк нельга. Пра яго, які задам ходзіць, і песьні калючыя, юрлівыя кшталту:

*На моры жабка*
*Красенцы ткала.*
*Прыйшоў арачак*
*Да жабкі ў сваты,*





*Даець ёй ганьбу*
*Вахлакаваты:*

*— А ў цябе ў жабкі*
*Кароткі лапкі.*
*— А ў цябе, рачак,*
*У срачцы вочкі.*

Так і сарваўся шлюб.

А ў рыбакоў быў клопат, хапіла фатыгі:

*Рыбакі лавілі рыбу,*
*А спаймалі рака.*
*Цэлы дзень яны глядзелі,*
*Дзе ў арака срака.*

Гэта, калі на досьвітку злавілі, ды ў летні ясны дзень багата часу пайшло на выглёдзіны.

Рак у дзіцячых калямбурыстых пацешках:

*Нас рана, нас рана*
*Мама разбудзіла.*
*Супу з ракам, супу з ракам*
*Мама наварыла.*

Рак у прымаўках, у показках, у лютых кляцьбёнах. Як з раку наедку. Грозен арак, ды ў срацы вочы. Не хацi ты аракаў і не мачы ты сраку.

А пэўная пастава — ракам — з рознаякіх нагодаў. Стаяць ракам, рачкаваць.

У кожнай мясьціне ловяць аракаў па-свойму.

Самы старажытны спосаб, да прыкладу, падае Васіль Быкаў у сваёй геніяльнай споведзі «Доўгая дарога дадому»: «...лавілі ракаў, — тыя яшчэ вадзіліся. Калі трохі падрос, памятаю, хадзілі ноччу са смаляком. Смаляк запаліш, а яны вакол выпаўзаюць на водмель, нават страшнавата робіцца. А то засунеш руку ў падмытае карнявішча на беразе, а ён — цоп за палец, і цягнеш яго».

Я й сам так лавіў аракаў. Бывала, малому хітраватыя вушацкія дзядзькі раілі: скінь штонікі й заходзь у рэчку каля карчоў. Рачок і ўхопіцца за стручок. У жаху аберуч хапаліся мы за свае стручкі.

Лавілі аракаў і ня голымі рукамі. Раскеплівалі палачку й торкалі яе пад корч. І такім драўляным пінцэтам цягнулі арака. Не разьбіралі, перадам ці задам упіраецца рухомы панцыр.

Ёсьць і хітрэйшыя ў сваёй задуме мэтады. З дроту выгінаецца кручок, на кручок усаджваюць тлустую муху. Ласы кручок топяць у балацявінку й на яго вывуджваюць жабу, на муху рапуху. Потым жабу падсмажваюць. З лазы пляцецца нешта накшталт чарніліцы-невылівачкі. У чарніліцу гэтую запрашаюць смажаную жабу. Чарніліцу ставяць на вірах, ля пячораў у берагах. У яе й палезуць аракі, а назад ня вылезуць, бо ходзяць наадварот.

А самы надзейны й лёгкі спосаб лавіць аракаў — што называецца, на залаты кручок. Адразу вароныя, адразу чырвоныя, як бальшавікі. Пра такіх аракаловаў ёсьць вясёлая ўсьмешка.

Сынок ідзе з мамай каля піўной. Як казаў Уладзімер Караткевіч, каля піўняка. І раптам закрычаў: «Мама, мама, а там дзядзькі піва з ракамі





п'юць». Мама й тлумачыць спакойна: «Сынок мой, гэта ў іх морды такія...»

Як беларусы аракаў ловяць, можна распавядаць багата й вясёла. Сумна толькі адно, што трэба ўдакладняць, як беларусы аракаў лавілі, бо хімізацыя вымыла й рэкі, і азёры, і віры, і падкарчэўе. Застаецца сподзеў, што аракі, хоць задам, ды прыйдуць зноў на свае раковішчы.

# Як беларусы сэксам займаюцца

Слова «сэкс» прыйшло з кніжак. А наогул крывічы, як ніхто іншы, захавалі паганскія традыцыі й эўфэмізмамі не карысталіся. Казалі катэгарычна, абапіраючыся на вопыт пасівелых ад жарсьці стагодзьдзяў і на жывучую паганскую інтуіцыю: «Кожнае дыханьне любіць папіханьне». Альбо: «Кожнаму дыханьню трэба папіханьне». Кшчоным паганцам не па дыецэ было так званае ўстрымліваньне: «Пайшоў бы ў мніхі, дык яйцы ліхі».

Жарсьць, пал — болей літаратурнага паходжаньня, а ўсё гэта, калі выгукалася: «Ой, забрала, забрала, і ножачкі забрало», называлася нецярпліва каротка — юр. «Як заюрыць, дык і пад хвастом гарыць». Значэньня ня мае — ці хлопцу, ці бугаю. Пра спрытнага й здатнага ў гэтым клопаце казалі: «Да работанькі — анінютанькі, а да ябатанькі — ах, мае матанькі». Калі што марнавалася, казалі: «Як у пізьдзе згарэла».

Пра вечны ражон і вабную патэленьку знаходзіліся ласкавыя формы словаў. Замест «нічога» ўжывалі слова «ніхуютанькі», ці прыцмоквалі: «Ой, прыгожанька глядзець, як пізьдзюленька ідзець».

На ўсё адпаведна былі стандарты ці, кажучы паэсэсэраўску, госты. Пра важкі мужчынскі струмант казалася: «У яго ўручча — нападоймішча». Даўжыня таксама мела свае вымярэньні: два кархі й два пальцы ды, як валуны, яйцы (корх — мера на шырыню далані). Галоўнае, каб было куды й было чым. Падспудна ў шчырых працаўнікоў жыла зайздрасьць да жарабцоўскага молата. Адсюль і канкрэтна-абстрактная мера: ігага да самага птру... Фалічны клопат маюць і застольныя, і падпольныя зычэньні: «Каб да сьмерці хуй стаяў! Каб грошы стогам, а хуй рогам!»

Дый маладзіца мусіць быць мажной, а не такою, якую можа вецер зьдзьмухнуць: «Дзесяціна саду й млын ззаду». Бо павінна пяцёх на ільдзіне сагрэць. Праўда, калі пытаньня ня стаяла, тады суцяшалі самі сябе: «Не да еблі, калі рукі пакрэплі». І пра такую, якая дужа заелася, усьміхаліся — яна ўжо хуй за мяса ня лічыць. «Сісі — па місі», «Сіські, як бічоўкі, пізда, як начоўкі» (бічоўка — ударная частка цэпа, якая малоціць).

Аратайныя вобразы. За аблокамі лунаюць тады, калі абодвум хораша. І перад пачаткам шчыраваньня працаўнік інтрыгаваў: «Я табе яшчэ ня ўсё паказаў, палавіну матузом прывязаў!» Потым, выходзячы скакаць, прыпяваў:

*Кумпяччо ў маёй красулі*
*Сорак восем дзесяцін,*
*Без штаноў, адно ў кашулі*
*Дацямна араў адзін.*

Здатны ў заляцаньнях, юрлівы называецца жыгуном. І ацэньваецца адпаведна: «Такі жыгун і ў смаляной кабылы выпрасіць, і мёрзлай сучцы ўцісьніць». Пра нягеглага недарэмна заўважалі: «Ён вялым хуем зроблены».

Было ж неяк, што маладзіца паспытала пана. На роспыты суседак тлумачыць: «Маладзічкі вы мае, мой жа, як нарогам, як нарогам, а пан, як пэндзэлкам, як пэндзэлкам». Дарэчы, лічылася, што калі дзіця рабіць на гарохавінах, сукрыстым народзіцца, як амурчык.

Рэкляма мае паважаны ўзрост:

*Каля рэчкі йшла*
*Ды пасьвістывала.*
*Пізду козырам нясла,*
*Сіські выставіла.*

Такая мажніца шляхціцу, які мог толькі прасіць, а не працаваць, як нарогам, адказвала: «Я пана кахам, як капусту з грохам».





Побыт шмат у чым вызначае бачаньне наўкольнага, праяўляецца ў вобразах. І шчыраваньне, якое робіць жыцьцё нязводным, дапасоўвалася да хатняга клопату:

*Ой ты, мая Домна,*
*Прыйдзі ка мне цёмна.*
*Твая ступа, мой таўкач —*
*Будзем крупы абтаўкаць.*

Зразумела, маючы добры таўкач, ніякая ступа ня ў страх.

Гэта ня жарт, што ў чужых руках усё большым здаецца. У чужых руках і хуй з таўкач. З мройлівай зайздрасьцю пяялася:

*У цыганкі хвартух новы,*
*А ў цыгана хуй дубовы.*
*Хвартух новы не парвецца,*
*Хуй дубовы не сагнецца.*

І калі да некага прыставалі й падганялі:

— Ну!

— Хуй гну, дуга будзіць! — чулася ў адказ, каб адчапіцца.

Лепей, калі як дуга, чым як чарвяк.

І колькі смутку ў запытаньні: «А дзе ж тое дзелася, што ў штанах вярцелася?»

Весялейшае запытаньне:

*Ці ня Бог табе даў,*
*Мая Настачка?*

*Усю ночку макаў,*
*Як у маслачка!*

Узроставы фактар у юрлівым стараньні, як ні круці, дужа важны й важкі. Пакуль малады, ні начоўкі, ні ступа ня спыняць, не астрашаць. Па часе ўсё зьмяняецца. Гэта з вопыту пакаленьняў папеўка:

*Якочацца, рагочацца,*
*За старога ня хочацца:*
*Стары хочаць і баіцца,*
*Каб у пізду не ўтапіцца.*

І адно шкадаваньне аб сустрэчы з такім:

*Ай, такую яго маць,*
*Гэнага Міколку,*
*Я хацела яму даць,*
*А ў яго з іголку.*

Не дапаможа й народная парада: у лыжкі ўвязаць. Па-першае складана, а па-другое, адзервяненьне пачуцьця, дый вабная патэленка дрэва не прымае.

І пра старога, а бывае, што й пра маладога кажуць: нямоглік. Ці зусім безнадзейна дакладна: слаб у яйцах. Тут ужо як у сучасным анэкдоце. Сустрэліся два мужыкі. Пытаецца адзін:

— Як жывеш?

— Слаба.

— Выходзіць, кепска.





— Ды не, выходзіць добра, заходзіць кепска.

Нямогліку, відаць, ня дасьць рады й такая парада:

*І хвор Кузьма, і нядуж Кузьма,*
*Прывяжыце Кузьме галаву к пізьдзе.*

Ухвалялася толькі слабасьць у руках, калі дзьвюма ня мог мужчына свайго працаўніка сагнуць.

Групэн-сэкс ня быў у крывічоў у модзе. Гэта ўжо калгасам пахла. Крывічы па трывалай натуры сваёй гаспадары, болей аднаасобнікі, хутаранцы, а не калектыўныя засранцы. І сваім распараджаліся як хацелі, у адпаведнасьці з настроем: «Я сваю Марынку хоць пасярод рынку!» І ў выразе «Сябры — удваіх адну кабылку яблі» болей прыклёпу й юрлівай фантазіі.

Адпаведна й паставы ў папіханьні былі з аратайна-атарным адценьнем:

*Дай, дай, дай, дай,*
*Раскінь ножкі, як баран рожкі,*
*Хай упруцца ў небакрай*
*Новыя панчошкі.*
*Я табе іх купіў,*
*Для цябе залупіў.*

І ўсё, што рухалася, па-свойму займалася папіханьнем.

*А сініца вераб'я*
*Устоічку заябла.*

Гэта крылатыя. А бяскрылыя насуперак пралетарскаму пісьменьніку Горкаму, які сьцьвярджаў, што народжаны поўзаць ня можа лётаць, лёталі ў небе асалоды:

*А лісіца і барсук*
*Ябаліся цераз сук,*
*А маленькі барсучок*
*Цераз маленькі сучок.*

Былі ў паставах і неабмежаваная таямнічасьць: «Перагнуў церазь мяжу, а што зробіў, не скажу».

Дый самы лірычны птах салавей даваў інструкцыю й паддаваў юру, сьпяваючы:

*Цімох, Цімох,*
*Павёў дзяўчыну ў мох, у мох,*
*Паваліў, загаліў —*
*Торк, торк, торк, торк...*

Кожны стараецца ўторкнуць як хутчэй і як спрытней. Праўда, нэрвовы ці ня ў норму п’яны торкаў, торкаў то ў буракі, то ў моркву. З такога торканьня толку мала. Як ня лепей, калі паваліў у гурбіну ды не туды скіраваў, жыгануў у сьнег — аж зашыпела. Такі жох хуем падпаліць стог.

Вясною, калі й трэска на трэску лезе, і ўсё, што сквярэцца, адно на адно дзярэцца, юр чуецца ня толькі ў сьпевах таго ж салаўя. І жабы, не падзяліўшы сваіх зялёных ад хаценьня вершнікаў, цьвеляцца, лаяцца, як прафэсійныя давалкі:





*Кккурвва, кккурвва.*
*— Сама тттакккая, сама тттакккая...*

І ў лясных жыхароў не заахвочвалася кровазьмяшэньне:

*Ай там, на расіцы,*
*Прасіў заяц у лісіцы.*
*А лісіца не давала,*
*Пізду лапай закрывала.*

Пра вітаміны, пра танізатары крывічы ня ведалі, дый учуць не прыслухаліся. Стравы гатаваліся й гатунказаліся дакладна:

*Ад бобу захочаш ёбу,*
*Ад гароху будзіш сраць троху,*
*Ад рыбы станіць хуй дыбы.*

І адмова ў ласым болей самаахвярная: зьеш хуй, а рыба дарага.

Крывічы былі за такую мілосьць, каб ці хуй напалам, ці пізда на дробныя цурачкі! Відаць, шкляной часам рабілася. Спагаду меў нястомны: ябаць, як воўк, прасіць, як заяц. І калі слаба палілася ў печы, кепліва заўважалі: «Тапленьне, як кашынае ябленьне».

Шчырая праца на ложку ці на атаве вяла да абстрактнага мысьленьня. Толькі ў адпаведным стане льга зразумець меру: тры пізды попелу. Ці капіздуленьку. Болей канкрэтна: заробіў ад хуя вушы.

З калыскі хлопчыка рыхтавалі да мужчынскай працы на працяг роду людзкога. Малога падкідвалі ўгору, прыгаворваючы: «Вялік расьці дзевак басьці!» У штодзённым побыце не забываліся пра асноўны клопат. Падымаючы поўную шклянку, дбалі пра гаспадарку й тую, на якой працавалі ўночы, і тую, што ўдзень сілу забірала: «Каб жыта расло й хуй стаяў!»

Нават загадка пра баравік (бо ён адпаведных абрысаў) была фалічнай: «Кладуць старца ў дамавіну, хуй тырчыць напалавіну?»

Сапраўдныя працаўнікі не ацяляквалі, у іх у роце мухі не ябліся. На ўсё глядзелі наўспагатоўна: «З голай сракай каля голага хуя не жартуй!»

Расчуліўшыся за чаркай і скваркай, выказвалі сябру сваю найвышэйшую пахвалу: «Каб я быў дзеўкай, я б табе даў».

Вядомую песьню «Ой, пайду лугам, лугам» чулі па-свойму. Радкі «А я ляжу ды думаю, думаю, што ліхую жонку маю» пяялі: «А я ляжу ды думаю, што для хуя жонку маю». Яно неяк так болей мэтаскіравана.

Кожны спэцыяліст ведае цану сабе й свайму майстэрству: «Навошта мне золата, калі ў мяне хуй, як долата?» Канкрэтна на мясцовасьці вырашалася апэратыўна, што ім рабіць, ці дзяўбсьці, ці шпакляваць. Залежала, відаць, ад стану аб'екту.

У нястомным шчыраваньні быў і свой каштарыс ці натуральная аплата за натуру: «А за крупы, а за сала пізда лупы закасала». Ці ў залежнасьці ад акупацыйнага рэжыму: «За пуп — руб, за касмарку — марку». Цэны, як бачым, былі памяркоўныя. Не кусаліся.





Фантазіі хапала. Малы, я зноў-такі ня мог уцяміць (дый цяпер не даходзіць), як гэта ўдавалася:

*А па вуліцы мяцеліца мяцець,*
*А дзед бабу за пяцеліцу вядзець.*

Калі я быў блізка, пялі захмялелыя застольнікі й такі варыянт для мяне: «А дзед бабу за патыліцу вядзець». Усё роўна яшчэ болей нязручна.

У пашане ў крывічоў было стараньне. Што такое каханьне да заіканьня?

*Пан дастане*
*Да пячонак пікай —*
*Стане пані*
*Радаснай заікай.*

Гэта зусім ня тое, як цяпер іншы раз:

*Ляжыць, як дошка,*
*І лесам пахне,*
*А ўсё чакае,*
*Што нехта трахне...*

А ў прыгаворцы: «Няхай жывець, красуецца, пакуль на хуй ня ўссунецца!» — чулася й пагроза, і зайздрасьлівы ўспамін, старая маладой і гразілася, і сама ў маладыя гады вярталася. Гэта калі да дзяўчыны сваталіся багаты на грошы й з уруччам

нападоймішча, яна слушна вырашыла: «Хлеб годам, грошы пераводам, а хуй у векаўшчыну».

Самыя дасьціпныя, самыя іскрыстыя ў крывічоў былі й песьні й папеўкі якраз скаромныя ці, панавуковаму, фалічныя:

*А ў чыстым полі*
*Пад ябурамі*
*Часалі дзеўкі хуй тапарамі,*
*Яны часалі ды прымяралі,*
*Ой, каб жа ціці, не ўкараціці.*

І дзяўчаты не баяліся мужчынскае працы, абы знасалодзіцца. Малы я ня мог зразумець, што за дрэва ябур. Пазьней дайшло, што гэта спэцыйна пачуты явар. Да сёньняшняга мне, як некурцу, так і няўцямна показка: «Ён так курыць, як пізда сена есь». Адно дайшло: «Жыць будзеш, толькі не захочаш».

Хочацца, каб яшчэ доўга мог лячыцца па народнай крывіцкай мэдыцыне: «Жывот аб жывот пацерці, і ня будзіць балець да самай сьмерці».

Глыбокі ўзроставы сум у анэкдоце, які йдзе з даўніны. Дзед сядзіць на прызьбе. Певень гоніцца за курыцай. Дзед сыпнуў крылатаму заляцанку зярнятак. Певень спыніўся й пачаў дзяўбсьці, забыўшыся, што бег ябсьці. Дзед толькі й выгукнуў: «Гэта ж ня дай бог, каб я да такога дажыў...»

У маладыя гады ўсё пачыналася, як бы вытворчасьць, у прыватнасьці, і як Гефэстава рамяство:





*Даражэнькая мая,*
*У нас кузенька свая:*
*Срака дзьмець, а хуй куець,*
*Пізда жару паддаець.*

А як скаромяцца сэксам, пра гэта лепей могуць давесьці тэарэтыкі. А практыка, яна жывая, таму й няўлоўная, бо зьменлівая.

# бяз дулі ў кішэні

Развітаньне з прывітаньнем



**Жорсткая й бескампрамісная праўда пра аўтара ад жонкі, сяброў, знаёмых і незнаёмых зь Беларусі й Амэрыкі**

## Аляксандар Уліцёнак: «Наш дзядзька Рыгор»

За тры месяцы ніводзін журналіст ці аўтар Радыё Свабода не выходзіў у эфір так часта, як гэта рабіў напярэдадні свайго 70-гадовага юбілею слынны беларускі паэт. Дзень 1 верасьня для дзядзькі Рыгора (Барадулін любіць, калі да яго зьвяртаюцца менавіта так) пачаўся з тэлефанаваньня даўняга сябра, паэта Валянціна Тараса. Хто-хто, а ён выдатна ведае цану такога вось незвычайнага творчага марафону: толькі адзінкі могуць вытрымаць жорсткі рэдакцыйны рытм — штодня паказка, ды якая!

— Самыя апошнія радкі, што я прачытаў яму літаральна сёньня:





*Прачнуўся —*
*Жыцьцю ня рады я...*
*Але заўсьміхаўся расчулена,*
*Калі пачуў па радыё*
*Паказку Барадуліна!*

Ня ўсё, вядома ж, было роўна: вельмі цяжка кожны дзень выдаць сапраўдны досьціп. Але ў большасьці выпадкаў усё гэта было добра, — мяркуе Валянцін Тарас.

Сяргей Кручкоў зь Ліды куды больш шчодры на ацэнку пачутага на «Свабодзе». Кажа, што проста зачараваны й захоплены:

— Нягледзячы на свой паважаны век, Барадулін застаўся маладым — пра тое сьведчыць і апошняя ягоная творчасьць. Ён застаўся той загадкай, якой быў усё жыцьцё. Тое, што ён генэруе, акумулюе, тое, што ён робіць, — гэта сапраўды заўсёды пэўны сюрпрыз і загадка. І дай Божа яму шмат здароўя й гадоў. Гэта для мяне геніяльны чалавек, чыя творчасьць заўсёды прыемная. Наватворы, якія выходзяць з-пад ягонага пяра, вельмі трапныя. І дай Божа, каб іх было болей. А жыцьцё пакажа, што застанецца, што не...

Шмат хто са слухачоў «Свабоды» называў апошні Барадулінаў праект вельмі адметным у беларускай літаратуры падыходам да сучаснай мэмуарыстыкі: і адухоўленыя постаці, і нізкія асобы гісторыі й цяпершчыны Беларусі паказаныя Барадуліным праз вострае, дасьціпнае слоўца, іранічны погляд, сытуацыі ды інтанацыі на мяжы, як яны

казалі, дазволенага... Адны тую нетрадыцыйнасьць прынялі, іншыя — не... Вось голас з рэдакцыйнага аўтаадказьніка:

— Калі вы выганіце гэтага Барадуліна?! Ён гаворыць абы-што!

«Абы-чым» былая абазваная й эпіграма на Анатоля Вялюгіна ў выкананьні дзядзькі Рыгора:

*Як дуб, ён і дужы, і стойкі,*
*Ня кожнаму цісьне руку.*
*І ўсе паэтэсы, як сойкі,*
*На ніжнім сядзелі суку...*

Яшчэ адзін наш слухач «смачна» абыгрывае рубрыку «Лета з Барадуліным»:

— У гэтую восень, упэўнены, беларусам будзе не шкада, што прайшло гэтае лета. Бо пакуль яшчэ круціць у кішэнях дулі добрым людзям Барадулін... Дзякуй!

А зараз дамо слова паэту, якога дзядзька Рыгор атэставаў вось так «памежна»: «Тонкі лірык, ён мог праняць чытачак ня толькі да ныркак — нават сэксраманчык у выгнаньні напісаў разнаплянавы спэцыяліст». Такім чынам, зь Фінляндыі Ўладзімер Някляеў:

— Не стаіць на месцы, разьвіваецца літаратура. І маладая вырасла вельмі добрая проза, і вельмі прыстойная паэзія... І разам з тым ёсьць нейкія дамінанты, якія прысутнічаюць над вось гэтым агульным літаратурным кантэкстам. Адна з гэтых дамінантаў, на сёньняшні дзень самая значная, — гэта Рыгор Барадулін. Чаго б хто ні казаў, якіх бы





навацыяў хто ні выдумляў, але таго, што ўсё жыцьцё рабіў і на сёньняшні дзень робіць — ня страціўшы ні формы, ні энэргетыкі — Рыгор Барадулін, у сучаснай нашай паэзіі ня робіць ніхто. Тое, што зроблена Барадуліным, — гэта найвышэйшы пілятаж.

Вядомага паэта дапаўняюць проста прыхільнікі таленту Рыгора Іванавіча:

— Імя Рыгора Барадуліна для мяне знаёмае зь дзяцінства. Гэта... Гэта шчырасьць, чалавечая годнасьць і простае, прыгожае беларускае слова...

А вось што кажа Аляксей Белы з Баранавічаў:

— З творчасьцю Барадуліна я знаёмы даўно. Ва ўнівэрсытэце пісаў курсавую па ягоных вершах. Памятаю, напрыклад, як ён шчыра й цудоўна напісаў пра Адама Міцкевіча:

*Паэты нараджаюцца ў карчме,*
*Каб іх пасьля аплаквалі саборы...*

Увогуле, мне пашчасьціла сустракацца зь дзядзькам Рыгорам: ёсьць аўтографы — аўтографы ня толькі на кніжках, але й на асобных вершах. А яшчэ я напісаў маленькую эпіграму й яму, калі слухаў свабодаўскі цыкль:

*І бэры часам ён трасе, і дулі,*
*І ў матчын дом не-не ды завітае...*
*Такі вось ён, Рыгор наш Барадулін.*
*І праўда наша, і любоў сьвятая.*
*Нясе да грубкі з-пад павеці дровы*
*Вушацкі дзядзька, сын сваёй Айчыны.*

*Для суму у яго няма прычыны,*
*Бо ёсьць Радзіма у яго і слова...*
*І ёсьць падставы ўслаўляць жанчыну!*

Прыгожае слова заўважнае. І нярэдка гэта перакідаецца для «красамоўцаў» зусім ня ў тое, чаго яны, мажліва, чакалі. Асабліва калі закранаюцца такія далікатныя, напрыклад, сфэры, як каханьне, эротыка. Вось тут меркаваньні слухачоў «Свабоды» ну проста палярныя. Паслухайце Ўладзімера Арлова:

— Маё знаёмства з Рыгорам Іванавічам Барадуліным адбылося яшчэ ў школьныя гады. Знаёмства гэтае было завочным, але вельмі прыемным. Я адкрыў для сябе эратычныя вершы Барадуліна, якія недзе ў дзявятай клясе завучваў на памяць:

*Ад «Ня трэба, ня трэба...»*
*Да «Сьвятло патушы!»,*
*Як да сёмага неба,*
*Як да шчырай душы...*

А вось Сяргея Бандарэнку свабодаўскі летні цыкль дзядзькі Рыгора зацікавіў настолькі, што ён прыйшоў паглядзець на паэта падчас адной імпрэзы:

— Я ня ведаў раней Рыгора Барадуліна. Думаў, што ён памёр ужо... Нейкі такі дзядок, вакол яго нейкія цёткі. Маладыя нават... Ён ніжэйшы за іх усіх, але неяк усіх абдымае, нешта кажа! Мая думка: гэты чалавек трошкі сэксуальна, гм-м, заклапочаны.

— Ну а што дрэннага ў тым?..





— Нічога!
— То бок гэта цябе не абурае, а зьдзіўляе?
— Зьдзіўляе! Трошкі зьдзіўляе...

Паколькі эратычныя матывы зьдзіўлялі далёка не аднаго Сяргея, я зьвярнуўся па тлумачэньні да чалавека, найбліжэйшага да паэта, да яго жонкі спадарыні Валянціны. Але размову мы пачалі зь іншага. З пытаньня жыхаркі Лунінцу Сьвятланы Гарды пра тое, як яны пазнаёміліся з Барадуліным. Нашая слухачка чула, што гісторыя гэтая была крыху камічная... Тады, Сьвета, даведайцеся праўду зь першых рук, ад Валянціны Барадулінай:

— На філфаку быў аркестар народных інструмэнтаў. А там староста Піліпенка, аднакурсьнік Рыгора. І вось аднойчы Піліпенка гаворыць: «Рыгор, хочаш, я цябе пазнаёмлю зь першакурсьніцамі?» А Грыша мне так не спадабаўся, ну так! Худы, насаты, нейкі няўклюдны... Дужа не падабаўся! Потым я захварэла, а быў вечар, і ён мяне шукаў і не знайшоў. А на біяфаку была дзяўчынка, да мяне падобная. Толькі я была дужа худзенькая — 46 кіляграмаў. А тая паўнавачэнькая такая... І ўсё ж ён некалькі танцаў зь ёй станцаваў, таму што думаў, нібыта гэта я. Пасьля, відаць, у працэсе размовы зразумеў: «Ня тое!»

Як і іншым жонкам папулярных паэтаў, спадарыні Валянціне не прывыкаць да розных баек пра ўсялякія прыгоды спадарожніка жыцьця. Пагатоў і самі паэты ня лезуць па слова ў кішэню. Вось барадулінскія радкі з показкі пра малдаўскага паэта-

харашуна Аўрэла Бусуйка: «Сярод удзельніц урачыстасьцяў вылучалася паэтка з Таджыкістану, такая пэрсіянка зь песьняў... Пакуль Аўрэл красаваўся перад усім застольлем, мы выйшлі з чараўніцай у цёмную й цёплую ноч, як у казку. Потым я напісаў узгадку:

*Неўтаймаваны Бусуёк,*
*Шаноўнейшы Аўрэле,*
*Суема кожны свой суёк,*
*Пакуль не астарэлі.*
*Бо зь вялымі суйкамі*
*Мы самі ўжо ня самі...*»

Жонка, спадарыня Валянціна, так разважае пра паэтычнае свавольства мужа:

— З маладых гадоў раўнавала. Спачатку ён мяне, ну, да ўсякага... плінтуса! Ой, гэта было жахліва й несправядліва!

— Дагэтуль згадваюць, між іншым, славутае: «Як пабачу Валянціну, сэрца б'ецца аб штаніну...»

— Ну, гэта нехта на курсе схуліганіў! Ня ведаю, можа, Бураўкін. А можа, хто яшчэ. Гм, прыгожанькая была!

— Чаму была? Засталася!

А што яна думае пра эратычныя матывы ў творчасьці найбліжэйшага чалавека?

— Я нармальна стаўлюся. Па-першае, я ведаю, што ў сапраўднага паэта стан нейкай эратычнасьці павінен быць! Увесь час... А па-другое, я заўважыла, што ў іх такая мясцовасьць, дзе ну ўсе «заклапочаныя»! Там усе жартачкі, паказкі, прыказкі,





песьні — хуліганскія, так бы мовіць, там такі ўвесь мясцовы калярыт...

У размове са спадарыняй Валянцінай мы не абмінулі яшчэ аднаго папулярнага матыву ў паказках Барадуліна — дачыненьняў ягоных герояў з Бахусам... Вось хоць бы радкі пра Піліпа Пестрака ў выкананьні аўтара: «Каньяк — гэта ўлюбёны напой пралетарыяту, які ён п'е вуснамі сваіх найлепшых прадстаўнікоў. І пасьля перапынку, як з падпольля, выходзілі ў залю цёпленькія выступоўцы. Аб'яўляюць Пестрака. Першая фраза: «Марксізм-ленінізм — гэта ня тое, каб выпіць дзьве пляшкі каньяку й цёпла пагаварыць...»

Калі такое вычвараў сур'ёзны заціяты рэвалюцыянэр, што ўжо казаць пра пасьляваеннае пакаленьне Барадуліна й яго сяброў. Апавядае Валянціна Барадуліна:

— Было, тусаваліся ў нас па некалькі сутак. Прыйду з працы — штабэлямі ляжаць! Грыша, праўда, першым клаўся. Або на тахту (у нас не было ложка), або на дыван. А ўжо госьці — як хочаце! Хочаце на падлозе, хочаце на матрацы нейкім...

Пытаюся пра канкрэтных пэрсанажаў, а спадарыня Валянціна адпінаецца:

— Усё такое, што не для друку!

— А ў нас не для друку, а для радыё!

— Хуліганілі мы ўчацьвярых з Караткевічамі: Валянціна ягоная й мы з Рыгорам. Так, як кажуць па-руску, «распоясались», што яны сталі вершы

пісаць на нашых панталёнчыках. Валянціна захавала на памяць, а я не...

— Шкадуеце?

— Шкадую...

— Кожны пісаў на сваёй?

— Не, на сябровай!

— Кляс!

— Ну, гэта нявінная такая была забава, бо ніякай пошласьці там не было... Так... Так, жыцьцё было яскравае! Яскравае...

Ізноў апавядае Ўладзімер Арлоў:

— Асабістае маё знаёмства з Барадуліным адбылося на пачатку 1980-х гадоў. Рыгор Іванавіч прыехаў на творчую вечарыну. Мы, маладыя літаратары зь літаб'яднаньня «Крыніцы», сустрэлі, ну, і як бы нясьмела прапанавалі выпіць па шкляначцы віна ці па чарачцы чаго-небудзь мацнейшага... Рыгор Іванавіч сказаў: «Хлопцы, я ўжо колькі гадоў, як ня п'ю, а вам раю...»

Хрэстаматыйна вядомае з гісторыі расейскай літаратуры выслоўе: «Усе мы выйшлі з гогалеўскага «Шыняля»... А беларускія паэты, на думку Ўладзі Арлова, — з барадулінскага капелюша:

— Ну, раз Рыгор Іванавіч ня піў, дык мы вырашылі дарагога госьця звадзіць прынамсі ў саўну. Прывялі ў саўну, пасядзелі, я выйшаў у строях Адама... Рыгор Іванавіч угледзеўся ў мяне, а потым дастае з дыплямата капялюш, кажа: «Гэта табе падарунак будзе». Я падышоў да люстэрка, паглядзеў — самому спадабалася! Капялюш ад Барадуліна —





такі эксклюзіў... Вось... Потым я празь некалькі гадоў маладзейшаму свайму калегу-літаратару падараваў гэты капялюш. А ён, магчыма, таксама некаму падараваў... Так і вандруе гэты знойдзены Барадуліным капялюш з галавы на галаву беларускіх літаратараў.

— Ну, а які сэнс ты ўкладваў у гэты капялюш?

— Гэта быў падарунак паэта, які піша ня толькі вытанчаныя эратычныя вершы й які выдатна пачуваецца ў самых розных жанрах, але гэта быў яшчэ падарунак і чалавека, надзеленага — як, спадзяюся, і я — полацкім мэнталітэтам. Зь ягонай вось такой схільнасьцю да нечаканых учынкаў, іроніі й самаіроніі...

Апрача таго, разьвівае думку Ўладзімера Арлова паэт Валянцін Тарас, Барадулін цэніць таксама іронію іншых у адносінах да сябе:

— Была ў мяне пародыя даволі сьмешная на яго амэрыканскія вершы...

— Ага, ня толькі ён, але й на яго!

— Так, і на яго... Ён жа заўсёды: «Куліна, мама...» Гэта абыгрываюцца радкі вядомыя зь ягонай паэмы. Што вось калі ён прыяжджае ў Вушачы, усе расчульваюцца: «Божа, Кулінін хлопец прыехаў, Кулінін малец!» Ну дык вось калі ён паехаў у Амэрыку, я й напісаў:

*Брадвэй цыгару рэклямай смаліць,*
*Але мяне ўбачыўшы — не расчуліцца!*
*Дык не запляскае ў ладкі Кулінін малец:*
*«Гадкая вуліца, гадкая!»*

А вось яшчэ іронія, прычым, так бы мовіць, жорсткая. Ад жонкі дзядзькі Рыгора спадарыні Валянціны:

— Згадала, як праз яго пабілі Тармолу ў рэстаране.

— Рамана Тармолу?

— Ага. Ні за што! Мы сядзелі сваёй, а Раман сваёй кампаніяй. А ён жа такі гад, што любіць каго-небудзь зачапіць! Нешта не спадабалася й сказаў ці то «быдла», ці то што... Чалавек устаў і хацеў яму ўрэзаць...

Перапыню шаноўную спадарыню Валянціну эпізодам, які я пачуў ад дзядзькі Рыгора: зусім немалады й славуты навуковец Барыс Кіт на апошнім сваім юбілеі пабіўся ў нямецкім рэстаране з тамтэйшымі задзірамі. «А чаму, — пытаюся ў Барадуліна, — Вы не згадалі гэтага эпізоду ў показцы для "Свабоды"?» «Няёмка неяк — выбітная ж асоба», — адказаў дзядзька Рыгор. Але распавядае далей ягоная ўсьмешлівая жонка:

— ...Чалавек устаў і хацеў яму ўрэзаць... Учапіўся за настольнік і ўсё там сьцягнуў! І тады зусім ужо ашалеў і на Грышу з кулакамі... А Тармола ўбачыў, што «нашых б'юць!» ды кінуўся, хоць сам невялічкага расточку. І пачалі яны біцца, а Грыша адразу ўцёк!

— Намалацілі Рамана?

— Намалацілі беднага Рамана з-за Грышкі...

— А як Грышка зрэагаваў?

— Я ўжо ня помню: па-мойму, нармальна!





Пад гэты эпізод прапаную паслухаць адзін з водгукаў слухачкі «Свабоды»:

— Можа, я нешта блытаю, але ў мяне такія асацыяцыі, нібыта нешта там ня так падзялілі! Яго вылучылі некуды наперад, а некага засунулі на задні плян, і таму нехта застаўся надта пакрыўджаны. Бо Рыгор Барадулін увесь час ува ўсіх на вуснах, а некага праз яго пакрыўдзілі!

Спадарыня Валянціна адразу зрабілася сур'ёзная:

— Ведаеце, ён верны чалавек. Відаць, ён адзіны зь пісьменьнікаў, хто ў выдавецкай справе, груба кажучы, «цягнуў мерцьвякоў»... Усіх, хто памёр, імкнуўся выдаць, каб дапамагчы сем'ям, захаваць памяць...

З гэтымі словамі вельмі стасуецца вось такое меркаваньне пра цыкль «Лета з Барадуліным» ад Лідзіі Цалуйкі з Івацэвічаў:

— Калі чуем Рыгора Барадуліна, то нечым адразу павявае беларускім, шчырым, і хочацца думаць пра тое, што павінны быць людзі, якія мусяць больш думаць пра адраджэньне Бацькаўшчыны, чым пра свае пасады.

Большасьць тых, пра каго так ярка расказаў паэт у сваім летнім цыклі для «Свабоды», менавіта гэтымі людзьмі й ёсьць. Мне падаецца, сэрыя таму й выклікала значны рэзананс, што выдатных сыноў Беларусі згадваў, апяваў выдатны яе грамадзянін і паэт — Рыгор Барадулін. Наш дзядзька Рыгор.

## Лявон Баршчэўскі:
## «Купала нашых дзён»

Рыгора Барадуліна можна без перабольшаньня назваць Купалам нашых дзён — клясыкам, унікальнай зьявай нашай літаратуры. Мала каму ўдаецца ня проста заставацца выдатным паэтам-лірыкам у вельмі паважаным веку, але й з кожным новым творам зьдзіўляць і выклікаць захапленьне.

Для мяне ж асабіста Барадулін стаў найлепшым настаўнікам роднай мовы, надаў аптымізму: *гэткая* мова сканаць ня можа! Наогул, ня ведаю, ці можа хоць якая сучасная літаратура пахваліцца тым, што мае Чарадзея Слова. А беларуская — можа! Дзякуючы Рыгору Барадуліну.





*Ён патрэбны цяпер, як стырно ладзьдзі,*
*Небачолай, няўрымсьлівай моладзі —*
*Хай жа будзе заўсёды атулена*
*Мудрым клопатам Барадуліна.*

# Генадзь Бураўкін: «Любы дружа, Генадзь Барадулін»

Мала хто ведае, што бліскучы лірык, аўтар выдатных паэмаў і элегічных санэтаў, даўно й дружна прызнаны ўсімі клясык Рыгор Барадулін пачынаўся з баек і гумарыстычных вершаў. Увесь унівэрсытэцкі інтэрнат на Бабруйскай вуліцы ў Менску ў канцы 1950-х гадоў напамяць ведаў ягоную «Кухню Насьці» й «Ключ ад сэрца Кацярыны»... Так што ягоны вясёлы й задзірысты талент невыпадкова раз-пораз выбухае то цэлаю кніжкаю эпіграмаў, то саланаватымі вушацкімі анэкдотамі, а то ўсьмешлівымі й нават кусьлівымі ўзгадкамі-показкамі.





За многія дзесяцігодзьдзі нашага зямляцкага й творчага сяброўства я добра ўведаў тэмпэрамэнтнага й непаўторнага Рыгора. Недарэмна, відаць, аднойчы на шматлюдным сустрэчы на сьвяточнай гарадзкой плошчы ўсхваляваная кіраўніца мясцовай культуры вітала як дарагіх гасьцей... Генадзя Барадуліна й Рыгора Бураўкіна. А зусім нядаўна адна сур'ёзная й даволі папулярная газэта ўзяла ў мяне інтэрвію й надрукавала яго пад прозьвішчам... Рыгора. І мы не пакрыўдзіліся, бо мне было прыемна, што мяне зблыталі са славутым народным паэтам, а ён быў згодны з усім, што я сказаў журналісту.

Язычок у Барадуліна, безумоўна, востры, вока — праніклівае, а слова часам — забойчае. Толькі ніколі гэта не ідзе ад жаданьня пазьдзекавацца зь некага ці прынізіць нечую чалавечую годнасьць. Я гэта добра ведаю. Ды ўрэшце й барадулінская ўвага ніколі не зачэпіць асобу пустую й нецікавую. Таму я й зьвяртаюся да тых, каго, магчыма, балюча паранілі барадулінскія калючыя радкі:

*На радасьць ці на гора вам*
*Удача можа выпасьці*
*На языку Рыгоравым*
*Узбрыкнуць, як на выпасе.*

*Ня лайце ж слова босага*
*І не лічыце драпіны —*
*Быць можа,*
*Гэткім спосабам*
*У вечнасьць вы патрапілі.*

# Сяргей Законьнікаў: «Языком голіцца, на слова моліцца»

Акрамя прыроднага непаўторнага й магутнага таленту, Рыгора Барадуліна вызначае выключная, неймаверная працавітасьць, пастаянная ўнутраная патрэба выяўляць праз паэзію сябе, сваё адчуваньне сьвету. Часам здаецца, што клапатлівае натхненьне не пакідае паэта дваццаць чатыры гадзіны ў суткі, нават у сьне. Ні ладная ношка гадоў, ні жыцьцёвыя, бытавыя нягоды ня могуць перасіліць апантанасьці, азартнага настрою, бясконцага, няспыннага паляваньня за вобразамі, мэтафарамі, сьвежым словам. Сапраўды, з маладосьці й да сёньня Рыгор жыве паэзіяй так, як ніхто з творцаў. У гэтым сьвеце іншага стану існаваньня для яго няма.





Паэзія — і пакуты, і радасьць, і само ратаваньне: як духоўнае, так і фізычнае.

Неяк у гасьцініцы, а паэт тады працаваў над перакладамі, я назіраў, як Рыгор бярэ на зуб, смакуе, шукае, выбірае патрэбнае слоўца. У пакоі паўзмрок, бо не разьвіднела, ды ён ужо на нагах, сьвятла не запаліў, каб не пабудзіць мяне. Ходзіць, шэпча нешта сабе, нібыта моліцца. Раптам спатыкаецца, спыняецца, думае, падыходзіць да стала й запісвае знойдзенае, упадабанае амаль навобмацак. І зноў мерныя, нясьпешныя крокі й малітва да слова. Я ляжу моўчкі, не прапаноўваю ўключыць сьвятло, бо ведаю, што гэта такое — перабіць думку, пошук паэта.

Нішто не праходзіць міма пільнага паэтычнага зроку Барадуліна: ні цуд прыроды, ні калейдаскоп зьяваў чалавечага быцьця. Усё таленавіта ўвасабляецца ў эпіцы, лірыцы. Але ёсьць яшчэ гумар, іронія, зьедлівая, зьнішчальная сатыра. Як кажуць у народзе: «Гэтаму й брытва ня трэба. Павядзе языком сваім — і паголіцца». Можна па-рознаму ставіцца да ўнікальнага сатырычнага дару Барадуліна: захапляцца, усьміхацца, рагатаць, палохацца яго. Асабліва прадказальная рэакцыя злосьці, гневу, абурэньня тых, хто стаў аб’ектам дасьціпных, вострых, калючых, а нярэдка й занадта жорсткіх, забойных вершаў, эпіграмаў, пародыяў, экспромтаў, заўвагаў. Але ж гэта таксама ён, той жа чалавек. Гэта натура Рыгора: калі заўважыў нешта вартае высьмейваньня, то ня змоўчыць. А яе перарабіць немагчыма. Як і натуру нашага й любога іншага народу, якія любяць вострае слова.

Так павялося, што ва ўяўленьні людзей вялікі паэт абавязкова павінен мець хрэстаматыйнае, kанізаванае аблічча. Спроба зрабіць гэта ў дачыненьні да Барадуліна — марны занятак. Ён заўсёды непрадказальны, нечаканы, вуглаваты, нягляндзявы: і ў творчасьці, і ў жыцьці. Ён мае ня менш чалавечых слабасьцяў, чым кожны з усіх зямных, грэшных людзей. І не прыхоўвае гэтага. Жыве й творыць свабодна, адкрыта. Але ў любой сытуацыі, у самых незвычайных ці, наадварот, простых варунках Барадулін застаецца Паэтам.

А ён такі... Перахоплены зьнянацку нейкай нечаканкай, адчуваючы пэўную віну й няёмкасьць, спачатку зьбянтэжана затакуе, як цецярук: «Бу-бу-бу...», а затым нешта выдасьць на-гара. Скажам, вясёлую, сымпатычную анэкдатычную хлусьню, пра якую склаліся гэтыя радкі:

*Быў дамабільнікавы час...*
*Рыгор сустрэцца забывае.*
*Тэлефануем, а ў адказ:*
*«Я еду... Вам званю з трамвая!»*
*Цяпер жа што — трамвай, аўто!*
*Званкі ня дзіўяць нават зь лесу.*
*Але ня ўсім вядома, хто*
*Стаў бацькам гэтага прагрэсу.*



## Зянон Пазьняк: «Думаю пра Рыгора»

Як адышоў без пары на той сьвет Караткевіч, Рыгор Барадулін (неразлучны сябра Караткевіча) крочыў побач з Быкавым. Гэтак удвох яны й прышлі ў Народны Фронт і ахвяраваліся беларускаму нашаму Адраджэньню. Памятаю іх побач заўсёды ў першым радзе на соймах БНФ — маўклівых, засяроджаных і ўзьнёслых. І часта, калі ўзьнікалі вострыя мамэнты, ці запануе канфузьлівая маўчанка, Рыгор устаўляў вершыкам імгненны экспромт, ці бо паддакваў у рыфму сур'ёзнаму дакладчыку, выклікаючы выбух сьмеху й здаровы настрой.

Шчымліва ўяўляецца мне ўсё гэта тут, далёка, быццам магло б яно яшчэ вярнуцца... Гэтак думаючы, я напісаў:

*Паэт народнай весялосьці,*
*Рыгорка, браце наш адзіны,*
*Як слоўца скажа — ўсе рагочуць,*
*А сэрца плача па Радзіме.*

Нью-Ёрк, 19.X.2004, у гадавіну ўтварэньня БНФ



## Алесь Пашкевіч: «Сівабароды Сымон-музыка»

Некалі я ўвёў у паэтычную мову слова, якое ўвабрала ў сябе ўсе дзеясловы сьвету. І слова было — *барадуліньцца*. Як бурштыніцца, бараніцца, бадзёрыцца... Найбольш блізкія й родныя таму наваслову — абнечаканьваць і зьдзіўляць.

Абнечаканьваць і зьдзіўляць мэтафарай. Бо чытаць Барадуліна — нібыта глядзецца ў люстэрка з адваротнага боку й бачыць сябе шчасьлівым...

Абнечаканьваць і зьдзіўляць рыфмай, якая змагнічвае ня толькі канчаткі, але й словы, нават прабелы паміж імі: учо*ра ты* — у ча*раты*, Мінэрва — мян*е* рве...

Абнечаканьваць і зьдзіўляць студэнцкай гарэзнасьцю сівога аксакала. Калі філялягіні ўсьміхаюц-

ца пры аўдыторным чытаньні ягоных «Здубавецьцяў» — значыць, ня ўсё яшчэ страчана з дэмаграфічнай статыстыкай...

Абнечаканьваць і зьдзіўляць — пасьля дэмаграфіі — арфэйскай дэманаграфіяй, паэтычна-шаманскай варажбой: «лілею млявы плёс люляе»...

Абнечаканьваць і зьдзіўляць здольнасьцю кніг Барадуліна жыць сваім незалежным жыцьцём — як, да прыкладу, другі паэтаў зборнік «Рунецъ, красаваць, налівацца»: апошняе слова моладзь упарта чытае «напівацца».

Абнечаканьваць і зьдзіўляць (хай гэта не прагучыць банальна) зьдзейсьненым. Паэзія Барадуліна — непераўзыдзеная Песьня песьняў. Больш таго, у беларускім пісьменстве ён — рэстаўратар паэтычнай Бабілёнскай вежы. Зь яе ўзвышша сталі зразумелымі мноства моваў паэзіяў і паэтаў сьвету: ад Амара Хаяма да Папы Рымскага ды Зелімхана Яндарбі. Калі Барадулін не перакладаў (хоць бы і з падрадкоўніка) з той мовы, значыць: ці яе няма, ці ў ёй няма паэзіі...

Урэшце, барадулініцца — гэта й зьдзіўляць нечаканасьцю, патэнтаваць невядомае. Яшчэ задоўга да «мабільнікавізацыі» ўсёй краіны ён, спазьняючыся, гаварыў усур'ёз у слухаўку: «Тэлефаную ўжо з тралейбуса!»

Акром таго, барадулініцца — гэта зрэдзьчас паказваць дулю дурноце й *лука*ватасьці...

Глядзячы на Рыгора Барадуліна, неадступна думаецца: гэта Коласаў Сымон-музыка, які дажыў да сівой барады, не прапіў і не прадаў сваёй скрыпкі — і не збарадуліўся!..



# Рыгор Сітніца: «Як 200 грамаў першаку!»

Калісьці, яшчэ ў часы школьных пакутаў, завучваючы напамяць верш Барадуліна, ці ж мог я ўявіць гэткае дзіва, што паэт, чые вершы ў школьным падручніку былі побач з творамі Купалы ды Коласа, некалі стане для мяне вельмі блізкім дзядзькам Рыгорам, якому можна будзе патэлефанаваць паміж іншага й дзеля таго, каб распавесьці сьвежую показку, не выкідваючы зь яе ніякай лексычнай скароміны?

Аднак дзівосы здараюцца — і цяпер, сустрэўшы Барадуліна, ці тэлефануючы яму, я заўсёды разьлічваю на 100–200 грамаў першаку вясёлых досьціпаў і сапраўднага гумару. Разам смачна па-

рагатаўшы, я, аднак, ніколі не забываюся — з Кім я побач.

Вось і цяпер набіраю нумар: «Алё. Дзядзька Рыгор. Дзень добры. Слухайце...»

Калі тое будзе, дакладна сказаць не бяруся. Ды ўсё-ткі пытаньне падкрадзецца з выглядам ціхае сапы:

*«А хто гэта, блін, прэзыдэнціў тады Беларусьсю,*
*Калі Барадулін вячэраў у Рымскага Папы?»*
*Ды не прыгадаўшы і ў тым не пабачыўшы гора,*
*Уздымуць кілішкі за вечнага дзядзьку Рыгора.*



# Міхась Скобла: «На пару зь вярблюдам»

У вушацкай хаце Рыгора Барадуліна лесьвіца на другі паверх нагадвае комін у Мірскім замку. Гэткая ж стромая й закручаная. Я доўга швэндаўся па замку й намагаўся зразумець: навошта? І нарэшце сьцяміў — а каб дым у неба колцамі ішоў! Думаю, не памылюся, калі скажу, што й барадулінская шрубападобная лесьвіца пастаўленая дыбкі ня проста так. А каб кожны, хто палезе па ёй на паэтаў Парнас, адчуў, наколькі галавакружныя й каркаломныя яны, вяршыні сапраўднай паэзіі.

Разоў пяць пісаў я эпіграмы на Рыгора Барадуліна, і шторазу ў выніку атрымліваліся панэгірыкі. І нікчэмнела пані лірыка ад таго майго

панэгірыка... Вось і цяпер няйначай вірутнік з-пад чорнай зоркі зьбівае мяне з панталыку... Проста рака паэзіі Барадуліна настолькі шырокая, глыбокая й шпаркаводная, што на ненадзейнай пласкадонцы эпіграмы пераплываць яе рызыкоўна. А таму паспрабую перасесьці ў пірогу пародыі. Дарэчы, даўно заўважыў: чым больш таленавіты паэт, тым лягчэй накінуць на яго парадыйны сілок.

Толькі наставіш — і выцягнеш на сьвет Божы радок, які брыкаецца і ў рукі не даецца. А часам палюеш на каторага паэта гадамі, і — няма за што воку зачапіцца. Спачатку зьдзіўляесься, а потым разумееш, што ў дыстыляванай вадзе рыба ня водзіцца.

Via est vita — казалі старажытныя. Дарога — гэта жыцьцё. Я люблю «вандроўныя сшыткі» Барадуліна. Прачытаеш іх — і нібы сам пабываў за сьветам ды пабачыў, як *«яхта гусіным пяром піша марскую элегію»*, ці пасуперажываў пержытаму недзе на Манмартры пахмельлю: *«як у п'янку, уцягваесься ў Парыж...»*

Яшчэ першай кніжкай, сваім «Маладзіком над стэпам», Барадулін парадніўся з Азіяй. Азіяцкія матывы сустракаліся ў ягонай паэзіі й пазьней: *«Сфатаграфуемся, вярблюд, давай з табой на памяць!.. А мы абодва вярблюды: я ў лесе, ты ў пустыні»*. На пару зь вярблюдам і трапіў паэт у пародыю.

*Прабач ты мне, крывіцкі люд,*
*Раскайваюся ў гэтым:*
*Я — з барадой лясны вярблюд —*
*Народным стаў паэтам.*





*Мяне на водкуп халадам*
*З паўднёвае краіны,*
*Дзе гэтак добра вераблюдам,*
*Прагналі бэдуіны.*

*І мне,*
*Ўздыхну я ці ўзмахну*
*Пяром — душы навершам,*
*Адно наўме — вазіў бы хну*
*І не карпеў над вершам.*

*Я часам злосны і грубы,*
*Дабрэю без прымусу,*
*Як, сеўшы верхам, аб гарбы*
*Пачухаецца муза.*

*Такі ўжо мой вушацкі лёс,*
*У творчы статак клікаў,*
*Дзе настаўляла рогі Лось*
*І скуб атаву Быкаў.*

*Чашу аб дрэвы валасьню,*
*А прыдрамлю ля ўнучкі —*
*І маладзік над стэпам сьню,*
*І смачныя калючкі.*

*Калі іду — шугаюць з воч*
*Сьвятло і гнеў пярунаў.*
*Пасталі крытыкі наўзбоч —*
*Баяцца, каб ня плюнуў.*

# Алесь Шатэрнік: «Ляўшы келіх не патрэбны!»

Наш сябра мастак Яўген Кулік, адзін з заснавальнікаў суполкі «Пагоня», пры згадцы пра Рыгора Барадуліна заўжды зь цеплынёй успамінаў: «А гэта мы з Рыгорам, калі працавалі ў "Бярозцы"...»

Рыгор Іванавіч сябраваў з многімі мастакамі, бываў у мастакоўскіх майстэрнях, і колькі было выпіта келіхаў за мастацтва ды Вольную Беларусь — аднаму Богу вядома...

Мінуў час, Рыгор Іванавіч даўно не ўжывае сьпіртнога, а вось сяброўства з мастакамі працягваецца. Тым больш, што дачка яго Ілона, мастачка, апошнія гады бярэ ўдзел у традыцыйных Драздовіцкіх пленэрах. Аднойчы, калі мне давялося





ладзіць сваю мастацкую выставу ў Музэі сучаснага мастацтва, я патэлефанаваў Рыгору Іванавічу й запрасіў яго. Дзядзька Рыгор прыйшоў з эпіграмай, дзе былі такія радкі:

*...Увогуле, любы мастак —*
*Ляўша,*
*Калі ён сэрцам творыць звар'яцела...*

У адказ я прысьвяціў яму жартаўліва перафразаваныя радкі:

*Увогуле любы мастак лайдак,*
*Калі ня сэрцам творыць звар'яцела...*



*Мужная праўда — думак сваіх не баіцца*

# быць з праўдаю

## ў згодзе — і на свабодзе!

**Дуліны юбілейныя «Свабодзе» на 50-годзьдзе**

Брэшаць, як радзіва.

Так казалі ў нас дома ў тым стагодзьдзі.

Хадзіла загадка, што трэба зрабіць, каб халадзільнік быў паўнюткі? Адказ просты — падключыць да радыё.

З радыё нясецца агітацыя: «Галасуйце за блок камуністаў і беспартыйных!» Мама вырывае шнур з разэткі, удакладняючы: «За блох камуністаў і беспартыйных!»

...І раптам аднойчы ўдалося злавіць у эфіры радыёстанцыю, якая вяшчала (а не вішчала) пра ўсё на сьвеце ўзважана й спакойна на чысьцюткай крывіцкай мове з крывіцкай панавітай годнасьцю. «Свабода»!





Гэта было адкрыцьцё. І як толькі стараліся глушыць «варожыя галасы». І трактары заводзіліся й не заводзіліся, і жарабцы іржалі. Ды мы, маладыя, прагныя да праўды, слухалі «Свабоду». Потым у гады так званай перабудовы пачало памалу сьціхаць шыпеньне й іржаньне. Проста рабіліся тэхнічныя непаладкі. Ды «Свабода» пагрукалася ў сэрцы сьвядомых беларусаў.

Апошнія гады я й не ўяўляю сябе без «Свабоды». Як родныя й дарагія гучалі мне й гучаць галасы Васіля Быкава, Зянона Пазьняка, маладзейшых змаганцаў за непадлеглую Беларусь.

Нашай «Свабодзе» — 50! Залаты юбілей. І хочацца павіншаваць і пажадаць моцы й плёну.

*Хапіла абяцанай манны,*
*Ідэйных нараў і начы.*
*Будзі, «Свабода»,*
*Край заспаны,*
*Вучы любіць сябе.*
*Гучы!*

*Сёньняшнім супрацоўнікам*
*Радыё Свабода*
*прысьвячаецца*

* * *

*Свабодаўцы!*
*Вяшчуйце сьветлы дзень,*
*Каб ён не затрымаўся*
*У дарозе.*
*Каб зь Беларусі сплыў*
*Калючы цень.*
*І падарыце ўсьмешкі*
*Перамозе,*
*Якая пераможа зябкі страх*
*І жаўрукам аддасьць*
*Абсяг зьнямелы.*
*Лунаціме*
*Раскрылены ў вяках*
*Сьвятарны сьцяг наш*
*Бел-чырвона-белы!*





## Галіна Абакунчык

*Характар беларускі, трапяткі*
*Ў Галіны Абакунчык,*
*І таму так*
*Шчасьліва нараджаюцца радкі*
*І дзеці,*
*Каб душу ня пасьвіў смутак.*

## Сяргей Абламейка

*Для паравоза кемлівасьці рэйкі*
*Пакладзены далёкімі вякамі.*
*Вагоны эгаізмаў Абламейкі*
*Вязуць усьмешкі з мулкімі бакамі.*

## Валянціна Аксак

*Пэгас — натурысты рысак,*
*Ды ўмомант паслухмяным стане,*
*Ледзь на яго зірне Аксак.*
*Аброць надзейная ў каханьня.*

## Сяргей Астраўцоў

*На журналістыку й прыгожае пісьменства*
*Стае ўзварушлівага Астраўцова.*
*Праўдапрадаўцаў ненавідзіць да шаленства,*
*Таму й палае шчырым гневам слова.*

## Кастусь Бандарук

*Кастусь Бандарук у нябёсы ўзносіць*
*Малітву зьясьненую ў вяках,*
*Па-беларуску ў Звышняга просіць*
*Прагнаць з душы беларускай страх.*

## Зьміцер Бартосік

*Як бард і вяшчальнік,*
*Бартосік слухачак*
*Умее давесьці*
*Да сьмелых гарачак.*
*Яно й не такая вясёлая праца —*
*Надвор'ем любым салаўём залівацца.*

## Анатоль Бублікаў

*Клопат тлумны ў гукарэжысэра —*
*Заўтра пабяжыць гукаць учора.*
*Як настаўніка малеча ў школе,*
*Гукі слухаюцца Анатоля.*

## Юрась Бушлякоў

*Капрызная беларуская мова!*
*І як яе выправіць ні стараецца,*
*Ня хоча слухацца Бушлякова —*
*Упіраецца.*





## Анатоль Гатоўчыц

*Варты ўвагі і пашаны*
*Рупны спэц —*
*І ў гэтым соль.*
*Інфармацыяй напханы,*
*Як кампутар,*
*Анатоль.*

## Уладзімер Глод

*І ў фактаў, і ў чутак адно дупло,*
*І ў цётак плётак няма амбіцый.*
*Глод ведае добра,*
*Што ёсьць, што было,*
*І тое, што мае яшчэ адбыцца.*

## Алег Грузьдзіловіч

*Алег, як цьвёрды праваабаронца,*
*Ўсё ведае,*
*Дзе, што, нашто, чаму.*
*Калі ўзысьці захоча раптам сонца*
*Ня з тога боку,*
*Ён ня дасьць яму.*

## Аляксандар Гурыновіч

*Са сьцюдзёнага космасу гукі*
*Самі просяцца ў добрыя рукі.*
*Гурыновіч, як гукамаг,*
*Іх кіруе ў шчасьлівы шлях.*

## Данчык

*Данчык —*
*Вальнакрылы птах сьвітаньня,*
*Сьмела крыгаломіў ледастаў,*
*Беларусі зь лютага выгнаньня*
*Душы беларускія вяртаў.*
*Салаўіны голас мае сілу*
*Распагодзіць позірк небасхілу.*

## Аляксей Дзікавіцкі

*Ні дня без радка*
*Пра навіны ў Эўропе,*
*Ні дня без глытка*
*Хмелявітага піва.*
*Імчыць Дзікавіцкі*
*Ў шалёным галопе*
*Пад позіркам кплівым*
*Варшаўскага дзіва.*





## Анатоль Додзь

*Наш гукамаг —*
*Штукар вялікі,*
*Ён зробіць салаўя з заікі.*
*Амаль нямы,*
*Сьмялей прыходзь —*
*Трыбунам стаць паможа Додзь.*

## Юры Дракахруст

*Па хаце — кошка,*
*Па кошыку — грузд.*
*Жыцьцё — гэта п'еса*
*Ня надта касавая.*
*Да працы заляцаецца Дракахруст.*
*І яна адпаведнаю платай адказвае.*

## Сяргей Дубавец

*Дубавец з «Вострай Брамы»,*
*Як мужны рыцар,*
*Даганяе наступнасьць на крылатым кані,*
*Каб Віленскі край не сьпяшаўся забыцца*
*Пра свае крывіцкія карані.*

## Галіна Жарко

*Летуценная Галіна завіхаецца*
*Ля свайго лірычнага «камбайна».*
*Зерне ісьціны рамантыцы ўсьміхаецца*
*Там, дзе і ўмалотна,*
*І ўраджайна.*

## Валянцін Жданко

*Ні злосьцю, ні пустою зьвягай*
*Зьмяніць нічога немагчыма,*
*А дабрынёю і развагай*
*І задуменнымі вачыма,*
*Такімі, як у Валянціна,*
*Льга ўсё зыначыць цьвёрда й чынна.*

## Аляксей Знаткевіч

*Пасьля вучобы ў Злучаных Штатах*
*Зрабілася роднае йшчэ радней.*
*І зразумеў, што набытак ў стратах*
*Незашораны Аляксей.*





## Ілона Іванова

*Хай галалёд, хай град,*
*Хай золь, хай сьпёка,*
*Ня ведае імклівая Ілона,*
*Што значыць слова дзіўнае — «далёка».*
*Таму Ілона любіць слова «плённа».*
*Машыну разганяе так,*
*Што тая,*
*Абы ня стаць запчасткамі,*
*Ўзьлятае.*

## Валер Каліноўскі

*Лёд палітычны дужа коўзкі.*
*Але ня звык спыняць хаду*
*Палітык рупны Каліноўскі.*
*Гатовы, цьвелячы бяду,*
*На шыбеніцу, як Кастусь,*
*Валер пайсьці за Беларусь.*

## Максім Капран

*Плён працы залежыць ад насалоды.*
*Капран закаханы ў працу сваю.*
*Ён ведае тэхніку ўсёй «Свабоды»*
*І тэхніку,*
*Як памнажаць сям'ю...*

## Вольга Караткевіч

*У Вольгі энэргіі й клёку*
*Хапае, каб быць прэзыдэнтшаю,*
*Каб браць гарады не з наскоку.*
*Пярэчыць праменіста змроку,*
*А змрок, як знарок, ані меншае.*
*Абмытай пяшчотнай залеваю,*
*У сэксе ёй быць каралеваю!*

## Ігар Карней

*Дапытнае дрэва глыбей каранее,*
*Каб думкам гнёзды віць у гальлі.*
*Калі інфармацыя ад Карнея,*
*Дык, значыць, яна з-пад зямлі.*

## Валер Карбалевіч

*У Карбалевіча Валера*
*На ўсё свая крутая мера,*
*А палітычная вага*
*Такая,*
*Што зайздросьціць льга.*
*Адно, што нельга —*
*Зь недаверам*
*За круглы стол сядаць з Валерам.*





## Уладзімер Катлоўскі

*Катлоўскі — рупны web-мастак,*
*Умее зрушана, нязмушана*
*Сайт па-крывіцку ўбачыць так,*
*Што сайт*
*Рашуча зьбеларушвае*
*Ўсіх праз дапытны інтэрнэт,*
*Каму баліць крывіцкі сьвет.*

## Севярын Квяткоўскі

*Знайсьці адказ на хітрае пытаньне*
*І годны выгляд мець*
*Хапае сіл.*
*Як цёзка Налівайкі,*
*Ўзьняць паўстаньне*
*Квяткоўскі можа*
*Ў бары «Радзівіл».*

## Вольга Курбатава

*На клопаты, як мільянэрша, багатая*
*Абавязковая Вольга Курбатава.*
*Усё патлумачыць хапае лагоды*
*Ў прыбрамніцы неспакойнай «Свабоды».*

## Сьвятлана Курс

*Майстэрства —*
*І чорная праца, й пашана.*
*Перакладае і піша сама,*
*Таленавіта такі не здарма,*
*Бо натуральная беларуска Сьвятлана.*

## Аляксандар Лукашук

*Рашучаму інтэлігенту,*
*Сур'ёзнаму Лукашуку,*
*Рафінаванаму дашчэнту,*
*Пан посьпех падае руку.*
*З кім можна пану павітацца,*
*Падказвае паненка праца.*

## Любоў Лунёва

*Не дазваляе сабе памыліцца,*
*Бо ведае вартасьць і справы, і слова.*
*Любові пабойваецца і міліцыя,*
*Бо дзейнічае рашуча Лунёва.*





## Ягор Маёрчык

*Ягора не аб'ягорыш,*
*Бо ён*
*Усю Беларусь ведае не па мапах.*
*І за Маёрчыкам хітры плён,*
*Як кот,*
*Ступае на мяккіх лапах.*

## Аляксандра Макавік

*Вырачэнцаў і тлен заўважаць не прывык,*
*Дасыхаюць яны,*
*Як націньне палеглае.*
*Беларуска шляхетная Макавік*
*Па-шляхетнаму*
*Родную мову пялегвае.*

## Вінцэсь Мудроў

*Да пракавечных полацкіх муроў,*
*Да тых сьцяжын,*
*Што нам праклаў Скарына,*
*Вяртацца раіць як часьцей*
*Мудроў,*
*Каб не забыць,*
*Адкуль наш род былінны.*

## Сяргей Навумчык

*Хрэсьнік непадлегласьці Сяргей,*
*Малацьбіт і сейбіт утрапёны.*
*Да хлусьні ня пойдзе на паклоны,*
*Годна ён вядзе нязгодны рэй.*

## Альгерд Невяроўскі

*Паўтарыць гатоў Альгердаў шлях*
*Невяроўскі,*
*Каб шырэлі межы*
*Беларускай славы незалежнай.*
*Княскі не стамляецца размах!*

## Зьміцер Падбярэскі

*З паненкамі ціхі,*
*З падонкамі рэзкі,*
*Чаргуючы ласку і люць,*
*Нястомна сячэ з-за пляча Падбярэскі,*
*Аж трэскі далёка лятуць.*
*Закон у людзей,*
*Як і ў дрэваў, суровы:*
*З жывога — дубровы,*
*З пасохлага — дровы.*





## Алена Панкратава

*У працы Панкратава —*
*Львіца.*
*Нямецкамоўныя гоні*
*Не дазваляюць забыцца,*
*Што такое бяссоньне.*

## Тацяна Поклад

*Ня любіць верыць*
*Ні ў якія міты,*
*Бо ўзважаную думку паважае.*
*Свая сярод літоўскае эліты,*
*І ў прышласьці*
*Тацяна не чужая.*

## Алена Радкевіч

*Алена Радкевіч і ўявы ня мае,*
*Што значыць такое быць з краю,*
*Крутая*
*Паказвае саманазваным змаганцам,*
*Як трэба змагацца,*
*А не вагацца.*

## Вячаслаў Ракіцкі

*Аж вар'яцее цемра злая,*
*Што лёс нам сьветача паслаў, —*
*Залысінамі асьвятляе*
*Шляхі да волі Вячаслаў.*

## Алеся Сёмуха

*У нью-ёрскім каменным лесе*
*Не заблудзіцца панна Леся,*
*Бо раней аж на шэсьць гадзінаў*
*Сьцежкі ведае да навінаў,*
*І туды, дзе чарга ня сьпіць,*
*Дзе для бацькі*
*Льга ўнука купіць.*

## Ганна Соусь

*Палітычны*
*Ён востры соўс,*
*І яго прыгатуе Соусь.*
*Ганна можа ў змаганьні зацята*
*Адстаяць Курапаты.*





## Іна Студзінская

*Па эканоміцы довадаў,*
*Як з прадонных засекаў,*
*Стае ў Студзінскай нястомнай.*
*Ды ў нас,*
*Як даводзіў адзін з генсэкаў,*
*Эканоміка мусіць быць эканомнай...*

## Міхал Стэльмак

*Тлумачыць Стэльмаку ня трэба,*
*Дзе лепей першы гром чуваць,*
*Адкуль бярэ пачатак неба,*
*Дзе любіць дзень адпачываць.*
*Ва ўсім Міхал з хітрынкай цяміць.*
*Край родны ведае напамяць.*

## Натальля Судлянкова

*Наша першая бізнэсвумэн,*
*Эміґранткаю стаўшы,*
*Замежжа*
*Вучыць па-беларуску думаць,*
*Мацаваць сябе наскай ежай.*
*Каб далёка слава грымела,*
*Каб, стаміўшыся ад электронікі,*
*І ў сьпякотнай Сахары ўмела*
*Беларуска пячы дзяронікі.*

## Алег Супрунюк

*Гісторыя час вядзе за руку,*
*Ці час гісторыі хлусіць хітрушча,*
*Даслухаць трэба Супрунюку,*
*Пра што шуміць Белавеская пушча.*

## Ганна Сурмач

*Сурмач —*
*Не з пароды палахлівых,*
*Беларусь ня толькі па архівах,*
*А й па справах ведае да дна.*
*І таму стараецца яна,*
*Каб пра родны край*
*З падачы Ганны*
*Ведалі ад Мэксыкі да Ганы.*

## Юры Сьвірко

*Юрась у палітыку ўлез з галавой,*
*Шыкуючы,*
*Досьвед растрачвае свой.*
*На сайтах шматмоўных*
*Як дома, таму*
*Усё на сьвеце вядома яму.*





## Алена Сьцяпанава

*Зь безагляднасьцю закахана*
*Ва ўсё крывіцкае*
*Панна Сьцяпанава.*
*Караткевіч,*
*Аршанская бітва —*
*Слова кожнае, быццам малітва.*
*Не цярпела чужынцаў ніколі*
*Віцебшчына —*
*Паднявольніца волі.*

## Аляксандар Уліцёнак

*Вораг дрындушак і аднадзёнак,*
*Грунтоўна і без рэклямацый*
*Звык працаваць*
*Цягавіты Ўліцёнак*
*І воддаль ад славы трымацца.*

## Алена Ціхановіч

*Алене спакорыцца факт любы,*
*Бо ўмее паставіць яго на дыбы.*
*Хто мае густ,*
*На любой пасадзе*
*Ад Ціхановіч будзе ў адпадзе.*

## Віталь Цыганкоў

*Ня йдзе аналітык Віталь напралом.*
*Вітае бадзёрага перамога,*
*Бо ён вясёла за круглым сталом*
*У кут заганяе любога.*

## Юлія Шарова

*У хісткай эканоміцы сурова*
*Свой рэй вядзе разважная Шарова.*
*Ёй, маладой,*
*У лірыку б улегчы,*
*Ды не прывыкла*
*Думку мецьулегцы.*

## Сяргей Шупа

*Ня звык ён уладам у ладкі біць.*
*Сваю пахвалу адмервае скупа.*
*Прагрэсу падказку можа зрабіць,*
*Як вучню ля школьнае дошкі,*
*Шупа.*





## ВЕРШ НА СВАБОДУ

*Свабода —*
*Слабо да-*
*йсьці*
*Па асьці,*
*Па жарсьцьве*
*Да мяжы тае,*
*Дзе душа даўгі аддае*
*Звышняму,*
*Які ў ёй жыве.*

*Свабода — гэта*
*Душа ў таямніцы цела,*
*Што сябе на волі прысьніць*
*Захацела сама.*
*Без пакуты*
*Свабоды няма...*

2001

## Як, адкуль і чаму, або Паміж бальніцай і маладзіцай

*Замест пасьляслоўя*

...24 лютага 2004 году. Ля шпітальнага шлягбаўма нас з Сашам Лукашуком спыніла грозная маладзіца: «Позна, ноч, не пушчу, выклічу міліцыю...» І ўсю доўгую спрэчку каля недалёкай бальніцы пад хітраватым лютаўскім месяцам у ціхім карагодзе сьняжынак тупаў нейкі чалавек. Спыняўся, рабіў пару хрумсткіх марозных крокаў, глядзеў угару... У тым было нешта адначасова й ад паэзіі, і ад міжвольнай думкі: ён у нейкім тупіку ці на раздарожжы, калі падаецца, што выйсьця няма.
Цётка нарэшце зьлітавалася (яе вэрсія, хоць па нашай — здалася!), мы ўдвох пакрочылі ў бальніцу шукаць пацыента Барадуліна Р.І. І празь дзясятак крокаў аслупянелі: той адзінокі начны летуценьнік і быў наш





аўтар уласнай пэрсонай! Так хораша гаварылася гадзіны са дзьве на мацнеючым марозіку... Настрой сапсавала хіба прызнаньне, што прагучала напрыканцы: дужа хочацца пісаць, але ж не друкуюць... А працаваць у стол, на потым — неяк не ляжыць душа... Душа палёту прагне! Не для паэта нявызначаная боўтанка паміж бальніцай і маладзіцай, як у ноч тае сустрэчы...
Дзядзька Рыгор з нашымі апэльсынамі пайшоў у сваю палату, а мы наступнай раніцай толькі рукамі разьвялі... Аказваецца, клясык беларускай паэзіі прыхаваў тайну свайго жыцьця: у той вечар яму стукнула роўненька 69 — вельмі паважаная лічба! І нічога не сказаў.
Мы, ясна, пакрыўдзіліся (на саміх сябе) і вырашылі: трэба падарунак. Прычым, не імяніньніку, а самім сабе. А найлепшы падарунак, як вядома, — гэта кніга. Вось тады й прапанавалі грамадзяніну Барадуліну выкупіць віну — напісаць падрабязна й праўдзіва: дзе, чаму, пры якіх умовах ён пазнаёміўся з 75 асобамі, падазраванымі ў вялікім, істотным, хоць зрэдку і неадназначным унёску ў беларускую літаратуру, культуру й мастацтва.
Даваць публічныя сьведчаньні пад агульным загалоўкам «Лета з Барадуліным» аўтар пачаў у эфіры 1 чэрвеня і скончыў 31 жніўня.
Высьветлілася таксама: паэт Барадулін хаваў ад грамадзкасьці той факт, што ён яшчэ і празаік — пяць ягоных эсэ, якія таксама прагучалі на хвалях «Свабоды», уключаныя ў гэтую кнігу як рэчавыя доказы.
І яшчэ адна абцяжарвальная акалічнасьць: аўтар, скарыстаўшыся сваім талентам, без папярэджаньня напісаў эпіграмы на супрацоўнікаў «Свабоды», якія характарызуюцца выключнай суб'ектыўнасьцю, некрытычнасьцю й непрыхаванай сымпатыяй, што пераходзіць ва ўзаемную любоў...
Дзьве прыгожыя даты стаяць побач: 70 гадоў дзядзьку Рыгору й 50 — «Свабодзе». Калі ад адной адняць другую, атрымаецца агульны сярэдні ўзрост, на які будуць адчуваць сябе чытачы пасьля гэтай кнігі.

Паэзія — рэч таямнічая. Чаму, напрыклад, героі паказак пададзеныя ў нейкім дзіўным парадку? Што гэтым хацеў сказаць аўтар? Чаму ня ўсё, што гучала ў эфіры, увайшло ў кнігу, і наадварот? І што менавіта? Хто правільна адкажа — атрымае каштоўны падарунак з аўтографам аўтара, і гэта ж не апошняя сустрэча зь дзядзькам Рыгорам на «Свабодзе»!

*Аляксандар Уліцёнак,*
*прыхільнік Таленту, Пацалаванага Богам*



Сабе здакучыў сам, а вам?



Зьмест